


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 СТУДЗЕНЯ 1999г. № 1/3981 КОШТ 12 000 РУБ.



# З Новым 1999 годам!




## ПАДМУРАК ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

***Сямён ПАДОКШЫН:* "Мы, жывыя сведкі і ўдзельнікі Адраджэння беларускай культуры, якое пачалося з канца 80-ых гг. гэтага стагоддзя, добра ведаем і бачым, якую вялікую ролю ў гэтым працэсе адыграў зварот да каштоўнасцей і ідэалаў першых беларускіх адраджэнцаў — Скарыны, Гусоўскага, Буднага, Цяпінскага, Сапегі і многіх іншых. І якія б сілы ні перашкаджалі нацыянальнаму Адраджэнню, яно непазбежнае, як узыход сонца".**

5, 12

## ПАДЗЕЯ ЧАКАНАЯ...

***Тры меркаванні пра раман Юрыя СТАНКЕВІЧА "Любіць ноч — права пацукоў", надрукаваны ў часопісе "Крыніца".***

6—7

## УЖО ВЫПРОСТВАЕЦЦА ШЛЯХ

***Вершы Алеся КАСКО***

8

## ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

***Леаніда ГАЛУБОВІЧА***

8—9, 12

## ЯК Я ЗДЫМАЎ ХРУШЧОВА

***Апавяданне-быль Міколы ГІЛЯ***

13—14

## ПА ЧЫЁЙ ГАЛАВЕ СУМУЕ ЛАЎР?

***Пародыя-жарт Ведзьмака НЕЛЫСАГОРСКАГА***



# КОЛА ДЗЁН

***Свята Новага года — ці не самае светлае, вясёлае, пасямейнаму шчырае і дарагое. Новы год — гэта яшчэ нязведаныя радасці і здабыткі, нязвдзейсненыя адкрыцці, неспазнаныя шляхі ў будучыню. Якія яны будуць, тыя шляхі? Якой яна будзе, тая будучыня? Новы год задае гэтыя загадкі і сам жа іх спакваля разгадвае. На ягоным парозе ўсе мы — у радасным прадчуванні добрай, шчаслівай прышласці. Год, пазначаны загадкава-палохаючай лічбай 1999, пачынаецца штуршком інтэграцыйных працэсаў. Падпісаныя ў Маскве ў святочны для ўсіх хрысціян, акрамя вернікаў РПЦ, калядны дзень дакументы павінны быццам паспрыяць збліжэнню Беларусі і Расіі, што нібыта абяцае нашаму народу светлую перспектыву. Толькі ж чаму гэтак смутна на душы ў многіх з нас? Чаму думка зноў і зноў вяртаецца да адвечных нашых пытанняў, сфармуляваных Вялікім Купалам амаль 80 гадоў назад? Чаму "нявольніцтва й жабрацтва" па-ранейшаму ядуць нас і "высмоктваюць з сэрца сок"? Чаму мы слухаем, які вецер вее на нашы загоны — "заходні, усходні й ці ад нас, ці к нам", а не жывём сваім уласным розумам? Чаму мы дасюль "дзякуем, што торбы апранулі на нас ды з нашых нітаквалакон"? Чаму мы "прысягаем, клічам Бога ў сведкі, што мы — не мы, што нехта вінават"? Няўжо сапраўды нехта "над будучыняй нашай навек залом пракляты заламаў"? Няўжо й праўда "нас не аб'ясніць розум ясны", каб уваскрэснуць і "выйсці ў свет, як нейкі здольны род"?***

***Дай спадзеў, Новы год!***

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Урад краіны прыняў рашэнне аб павелічэнні з 1 студзеня 1999 года памеру мінімальнай заработнай платы да 500 тысяч рублёў і тарыфнай стаўкі 1 разраду — да 1 мільёна 200 тысяч. Чыноўнікам ёсць нагода парадаваць работнікаў бюджэтнай сферы тым, што іхнія заробкі павялічацца ажно на 70 працэнтаў. Не кажучы пры гэтым пра тое, наколькі павялічацца ў адпаведнасці з новым памерам "мінімалкі" камунальныя і многія іншыя тарыфы і расцэнкі, і не згадваючы нават пры гэтым пра непазбежны скачок цэн...

## ЗНІКНЕННЕ ТЫДНЯ

Канец 1998 года азнаменаваўся знікненнем шмат чаго: таго ж масла з прылаўкаў, а затым яек, свініны, вараных каўбас і сасісак, маргарыну і г. д. І вось чарговая "радасная" навіна: знік бензін. Спачатку на яго заскакалі, па некалькі разоў на тыдзень, цэны — 40, 50, 70 тысяч за літр, а пасля ён і зусім знік. Самым "крутым" аўтааматарам удаецца сяды-тады заправіцца ў камерцыйнікаў, выкладваючы па 120 і больш тысяч за літр. Што ж будзе вясной? На чым выедуць на "соткі" тысячы і тысячы не "крутых", а шараговых уладальнікаў легкавікоў?

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Канец года — бюджэтны час: падсумоўваецца адзін і фарміруецца другі. Калі верыць афіцыйным паведамленням, дык справы і тут, і там складваюцца найлепшым чынам. Даходная частка бюджэту ў 1998 годзе выканана і перавыканана, у выніку чаго дадаткова атрымана амаль 3 з паловай трыльёны рублёў. Такія ж перспектывы абяцае і праект бюджэту на год надышоўшы. Рост даходнай часткі яго прагназуецца ў 2,8 раза адносна ўзроўню мінулага года, а расходнай — у 2,7 раза. Застаецца без адказу хіба адно пытанне: чаму ж мы жывём год ад году ўсё горш і горш?

## СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Па сутнасці, на 1998 год прыпалі дзве юбілейныя даты ў гісторыі Беларусі: 25 сакавіка споўнілася 80 гадоў з дня абвяшчэння БНР, а сёння, 1 студзеня 1999-га, спаўняецца 80 гадоў з дня ўтварэння БССР. І хоць другой не было б без першай, сённяшнія ўлады краіны першай даты не заўважылі, а другую падымаюць "на шчыт" як гістарычную, як пачатак беларускай дзяржаўнасці наогул. Адзначаецца юбілей БССР і дома, у Мінску, і на Смаленшчыне, дзе яна была абвешчана. Там прайшлі Дні культуры Беларусі, вялікая прамысловая выстава, туды на ўрачыстасці ездзіў прэзідэнт Беларусі. І нідзе не гаворыцца, што Смаленшчына — беларуская этнічная тэрыторыя, што БССР і была абвешчана ў Смаленску акурат з гэтае прычыны. Як, дарэчы, анідзе не згадваецца пра сённяшніх беларусаў Смаленшчыны, нібы іх там ніколі й не было...

## АДРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Паведамляецца, што да пачатку вясновых палявых работ у кожным раёне плануецца стварыць механізаваныя атрады ў дапамогу калгасам і саўгасам. Здзіўляцца не выпадае: нічога новага памяць і вопыт не падказвае былой партыйна-савецкай наменклатуры. Стварэнне мехатрадаў — хіба гэта не адраджэнне колішніх МТС? Жыццё адмяніла іх існаванне і жыццё зноў вяртае іх? Дык якое ж яно, наша сённяшняе жыццё? Як кажуць, ёсць пытанне...

## ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

Шараговая, будзённая інфармацыя, якіх нямала мільгае на газетных старонках. Тым не менш, яна міжволі прыцягвае ўвагу, бо надзвычай красамоўная. Калгас "Палачаны" Маладзечанскага раёна набыў па лізінгу камбайн Е-527. Добрая машына, камбайнеры намалацілі на ёй амаль 1000 тон збожжа. Аднак жа за год працы на камбайне калгас павінен аддаць 120 тон ялавічыны — прыкладна 140 адкормленых бычкоў. Калгаснікі ў роспачы: колькі ж запатрабуюць прадаўцы цудутэхнікі ў гэтым годзе? Вось якое прагавітае, аказваецца, гэтае салодкае слова — "лізінг"!

## БІЛЕТЫ ТЫДНЯ

Амаль у два разы ўзрос кошт білетаў на праезд у прыгарадным і міжнародным аўтатранспарце. Павялічыліся і тарыфы на праезд у таксі. Падаражэлі і чыгуначныя білеты. Праезд у купэйным вагоне з Мінска ў Маскву сягнуў за 5 мільёнаў рублёў. Хто дазволіць сабе такія выдаткі? Найперш, вядома, камандзіровачнікі — за дзяржаўны кошт...

## КАРЭКЦІРОЎКА ТЫДНЯ

У друку апублікаваны дакументы, падпісаныя ў Маскве двума прэзідэнтамі. Дагавор паміж Беларуссю і Расіяй аб роўных правах грамадзян і пагадненне аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання канчаюцца звычнымі для афіцыйных міжнародных дакументаў словамі: "Учынена ў г. Маскве 25 снежня 1998 года ў двух экземплярах на рускай мове". Дзіўна, вядома, чаму толькі на рускай. Ды, несумненна, гэта віна нашых чыноўнікаў, а не расійскіх. Не менш здзіўляе і карэкціроўка гэтых дакументаў у "Народнай газеце": у іх апошнія фразы пра мову наогул апушчаны. Маўляў, дзеля чаго гэта згадваць — на якой мове? Хіба не ўсё роўна? У нас жа моўнае пытанне даўно вырашана!..

***Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў сардэчна віншуе ўсіх літаратараў з Новым годам і Калядамі і жадае добрага здароўя, шчасця, творчых поспехаў.***

# Лаўрэаты літаратурных прэмій







Прысуджаны Літаратурныя прэміі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Лаўрэатамі сталі: у галіне паэзіі — **Алесь ПІСЬМЯНКОЎ** за кнігу "Вершы" (прэмія імя Аркадзя Куляшова), у галіне крытыкі і літаратуразнаўства — **Анатоль ВЕРАБЕЙ** за кнігу "Абуджаная памяць", у якой асэнсоўваецца жыццёвы і творчы шлях Уладзіміра Караткевіча (прэмія імя Уладзіміра Калесніка), у галіне дзіцячай літаратуры — **Хведар ГУРЫНОВІЧ** за кнігу "Птушыная азбука" (прэмія імя Янкі Маўра).

Сярод намінантаў Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа, якая, як вядома, прысуджаецца за лепшыя творы прозы, галасаванне праводзілася на двух пасяджэннях рады, аднак ніводзін з прэтэндэнтаў не набраў неабходнай колькасці галасоў.

# У Радзе СП — змены

Адбылося чарговае пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Адным з пытанняў, вынесеных на парадак дня, былі выбары намесніка старшыні творчага саюза. У выніку тайнага галасавання ім стаў Навум Гальпяровіч.

Навум Якаўлевіч нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Працаваў на Полацкім шклозаводзе, у полацкай аб'яднанай газеце "Сцяг камунізму", завочна вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1979 годзе скончыў завочна Віцебскі педагагічны інстытут. У 1977—1980 гадах быў рэдактарам радыёвяшчання вытворчага аб'яднання "Палімір" у Наваполацку, у 1980—1981 гг. — супрацоўнік наваполацкай гарадской газеты "Химик", з 1981-га — уласны карэспандэнт Рэспубліканскага радыё па Віцебскай вобласці, з 1997 года — намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Вожык".

Першы верш Н. Гальпяровіч апублікаваў у 1967 годзе. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Сцяжына". Выйшлі кнігі паэзіі "Брама", "Востраў душы", "Струна". Выступае таксама з літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі.

# Ці ёсць падставы для спадзяванняў?

Чарговае сваё паседжанне драматургі правялі ў выглядзе "круглага стала" — з запрашэннем крытыкаў і рэжысёраў. Абмяркоўвалі вынікі Першага фестывалю беларускай драматургіі, што адбыўся ў Бабруйску, і ўвогуле тэатральную сітуацыю. З усяго сказанага можна вылучыць дзве выразныя пазіцыі. Першая: калі тэатру на сёння непатрэбна нацыянальная драматургія, то тым горай для тэатра, "мы здолеем рэалізавацца ў іншых жанрах". Другая: тэатр у нас такі, які ёсць, узаемаадносіны аўтараў тэкстаў і пастаноўшчыкаў паўсюль складваюцца няпроста, і з гэтым трэба лічыцца. Найбольшым аптымістам выявіў сябе Г. Марчук: "Калі п'есы Алены Паповай ставяць у Германіі, то не ўсё так блага". Ён нагадаў, што ў галіне літаратуры для тэатра з'яўляюцца новыя імёны, сярод іх і Фёдар Палачанін з Віцебшчыны.

Увогуле ж было адзначана, што падстаў для радасці мала. Купалаўскі тэатр за 10 год "снизошел" да трох сучасных аўтараў-землякоў...

З выступленняў А. Дударава, М. Манохіна, А. Паповай, Л. Караічава, Р. Баравіковай і іншых выкрышталізавалася думка, што галоўнае — захаваць самапавагу і творчую актыўнасць, часцей збірацца, прадумаць канкрэтны план дзеянняў. Паступіла, напрыклад, прапанова цясней кантактавацца з тэатрам-лабараторыяй беларускай драматургіі. Прысутны яго кіраўнік В. Мазынскі расказаў пра свой вопыт работы з маладымі творцамі.

У арганізацыі "круглага стала" вялікую дапамогу аказаў кансультант Саюза пісьменнікаў Я. Каршукоў.

СУСТРЭЧЫ

# Пра гітару, экстрэмізм і каханне...

***З лістка напаўлегальнага лімаўскага ўліку. Пол: мяркуючы па барадзе і вусах — мужны. Узрост: не нагадвае пра Хрыста, але любіць стаяць на ростанях-скрыжаваннях, задумліва намацваючы ў кішэні ржавы цвік. Сацыяльнае паходжанне: з будучых. Грамадзянскі статус: экстрэміст з гітарай у руках і неапублікаванымі рукапісамі пад пахай, нядаўні жыхар Гродзенскай турмы за бязвізавае падарожжа ў Вільню. Нацыянальнасць: беларус перад усім, але калі дакучае тутэйшая абыякавасць, з ахвотай спявае па-ўкраінску. Сямейнае становішча: у працэсе любові і кахання. Працягваць бессэнсоўна, бо дасведчаным і без таго зразумела, што ў гасцях у навагодняга "ЛіМа" — гомельска-аршанскі бард з рагачоўскімі каранямі Андрэй МЕЛЬНІКАЎ.***



**— Якія радкі з уласных песень, спадар Андрэй, адпавядаюць сённяшняму твайму настрою?**

— Па-першае, "радасна на душы, на душы святло!" Па-другое, "я хачу мець вілу. Я яе заслужыў". Таму "свяці ж ярчэй, Усенароднае Сонца!" Бо "ў нас на траіх ажно дзве галавы"... Карацей, у сувязі з агульначалавечым навагоднім святам ува мне пануе грамадска карысны настрой. Я перапоўнены разуменнем "чаяний" і дабрачыннасцю. Ясна бачу святло ў канцы тунеля.

**— Значыць, стомы ад аптымізму няма? Зайздрошчу.**

— Няма чаму зайздросціць! Шапэнгаўэр сказаў калісьці, што аптымізм — гэта баязлівасць. Дык калі ў беларусаў зараз стала меней аптымізму, значыць, паменела і баязлівасці. Файна!

**— Кожнаму шчыраму беларусу па віле — сутнасць тваёй "грамадска карыснай" дзейнасці?**

— Ну, пытанне вілы для мяне першым паставіў не я. Тры гады таму на творчым вечары Эдуарда Акуліна пасля выканання мною ўпершыню харызматычнай песні "Гэта мы!" адзін сябра Саюза мастакоў прылюдна паабяцаў мне падарыць вілу ў наваколлі Мінска. У добразычліўца іх, здаецца, некалькі было, як ён сцвярджаў. Не ведаю, раздарыў ён свае вілы, але я і дагэтуль чакаю сваёй.

**— Андрэй, ці лічыш ты сябе ветэранам беларускага "бардызму"?**

— Не. Ветэраны пачыналі спяваць па-беларуску яшчэ напрыканцы сямідзесятых. Сорамна прымерваць чужыя лаўры. Я ж стаў беларускім бардам толькі ў 87-ым.

**— Але ж, наколькі ведаю, "Беларуская маладзёжная" змясціла аднойчы здымак, дзе ты васьмідзевяцігадовы ўжо з гітарай у руках...**

— Гэта проста гульня была. Хацелася калісьці паказаць сябе

**ЧАСАПІС**

## Даўнейшыя мелодыі для скрыпкі...



Выдатны айчынны скрыпач Вячаслаў Зяленін і бліскучы клавесініст, арганіст Аляксандр Мільто выканалі нядаўна ў філарманічнай Зале камернай музыкі другую на працягу года канцэртную праграму з твораў, якія ніколі дагэтуль не гучалі ў Мінску. Адбылася прэм'ера скрыпічных санат кампазітараў 17—18 стагоддзяў: Т. Альбіноні, А. і Ф. Верачыні, Ж. Леклера, П. Лакатэлі, Д. Тарціні, Н. Порпары. Кожнаму з гэтых твораў ужо споўнілася па 250—300 гадоў.

В. Зяленін і А. Мільто прысвяцілі шэраг сваіх выступленняў адраджэнню забытых шэдэўраў мінуўшчыны. Сапраўдныя асветнікі, яны пастаянна пашыраюць мастацкі кругагляд публікі, узбагачаюць канцэртнае жыццё Мінска і Беларусі непаўторнымі музычнымі скарбамі.

Бясспрэчны поспех вечарыны паказаў, што думкі і пачуцці даўніх творцаў не здаліся састарэлымі на ўспрыманне сучаснай сталічнай аўдыторыі, значную частку якой складала моладзь.

Я заўсёды прысутнічаю на канцэртах гэтага зладжанага інструментальнага дуэта і кожны раз адчуваю гонар за тое, што выканаўцы такога высокага ўзроўню належаць Беларусі. Сярод беларускіх музыкантаў розных спецыялізацый толькі адзін Вячаслаў Зяленін прадстаўляе сёння на канцэртнай эстрадзе мастацтва віртуознага скрыпічнага сольнага выканальніцтва. Яго рэпертуар вельмі значны і ўвесь час папаўняецца, ахопліваючы цяпер творы 17—20 стст., ад класікі барока да найноўшых опусаў маладых беларускіх кампазітараў. Прыгожы, сакавіты, багаты на адценні гук, энергічны захапляючы рытм, лёгкасць у пераадоленні віртуозных складанасцей, эмацыянальны ўздым і рамантычная парывістасць вызначаюць выканальніцкі стыль В. Зяленіна.

Адпавядае скрыпачу і яго партнёр: А. Мільто надзвычай дакладна разумее намеры саліста, і ў той жа час яго акампанемент заўсёды мае самастойную каштоўнасць. Як клавесініст ён удала спалучае імправізацыйную свабоду з рытмічнай дакладнасцю, з першага такту дасягае карункавай лёгкасці гучання. Свайму арганнаму акампанементу А. Мільто надае манументальнасць і бясконцую разнастайнасць тэмбравых колераў, якія гарманічна спалучаюцца з голасам скрыпкі.

Шырокі дыяпазон выканальніцкіх сродкаў дазволіў музыкантам надаць адметнасць кожнаму твору ў праграме. У першым аддзяленні сярод іншых вылучыліся ўсмешлівая, як летні італьянскі пейзаж, Саната Ля мажор Т. Альбіноні і журботная, парывістая Саната мі мінор Ф. Верачыні. Цэнтрам другога аддзялення сталася Саната рэ мінор Д. Тарціні, якая захапіла слухачоў напружанай палкасцю тону і віртуозным пафасам.

Калі скончылася дзівоснае музычнае падарожжа ў глыбіню стагоддзяў, захацелася новай сустрэчы з гэтай музыкай, якая застаецца заўсёды маладой.

**Юрый ЗЛАТКОЎСКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

*На здымку: В. ЗЯЛЕНІН ды А. МІЛЬТО.*

## Алесь Камароўскі — дырэктар выдавецтва "Юнацтва"

Пісьменнік Алесь Камароўскі прызначаны дырэктарам выдавецтва "Юнацтва". А. Камароўскі — родам са славутай Мікалаеўшчыны Стаўбцоўскага раёна. Скончыў аддзяленне беларускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Апошнім часам працаваў намеснікам галоўнага рэдактара — адказным сакратаром часопіса "Маладосць". Аўтар некалькіх кніг паэзіі і прозы.

З НАГОДЫ

# Перачытайма тэкст забыты...

***Надыдзе — а надыдзе! — час і ў нашых календарах ён увечніцца чырвоным радком назаўсёды — Дзень Усебеларускага з'езда 18 снежня (31 па новым стылі) 1917 года. Дзень рашучага веставання свабоднай незалежнай краіны — прадвесце БНР, БССР, Рэспублікі Беларусь. І тады, натуральна, на старонкі вучнёўскіх, студэнцкіх чытанак, "гісторый" зноў вернуцца тэксты з тых помных, пакутлівых дзён. Калі збалелыя беларускія грудзі выбухнулі на ўвесь свет нясцярпна-грымотнае "НЕ!" — нявольніцтву, гвалту, халопству. Між гэткіх тэкстаў-вяртанцаў — і вострая споведзь Змітрака Бядулі (Ясакара).***

***Няхай прагучыць яна сёння — суровою згадкай пра ўчора, нясціхным сігналам у заўтра Вызвольнае Нашае Долі.***

**Кастусь АТРАШЭЎСКІ**

ЯСАКАР

## З нядаўняга мінулага

*Пасля сталеццяў гвалтавання*
*Над нашым цёмным мужыком,*
*Пасля вандалаў акпіванняў,*
*Што сыпаліся на наш народ,*
*Пасля таго, як край ў нядолі*
*Ў мацнейшых быўшы батраком,*
*Народ устаў пад гулам волі,*
*Давай склікаці веча-сход.*

*На гулкі звон прачнуліся людзі,*
*Каб Беларусь адбудаваць.*
*Агні любові грэлі грудзі,*
*Уваскросла вера ў лепшы лёс.*
*Вось зажадалі і ратаі*
*Ад гора край свой ратаваць, —*
*Іх звала Беларусь святая*
*Малітвай шчырай да нябёс:*

*"Ідзі, ўвесь люд, што пад ярмамі*
*Не страціў гонару душы!*
*Ідзі, ўвесь люд, крывёй, слязамі*
*Што абліваў абшар раллі!*
*Устань ад сну, устань ад мукі,*
*Бо досыць скардзіцца ў цішы.*
*Забудзь бяду, бо годзе мукі —*
*Ты гаспадар сваёй зямлі!"*

*"Ты болей ад усіх славянаў*
*Загады старых дзён спаўняў.*
*Табой на гуслях аспявана*
*Уся бывальшчына твая.*
*Ў глухіх кутках ты родну мову —*
*Багаты скарб свой — пільнаваў.*
*Шапталі сны табе дубровы*
*І вабіў рогат ручая".*

*"Твая душа крыштальна-чыста*
*І шчыры думкі у цябе —*
*Іх гадаваў абшар квяцісты*
*І аксамітныя лугі.*
*Гэй, досыць гнуць свой карк балючы,*
*Ты не загінеш ў барацьбе.*
*Ў цябе запас жыцця магучы,*
*Бі аб каменні ланцугі!"*

*"Будуй жыццё на лад сучасны,*
*Чужым ты досыць будаваў.*
*Ідзі на шлях свой родны, шчасны,*
*Ідзі да сонца упярод!*
*О, ты не згінеш, ты адважны,*
*Ты для чужых кроў праліваў,*
*Ідзі цяпер, бо момант важны,*
*Пад свой штандар ідзі, ўвесь род!"*

*Вось ў сэрца Беларусі-маці —*
*У Менск на гулкі кліч прыйшлі.*
*Свае жаданні расказаці*
*І думкі шчыра гаварыць.*
*Аб быўшых днях, аб часе новым*
*Цікава гутаркі вялі,*
*Гарача сыпалісь прамовы*
*Аб тым, як нам шчасліва жыць.*

*Былі старыя, маладыя*
*З усіх глухіх сваіх куткоў,*
*З хатомкамі дзядзькі лясныя,*
*І з розных гарадоў народ.*
*Былі з чужых краёў нядолі —*
*Прадстаўнікі уцекачоў;*
*Было і шмат ад бітваў поля —*
*Усе ішлі на родны сход.*

*Было больш тысячы народу*
*Ад беларускіх земляў ўсіх.*
*З паўдня, з паўночы, з заходу, ўсходу,*
*З Вільні, з-пад Нёмна, з-пад Дзвіны.*
*З усіх дванаццаці губерняў*
*І многа з розных месц другіх,*
*З багатых глеб адборна зерне*
*Было прыслана без маны.*

*У слаўным Менску гмах шляхецкі*
*Гудзеў-звінеў, як бы царква,*
*Рэч-Паспалітая без спрэчкі*
*Падняла галаву сваю.*
*Ўваскросла з гробу наша Маці.*
*З дэвізам: "Беларусь жыва!"*
*Пагоня зноў прыйшла вітаці*
*Усю беларускую зямлю.*

*А вораг п'яны, вораг дзікі*
*З стральцамі гідкімі услед*
*Прыйшоў, падняў шалёны крыкі,*
*Штыхамі веча разагнаў.*
*Ў шляхецкім гмаху пацямнела,*
*Заплакаў ў цені сівы дзед.*
*Хтось заспяваў аб волі смела,*
*Хтось ў роспачы ў кутку стагнаў.*

*І павялі сыноў народу*
*У бальшавіцкую турму,*
*А рэшта, ўсе ад веча-сходу*
*Паразбрыліся хто куды,*
*Каб гвалт маскоўскі, гвалт саромны*
*Па свеце расказаць ўсяму,*
*І каб народ свой, бедны, цёмны*
*Зноў ратаваці ад бяды.*

*І вось гвалтоўнікі чужыя*
*Па нашых вёсках і мястох,*
*Банкеты ладзілі страшныя,*
*Край абліваючы крывёй.*
*А беларус чужым астаўся*
*У родных у сваіх мяжох*
*І як раней чужак смяяўся*
*Над беларускаю душой...*

*Але не зглух крык перуновы*
*Аб новым радасным жыцці*
*І шлях свой вольны, шлях свой новы*
*Ўжо не пакіне селянін.*
*Ўсе перашкоды, ўсе каменні*
*Ён спіхне з простага пуці*
*І стане ён пасля цярпення*
*Гаспарадом сваіх раўнін.*

*А ты, Баян наш, наладзь ліру*
*І струны пальцамі крані,*
*Ў святочны дзень на хмельным піру*
*Няхай ўспомне ўвесь народ*
*Аб тым, як беларус да волі*
*Душою рваўся ў нашы дні,*
*І колькі меў ён шчэ нядолі,*
*І колькі меў ён перашкод.*

*Газета "Беларусь", Менск, 1919, 24 снежня, N 52 (79)*

ПОШТА

# Каб не было ў нас столькі "чаму?"

Беларускі народ здаўна на міжславянскім фоне вылучаецца сваёй самабытнай культурай і мовай. Яго каштоўныя моўныя калівы бяруць свой пачатак у глыбокай старажытнасці, калі іх носьбіты адчувалі патрэбу ў культурных і жыццёвых зносінах незалежна ад становішча ў грамадстве. Нямала дзеячаў беларускай культуры папулярызавалі і папулярызуюць нашу мову ў розныя часы. У яе жыцці былі ўзлёты (з 1566 г. стала дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім) і падзенні (была забаронена Варшаўскім сеймам 1796 г. у справаводстве, пазней — царскім урадам да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.).

У першыя паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі наша мова адчувала належную патрэбу ў розных сферах яе ўжывання і вывучэння. Нават у даперабудовачных умовах было добрай традыцыяй заканамернае вывучэнне беларускай мовы ў сям'і роднасных усходнеславянскіх моў.

Не паслабла цікавасць да беларускай мовы і ў наш час, калі яна абвешчана дзяржаўнай адначасова з рускай мовай. Нашы пісьменнікі, творчая інтэлігенцыя і асабліва моладзь хочуць ведаць карані сваёй мовы, глыбока і ўсебакова асэнсаваць яе моўныя здабыткі на розных узроўнях і гістарычных этапах развіцця. На жаль, яна не стала зацікаўленым дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь па выкананні Закона аб беларускай мове на належным узроўні, у параўнанні з рускай мовай.

Невыпадкова сёння ў свядомасці беларусаў часта культывуецца адсутнасць перспектыўнай патрэбы ў родным слове. Прыхільнікі такой думкі грунтуюць свае меркаваннні на тым, што з-за нізкай нараджальнасці і высокай смяротнасці беларусаў, асабліва пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, беларуская нацыя не вытрымае выпрабавання часам і знікне, разам з ёй перастане існаваць і яе мова.

На вялікі жаль, многія з тых, хто расчараваўся ў жыццяздольнасці беларускай нацыі і яе мовы, не ведаюць пра беларусаў не толькі блізкага, але і далёкага замежжа, якія па розных прычынах аказаліся за межамі сваёй Бацькаўшчыны, але не страцілі сваю родную мову, валодаюць ёй, вывучаюць яе гісторыю і сучасны стан на нарматыўным і народна-гутарковым узроўнях. Ёсць над чым задумацца нашаму брату, калі ўлічыць (паводле "Гістарычнага слоўніка Беларусі" нашага суайчынніка з далёкага замежжа Яна Запрудніка (Лондан, 1998), што колькасць беларусаў, якія пражываюць на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, вельмі значная. Так, у Расіі жыве 1 200 000 беларусаў, на Украіне — 440 000, у Казахстане — 183 000, Латвіі — 120 000, Літве — 63 000, Эстоніі — 29 000, Узбекістане — 29 000, Малдавіі — 20 000. У іншых еўрапейскіх і нееўрапейскіх краінах беларусаў таксама нямала: у ЗША — 600000, Польшчы — 250 000, Аргенціне — 150 000, Канадзе — 50 000, Францыі — 30 000, Вялікабрытаніі — 10 000, Аўстраліі — 10000, Германіі — 3 000, Бельгіі — 1 000. Гэтыя лічбы сведчаць пра тое, што беларускай нацыі не пагражае знікненне.

На шчасце, многія нашы суайчыннікі ўсведамляюць сваю нацыянальную прыналежнасць, з павагай і глыбокай ашчаднасцю даносяць да нас традыцыйнае валоданне, засваенне і зберажэнне роднай культуры і мовы на розных кантынентах. У месцах кампактнага пражывання беларусаў свету створаны адпаведныя ўмовы для вывучэння беларусістыкі ў цэлым.

Да слова, у названым слоўніку змешчаны шматлікія спасылкі на крыніцы рознага зместу. Сярод іх — дасягненні ў вывучэнні гісторыі Беларусі, беларускай мовы, літаратуры і мастацтва.

Асобна пададзены дакументальныя звесткі пра ўладароў і кіраўнікоў Беларусі, пачынаючы з Полацкага княства (980—1230), Тураўскага (988—1190), знаходжання Беларусі ў саставе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай (1230—1795), расійскай імперыі (1762—1917) і канчаючы паслякастрычніцкім перыядам Беларусі (1917—1997).

Багаты матэрыял па розных галінах ведаў пра Беларусь гаворыць за тое, што нам, беларусам, трэба не сумнявацца, а ганарыцца сваёй гісторыяй, жыць годна, верыць у светлы лёс культуры і мовы.

Вяртаючыся да беларускай мовы, неабходна мець на ўвазе адзін істотны момант. Нас трэба не раз'ядноўваць з суайчыннікамі далёкага замежжа, а па магчымасці зближаць для сумеснага творчага супрацоўніцтва па прынцыповых праблемах жыцця і дзейнасці беларусаў у вялікім свеце. Чым хутчэй у нас зменяцца адносіны да іх, тым надзейней дойдзем да ісціны адносна ролі беларускай культуры і мовы ў жыцці грамадства. А тое, што многія беларусы, як птушкі, разляталіся ў свой час далёка ад родных хат і не ведалі, ці вернуцца ў родныя мясціны, — гэта рассудзіць наша гісторыя. Калі будзе пастаўлена і станоўча вырашана пытанне сістэмнай і мэтанакіраванай сувязі з беларусамі свету па далейшым вывучэнні гістарычнай і сучаснай Беларусі, перспектыўнага развіцця і функцыянавання яе мовы на народна-нацыянальнай аснове, тады знімуцца і невясёлыя прагнозы тых, хто сумняваецца ў жыццядзейнасці і жыццяздольнасці сваёй нацыі і яе мовы. Не будзе ўзнікаць тады ў нас і столькі пытанняў "чаму?". Як, напрыклад, чаму не адкрыта дарога беларускай моладзі далёкага замежжа да ведаў у ВНУ Рэспублікі Беларусь. Няхай яны ведаюць, што моўным ландшафтам Беларусі цікавяцца многія краіны, дзе прабудзілася нацыянальная свядомасць і ўсведамленне самабытнасці і роўнасці роднай мовы сярод іншых моў свету. Такое шчырае прызнанне ў паэтычнай форме даўно прадказаў знакаміты народны паэт Беларусі, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай мовы Янка Купала:

***Паплыло паводкаю,***
***Загуло, як вецер,***
***Слова беларускае***
***Па вялікім свеце.***

**Уладзімір АНІЧЭНКА,**
**прафесар**

*г. Гомель*

Сямён ПАДОКШЫН

# Падмурак дзяржаўнасці

## БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ XVI — ПАЧАТКУ XVII ст. І СУЧАСНАСЦЬ



У ФІЛАСОФІІ гісторыі Карла Ясперса ёсць ключавое паняцце — "восевы час", або "восевая эпоха" — асноватворны перыяд у гісторыі чалавецтва паміж 800 і 200 гг. да н. э., калі ўзніклі сусветныя рэлігіі і філасофія, сфарміравалася сучасная духоўнасць, склаўся тып чалавека, які існуе і ў нашы дні. Гэта, згодна Ясперсу, адбылося "амаль адначасова" і "незалежна адзін ад аднаго" ў Кітаі, Індыі, Іране, Палесціне, Грэцыі. Менавіта ў "восевы час" абудзіліся чалавечы дух, самасвядомасць, чалавек пачаў асэнсоўваць "быццё ў цэлым, самога сябе і свае межы". Прычым, "тым, што адбылося, што было створана і асэнсавана ў той час, пісаў К. Ясперс, чалавецтва жыве аж да сённяшняга дня. У кожным сваім парыве людзі, успамінаючы, звяртаюцца да восевага часу, запальваюцца ідэямі гэтай эпохі".

Для Беларусі такім "восевым часам", "восевай эпохай" з'яўляецца перыяд першага беларускага Адраджэння (XVI — пачатак XVII ст.). Менавіта ў гэтую эпоху сфарміраваліся каштоўнасці і ідэалы, якія складаюць аснову сучаснай духоўнасці і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. У гэты час жылі асноватворцы айчыннай гуманістычнай культуры, нацыянальнага духу, беларускай ідэі Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Астафей Валовіч, Леў Сапега, Андрэй Волан, Фёдар Еўлашоўскі, Лаўрэнцій Зізаній, Мялецій Сматрыцкі і многія іншыя. Гістарычна заканамерна, што ў часы нацыянальнага ўздыму да гэтага, восевага для беларускага народа і культуры часу звярталіся і звяртаюцца прадстаўнікі айчыннай інтэлігенцыі — пісьменнікі, літаратуразнаўцы, філолагі, гісторыкі, філосафы, мастакі; што яго каштоўнасцямі і ідэаламі захапляюцца не толькі інтэлектуалы, але і нацыянальна свядомыя рабочыя, тэхнакраты, бізнесмены, сяляне, моладзь.

Спынімся на некаторых, найважнейшых каштоўнасцях і ідэалах, якія завешчаныя нашаму часу першым беларускім Адраджэннем. Гэта: спалучэнне агульначалавечага і нацыянальнага; рэнесансна-гуманістычная, персаналісцкая канцэпцыя чалавека, якая знітавана з ідэяй духоўнай свабоды, вяршэнства закона, канстытуцыйна-прадстаўнічай сістэмай улады; усведамленне неабходнасці культурна-рэлігійнай згоды, паразумення паміж Усходам і Захадам; талерантнасць як адна з гістарычна абумоўленых ментальнасцей культуры Беларусі; этычная дамінанта айчыннай філасофскай культуры; ідэя развіцця духоўнай культуры на нацыянальнай беларускай моўнай аснове; непрымальнасць у духоўным жыцці, нацыянальна-культурнай палітыцы прымусу і насілля.

Усталяванне асноватворных каштоўнасцей і ідэалаў беларускай культуры ў першую чаргу знітавана з постаццю Францыска Скарыны. Адной з галоўных ідэй, якую сфармуляваў Скарына — гэта ідэя спалучэння агульначалавечых, хрысціянска-гуманістычных каштоўнасцей і ідэалаў з ідэаламі і каштоўнасцямі нацыянальнымі. Абстрактныя рэлігійныя і сацыяльна-этычныя паняцці хрысціянства, свайго часу — веру, любоў, справядлівасць, агульнае дабро, грамадскую карысць, індывідуальны і грамадзянскі абавязак, маральны і юрыдычны закон, творча-пазнавальную і практычную дзейнасць — Скарына не толькі гуманізуе, але і нацыянальна канкрэтызуе. Менавіта Скарыне належыць першынствуючая заслуга ў сцвярджэнні ў беларускай народнай свядомасці векавечнага значэння не толькі хрысціянска-гуманістычных, але і такіх нацыянальна-патрыятычных каштоўнасцей, як канкрэтная радзіма, родная мова, нацыянальная культура.

У сваіх прадмовах да біблейскіх кніг Скарына адхіліўся ад артадаксальнай візантыйска-праваслаўнай саборнай традыцыі, абгрунтоўваючы рэнесансна-гуманістычную, персаналісцкую канцэпцыю чалавека. Гранічна пашыраючы межы індывідуальнай духоўнай свабоды, беларускі мысліцель сцвярджаў бязмежнае права чалавека на пазнанне і творчасць, лічыў яго здольным дасягнуць інтэлектуальна-маральнай дасканаласці, або ідэала з дапамогай індывідуальных намаганняў, падкрэсліваў персанальную маральную адказнасць за ўчынкі. Менавіта з гэтых, рэнесансна-гуманістычных пазіцый Скарына абвясціў права індывіда на незалежнае, самастойнае тлумачэнне Біблііі, сцвярджаў неабходнасць актыўных адносін чалавека да існуючай грамадскай рэчаіснасці. Персаналісцкая тэндэнцыя была характэрна для беларускай духоўнай, у прыватнасці, палітычнай і рэлігійнай, культуры і да Скарыны, яна была знітавана з тымі прывілеямі і свабодамі, якія надаваліся шляхце, гараджанам вялікакняжацкімі і каралеўскімі граматамі, Магдэбургскім правам, а потым і Статутамі ВКЛ. Яе яскравыя праявы мы наглядаем не толькі ў свецкім, але і ў царкоўным жыцці Беларусі і Украіны XVI—XVII стст., ды і пазней. Характэрны прыклад — брацтвы, якія адстойвалі права міран уплываць на жыццё праваслаўнай царквы, самастойна з дапамогай Біблііі вырашаць багаслоўскія пытанні. Персаналісцкая тэндэнцыя, праявы якой мы наглядаем у Беларусі ў даскарынаўскі і скарынаўскі перыяд, узмацнілася ў эпоху рэфармацыйнага руху (другая палова XVI ст.), з якім знітаваны росквіт рэлігійнага індывідуалізму ў краіне. Персаналісцкая тэндэнцыя стала адметнай рысай беларускай ментальнасці, спосабам рэалізацыі духоўнай, рэлігійнай, сацыяльнай, нацыянальнай свабоды. Яе праявы ў беларуска-ўкраінскім праваслаўі зрабілі апошняе адметным ад праваслаўя маскоўскага. Як вядома, персаналісцкая тэндэнцыя пранізвае паэзію Янкі Купалы, з'яўляецца філасофскай дамінантай "Новай зямлі" Якуба Коласа, прозы Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча і інш.

Выдатным духоўным здабыткам беларускага Адраджэння XVI — пачатку XVII ст. з'яўляецца ідэя вяршэнства закона і прававой дзяржавы, знітаваная з рэнесансна-гуманістычнай, персаналісцкай канцэпцыяй чалавека. Водгук гэтай ідэі наглядаем у скарынаўскіх прадмовах да "Другазаконня" і "Кнігі суддзяў", у прыватнасці ў думках пра натуральнае паходжанне права, яго абумоўленасць мараллю, неабходнасць усталявання ў грамадстве справядлівага правасуддзя і інш. Прававыя погляды Скарыны з'яўляліся адлюстраваннем шматвяковай юрыдычнай практыкі, у выніку якой у краіне ўсталявалася канстытуцыйна-прадстаўнічая сістэма ўлады, нараджалася ідэя вяршэнства закона, філасофскае абгрунтаванне канцэпцыі прававой дзяржавы даў Леў Сапега ў сваіх прадмовах да Статута 1588 г. Найвышэйшай каштоўнасцю, лічыў Сапега, з'яўляецца свабода, сутнасць якой у абароненасці жыцця, здароўя, годнасці, маёмасці чалавека. Самым надзейным абаронцам гэтых правоў чалавека з'яўляецца закон. Усе — ад караля і вялікага князя да гараджаніна і селяніна — павінны падпарадкоўвацца закону. "Естесьмо невольниками прав для того, абысь мы вольности уживати могли", цытуе Сапега Цыцэрона. Жыхарам ВКЛ трэба быць правасвядомым народам: "кожный обыватель годен есть наганенья, который вольностю се фалить, а прав своих умети и розумети не хочеть". Беларусы павінны ганарыцца тым, што яны "не обчым яким языком, але своим власным права списаные мають".

Ідэя вяршэнства закона і прававой дзяржавы, выпрацаваная шматвяковай палітыка-юрыдычнай практыкай і думкай ВКЛ, уваходзіць у залаты фонд не толькі айчыннай, але і сусветнай палітыка-прававой культуры, з'яўляецца тэарэтычным падмуркам для пабудовы сучаснай беларускай прававой дзяржавы.

Скарынам жа была абгрунтавана і такая асноватворная ідэя беларускай ментальнасці, духоўнай культуры Беларусі як неабходнасць сінтэзу каштоўнасцей і ідэалаў Усходу і Захаду, дасягнення паміж імі культурна-рэлігійнай згоды, паразумення. Праблема гэта ў грамадстве Беларусі, як вядома, узнікла задоўга да Скарыны і была абумоўлена геапалітычным становішчам краіны "на мяжы культур", плюралізмам рэлігійна-царкоўнага жыцця. Як палачанін, як выхаванец Кракаўскага універсітэта, як доктар медыцыны Падуанскага універсітэта, нарэшце, як перакладчык і выдавец Біблііі Скарына ніяк не мог абысці праблему суадносін паміж культурамі Усходу і Захаду. У сваіх прадмовах да Біблііі ён прапануе яе рашэнне. Рашэнне гэта — сінтэз, свабоднае і добраахвотнае засваенне ўсходнім славянствам пэўных, неабходных, жыццёва апраўданых каштоўнасцей, і перш за ўсё, заходняй сістэмы адукацыі — "сямі свабодных навук", спалучэння рэлігійна-хрысціянскай, "Саламонавай" і натуральнай, навукова-філасофскай, "Арыстоцелевай" мудрасці. Трэба адзначыць, што "Арыстоцелева мудрасць" — гэта заходнееўрапейская філасофія і навука, да якой сучаснае Скарыне праваслаўе, асабліва маскоўскае, адносілася гранічна падазрона. Скарына, такім чынам, сфармуляваў рэнесансна-гуманістычную канцэпцыю развіцця айчыннай культуры, якая ў наступным была прынята "на ўзбраенне" прагрэсіўнымі коламі беларуска-ўкраінскай грамадскасці, рэалізавана ў педагагічнай сістэме брацкіх школ, Кіева-Магілянскай акадэміі, істотна паўплывала на светапогляд выдатных дзеячаў праваслаўнай царквы і айчыннай культуры — Пятра Магілы, Сільвестра Косава, Сімяона Полацкага і інш.

У прадмовах да скарынаўскай Біблііі больш-менш выразна акрэслена рэнесансна-гуманістычная мадэль рэлігійна-царкоўнага жыцця, асноўным зместам якой з'яўлялася ідэя згоды ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў на падставе ўзаемнай цярпімасці. У прадмовах да Біблііі цалкам адсутнічаюць тэрміны "праваслаўе" і "каталіцтва", а гаворка ідзе пра хрысціянства наогул. На нашу думку, гэта свядомая, мэтанакіраваная, прынцыповая пазіцыя Скарыны, які, зыходзячы з гістарычнага вопыту, умоў айчыннага і заходнееўрапейскага жыцця, рэнесансна-гуманістычнай інтэнцыі, з'яўляўся прыхільнікам прымірэння і пагаднення ўсходняга і заходняга адгалінаванняў хрысціянскай царквы. Гэту ідэю ўспрынялі яго нашчадкі, дзеячы беларускага Адраджэння. Дзякуючы намаганням ліберальнай беларускай шляхты ідэя верацярпімасці была зафіксавана ў Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., Статуце ВКЛ 1588 г. Яна з'яўлялася кіруючым прынцыпам дзяржаўнай палітыкі да той пары, калі ўлада, частка пануючага класа і праваслаўнага святарства не пераарыентавалася на іншую, контррэфармацыйную мадэль рэлігійна-царкоўнага жыцця, падставай якой з'яўлялася прымусовая унізацыя.

Талерантнасць, павага да іншаверства і іншадумства з'яўляецца адной з характэрных рыс культуры Беларусі, беларускага менталітэту, сведчаннем высокага ўзроўню, цывілізаванасці нацыянальнага духу беларусаў, іх здольнасці вырашаць існуючыя сацыяльныя палітычныя, міжнародныя і іншыя праблемы шляхам перагавораў, кампрамісаў, іх прынцыповае непрыманне ўсялякіх відаў экстрэмізму і тэрарызму. На жаль, у сучаснай публіцыстыцы наглядаюцца спробы трактоўкі беларускай талерантнасці як слабахарактарнасці або згодніцтва. Гэта прынцыповая і небяспечная памылка, вынік культурна-гістарычнай, філасофскай і палітычнай недамысленасці.

З часоў Кіеўска-Полацкай Русі дамінантай філасофскай культуры Беларусі з'яўлялася этыка. Этычная праблематыка займае першынствуючае месца ў светапогляднай сістэме Скарыны і наогул у беларускай культуры эпохі Адраджэння. Як паказалі беларускія даследчыкі, дамінуючая роля этыкі захавалася ў беларускай культуры і ў наступныя часы. Вышэйшым дасягненнем сучаснай беларускай, ды і не толькі беларускай, філасофска-этычнай думкі з'яўляецца творчасць Васіля Быкава, які здолеў сказаць новае слова ў сусветнай экзістэнцыялісцкай літаратуры і філасофіі.

Адным з істотных вынікаў беларускага Адраджэння XVI — пачатку XVII ст. з'яўляецца інтэнсіўнае фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці, усведамленне пэўнай, адукаванай і патрыятычна настроенай часткай грамадства неабходнасці развіцця беларускай культуры, роднай мовы, асветы. Праблема развіцця нацыянальнай культуры пастаўлена Скарынам ужо самім фактам перакладу Біблііі, адрасаванай "людем посполитым руского языка". У сваіх прадмовах беларускі гуманіст свядома і настойліва падкрэслівае нацыянальна-патрыятычную накіраванасць сваёй дзейнасці: "наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил". Сюжэт пра Юдзіф у скарынаўскіх прадмовах таксама ўзнік невыпадкова: ён носіць яскрава выяўлены нацыянальна-патрыятычны характар.

Першае беларускае Адраджэнне выклікала нябачны да гэтага ўздым нацыянальна-патрыятычнага пачуцця. Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме "Песня пра зубра" настальгіруе па роднай Беларусі, яе пушчах, рэках, азёрах. Сымон Будны ў "Катэхізісе" заклікае князёў Радзівілаў, каб яны "не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся теж... и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити речили". Леў Сапега, як ужо адзначалася, з гонарам сцвярджае, што беларускі народ "не обчым яким языком, але сваим власным права списаные мает". Пры дварах беларускіх магнатаў засноўваюцца друкарні, школы, шпіталі, кнігасховішчы; жывуць настаўнікі, урачы, юрысты, пісьменнікі, паэты, кнігавыдаўцы, бібліятэкары, карацей кажучы, нацыянальная інтэлігенцыя, якая нараджаецца. Менавіта з першым беларускім Адраджэннем звязана ўсталяванне ў айчыннай культуры інстытута мецэнацтва. Нацыянальна-патрыятычнай ідэяй запальваюцца шырокія колы беларускіх і ўкраінскіх царкоўных дзеячаў, прычым усіх існуючых у ВКЛ веравызнанняў.

Факты сведчаць, што ў перыяд першага Адраджэння беларуская ідэя, г. зн. ідэя развіцця айчыннай культуры на нацыянальнай моўнай аснове, займала адно з дамінуючых месц у нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Нацыянальнай ідэяй былі ахоплены амаль што ўсе пласты беларускага грамадства, у тым ліку і пэўная, уплывовая частка феадалаў. Аднак гэта адзін "бок медаля". Побач з ім існаваў і другі.

У сувязі з актывізацыяй контррэфармацыі і іншымі абставінамі ўжо ў 70—80-ыя гг. XVI ст. пачалі наглядацца небяспечныя сімптомы, на якія першым звярнуў увагу Васіль Цяпінскі: узрастаючая халоднасць беларускіх феадалаў да справы нацыянальна-культурнага развіцця, і перш за ўсё, "езыка своего славного занедбанне". Цяпінскі геніяльна ўхапіў праблему. Гістарычны вопыт сведчыць, што развіццё або занядбанне нацыянальнай культуры ў першую чаргу залежыць ад сацыяльнай эліты, якая валодае матэрыяльнымі і інтэлектуальнымі сродкамі (грошы, улада, асвета, духоўны патэнцыял) і ад дзяржаўнага, палітычнага кіраўніцтва, якое таксама ажыццяўляе сацыяльная эліта. Менавіта на правячай эліце і дзяржаўным кіраўніцтве ляжыць гістарычная адказнасць за лёс нацыянальнай культуры — з гэтай думкай Цяпінскага цяжка не пагадзіцца. Трэба адзначыць, што Васіль Цяпінскі першым у гісторыі айчыннай думкі паставіў праблему выратавання нацыянальнай культуры беларускага народа. Праз тры стагоддзі амаль што з такімі ж словамі звярнуўся да беларусаў Францішак Багушэвіч. Праблема занядбання сацыяльнай элітай і дзяржаўным кіраўніцтвам нацыянальнай культуры мае свае, аб'ектыўныя прычыны. Існавалі яны і ў другой палове XVI ст.

Геапалітычнае становішча ВКЛ паміж Польшчай і Маскоўскай дзяржавай абумоўлівала рэальную сітуацыю, якая складвалася на працягу многіх стагоддзяў. Націск з Захаду і Усходу ўзмацняўся. І калі Варшава прапаноўвала федэрацыю, то Масква згодна была толькі на інкарпарацыю, абгрунтоўваючы сваю вялікадзяржаўную палітыку тэзісам: вялікі князь Маскоўскі (а потым і рускі цар) з'яўляецца адзіным легітымным уладаром "усея Вялікія, Малыя і Белыя Русі". Усе спробы дамовіцца з Масквой не далі вынікаў. Лівонская вайна 1558—1584 гг. паказала, што пагроза інкарпарацыі цалкам рэальная. У гэтых умовах беларуская феадальная эліта робіць стаўку на больш шчыльную інтэграцыю з Польшчай, вынікам чаго і з'явілася Люблінская унія 1569 г.

Сацыяльна-палітычная інтэграцыя з Польшчай абумовіла духоўна-культурную, рэлігійную інтэграцыю беларускага і польскага панства і шляхты. Значная частка айчынных феадалаў прымае польскую культуру, мову, пераходзіць у каталіцтва, пранікаецца польскай самасвядомасцю. Пачынаецца інтэнсіўны працэс паланізацыі беларускіх "вярхоў", культурнага жыцця Беларусі, духоўнай "эміграцыі" беларускіх інтэлектуалаў, пераход іх у польскую культуру.

Працэс дэнацыяналізацыі беларускай эліты, беларускай культуры набыў інтэнсіўны характар у сувязі з актывізацыяй контррэфармацыйнага руху ў ВКЛ. Контррэфармацыя прыклала вялікія намаганні каб авалодаць

*(Працяг на стар. 12)*

## Спроба ісці па расе...



**Яна была зроблена Алесем Камоцкім нягледзячы на пачатак зімы ў сценах "Беларускай хаткі". Менавіта пад такім назовам прайшла чарговая вечарына ў славутым доме Максіма Багдановіча.**

**Дарэчы, назва згаданай імпрэзы супала з назвай паэтычнага зборніка, аўтарам якога і стаў наш вядомы беларускі бард.**

**Цёплы ўступ пра паэтычны дэбют А. Камоцкага зрабіў гаспадар хаткі паэт Эдуард Акулін. Ён назваў паэтычныя ўваходзіны А. Камоцкага ў абсягі сучаснай беларускай літаратуры даволі ўдалымі і пацвердзіў свае словы шматлікімі цытатамі з прэзентаванай кнігі.**

**А потым гучалі вершы ў выкананні самога аўтара, які так і не здалеў у гэты снежаньскі вечар перамагчы ў сабе барда. На радасць усіх прысутных прыхільнікаў ягонай творчасці. Аб чым сведчылі ўсе новыя пажаданні пачуць тую ці іншую любімую песню. І Алесь не адмаўляўся... Спяваў. Шкада толькі, што камерная абмежаванасць залы музея не дазволіла ўмесціць усіх жадаючых пачуць цудоўны голас, цяпер мы можам з ўпэўненасцю сцвярджаць, паэта і барда Алеся Камоцкага.**

**Н. К.**

*На здымку: А. КАМОЦКІ падчас вечарыны.*

*Фота С. ЛОЙКІ*

## Не забывае пра землякоў

**Вядомаму беларускаму паэту, празаіку, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі Алесю Цімохавічу Бажко споўнілася 80 год.**

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры падтрымлівае цесныя сувязі з беларускімі пісьменнікамі. І таму невыпадкова, што паездка на радзіму пісьменніка ў Карэліцкі раён была арганізавана музеем.**

**Землякі добра ведаюць творчасць Алеся Бажко, рады кожнай сустрэчы з ім, таму ўсе мерапрыемствы — і ў музычнай школе ў Карэлічах, і ў Ярэміцкай СШ — прайшлі надзвычай цёпла і плённа. Вельмі добра, што ў раёне, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, культурнае жыццё не заціхае.**

**Вялікую зацікаўленасць выклікаў новы раман Алеся Бажко, які ён пісаў амаль сорак гадоў. Ён ужо падрыхтаваны да друку ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Гэта — дакументальна-публіцыстычны раман "Сага пра адвергнутых". Пра гэты твор сам пісьменнік сказаў так: "Сага пра адвергнутых" — гэта гістарычна-палітычныя ўспаміны, па-мастацку асэнсаваныя паданні пра тых, хто загінуў або прапаў без вестак у барацьбе за станаўленне беларускай дзяржаўнасці на былых так званых "крэсах усходніх", ці ў "прыпалячаных" пілсудчыкамі заходнебеларускіх гарадах і вёсках даваенных, ваенных і першых пасляваенных гадоў. Многія з іх, гэтых сапраўды народных змагароў, былі яшчэ зусім маладыя, але яны шчыра і непахісна верылі ў праваату сваёй нацыянальна-вызваленчай справы, таму бясстрашна ішлі пад варожыя кулі за яе. У іх ліку былі Сяргей Прытыцкі, Уладзімір Царук, Павел Жалезняковіч, Мікалай Арэхва, Васіль Бурак, Сцяпан Пацяруха, Арсен Балабановіч, Іван Дабрыян, Сымон Нос, Васіль Варэнік, а таксама такія дзеячы культуры, як Максім Танк, Піліп Пестрак, Мікола Засім, Міхась Васілёк, Міхась Машара, Валянцін Таўлай, Пётр Бітэль, Рыгор Шырма, Міхал Забэйда-Суміцкі, Пётр Конюх, Станіслаў Казура і іншыя. Мая кніга — нізкі паклон ім за гэта".**

**Напрыканцы сустрэчы вучнямі Ярэміцкай школы быў паказаны канцэрт. Пісьменніку ўручылі падарункі і запрасілі часцей прыязджаць у госці, не забываць пра землякоў.**

**С. ШЫЛАК**

***Наша рэдакцыя не раз практыкавала такое, калі на адзін твор друкуецца некалькі паралельных водгукаў. Відавочна, падобная сітуацыя сведчыць перш за ўсё, што твор варты ўвагі. Думаецца, і чытачам цікава знаёміцца з рознымі меркаваннямі крытыкаў, каб скласці ўласнае ўражанне.***
***У гэтым нумары мы змяшчаем тры рэцэнзіі на новы раман Юрыя СТАНКЕВІЧА "Любіць ноч — права пацукоў", надрукаваны ў часопісе "Крыніца". Наўрад ці яны вычарпаюць увесь дыяпазон трактавання гэтага неадназначнага твора. Але галоўнае — прыцягнуць да рамана ўвагу тых, хто не паспеў яго прачытаць.***

# Падзея чаканая...

Рэклама, дадзеная Юрыем Станкевічам у "ЛіМе" на свой апошні твор (гл. "ЛіМ" за 6 лістапада 1998 г.), і звязаная з гэтым інтрыга (тэкст рукапісу адмаўляліся набіраць нават блізкія пісьменніку людзі) мелі пэўны вынік. З'яўленне рамана "Любіць ноч — права пацукоў" ("Крыніца", N 9, 1998 г.) сталася сапраўднай падзеяй у літаратурным свеце, і падзеяй чаканай.

Адразу трэба адзначыць — раман не расчараваў. Калі і была нейкая насцярожанасць, выкліканая бояззю згубіць улюбёнага пісьменніка за звышактуальнасць тэмы, дык яна знікла пасля прачытання першых жа радкоў. "Цяпер, праз адфільтраваную ў часе памяць, мінулыя гады ўжо не ўспрымаліся нешчаслівымі, і ўсё было па-за парогам адчування, нават нараджэнне хворага хлопчыка і смерць мужа не здаваліся ёй катастрофамі, як тады, пакуль не з'явіліся тыя людзі, — раптоўна, быццам з іншага вымярэння..." Застаецца толькі здзіўляцца майстэрству празаіка, які здолеў ад пачатку так дакладна акрэсліць тэматычную і ідэйную скіраванасць усяго твора, вызначыць асноўныя праблемы, увасобіць сваю адметную манеру пісьма.

У рамане ўсё сімвалічна; яго назва, месца і час дзеяння, персанажы. Таму загадзя адмаўляецца ўсялякая магчымасць яго адназначнага тлумачэння. І тым не менш...

Падзеі рамана адбываюцца ў правінцыйным беларускім мястэчку Янаўск у часы, фатальныя для яго існавання. Горад імкліва пачынае запаўняцца прышлымі людзьмі, нахабнымі чужынцамі з пацучынымі тварамі, якія з жудаснай паслядоўнасцю і незваротнасцю адваёўваюць у спрадвечных жыхароў хату за хатай. Складваецца ўражанне, што аўтар апісвае падзеі ваеннага часу. Сапраўды, вайна ідзе, але вайна нябачная, бо амаль няма тых, хто змагаецца супраць ілжэбежанцаў. А пацучынае племя вынішчае ўсё на сваім шляху. Для хцівых жывёл (а ў творы неаднаразова выказваецца сумнеў аб чалавечнасці гэтых істот) няма ніякіх межаў.

Іх усёпранікальнасць датычыцца не толькі заўжды паваленага плота, які на працягу ўсяго твора беспаспяхова намагаюцца паставіць Люба, а затым і Даніла Прусак. Дарэчы, вобраз разбуранага гнязда, неўладкаванай гаспадаркі з'яўляецца архетыповым у нашай літаратуры. Тут міжволі ўзгадваюцца п'есы Янкі Купалы "Раскіданае гняздо" і "Тутэйшыя", якія лішні раз пераконваюць, што наш нацыянальны геній яшчэ ў тыя часы прадбачыў і прароча засцерагаў ад небяспечнасці скразнякоў у роднай хаце, што нясуць усялякую пошасць як з Захаду, так і з Усходу.

Гістарычна непазбежнай і шматразова даказанай з'яўляецца і адсутнасць імунітэту ў беларускай нацыі на такога кшталту хваробы. За стагоддзі існавання нашаму народу ўжо столькі было зроблена прышчэпак, што, здаецца, ён здольны супрацьстаяць любой навале. Але прыходзіць чарговая набрыдзь і ўсё тымі ж старымі спосабамі атручвае целы і душы ліцвінаў: "...тыя прыхадні рабілі сваю справу з механічнай мэтанакіраванасцю насякомых, якія адкладваюць свае яйкі на аблюбаваныя імі ахвяры, і вынік нібы быў імі прадугледжаны, быццам яны толькі выканаўцы непаразумелага... і адхіленага ў часе валявога акту..." Злавесны лёс Беларусі — быць ахвярай нечага эксперыменту. І сапраўды, столькі ўжо няшчасцяў і нягод выпала на долю беларусаў, што міжволі пачынаеш верыць у існаванне містычнага року, Дамоклавага мяча, што вісіць над нашай краінай.

Але побач з аб'ектыўнымі абставінамі ўзнікае пытанне і аб славутай тутэйшасці, неперамажнасць якой даўно ўжо з'яўляецца крыніцай натхнення як для прафесійнага мастацтва, так і народнай творчасці. Ну, хіба пачувалі б сябе так вольна чужынцы ў нашым краі, каб мы самі не стваралі ім спрыяльныя ўмовы для пражывання. Чаму, напрыклад, так лёгка падкупіць мясцовага ўчастковага ці прывучыць да наркотыкаў і распусты тутэйшых дзяўчат? Чаму толькі адзінкі паўстаюць супраць гвалту і прымусу, а астатнія сваёй рахманасцю правакуюць пацукоў дзейнічаць больш нахабна, сягаючы нават за межы ночы? Няўжо сапраўды "тут усе мёртвыя", як гаворыць гераіня рамана псіхічна хворая Волечка-Алеся ў часы прасвятлення свядомасці? На жаль, гэта пакуль рытарычныя пытанні, на якія не можа адказаць аўтар ні з дапамогай тэорыі пасіянарнасці Гумілёва, ні спасылаючыся на згубны ўплыў радыяцыі.

Безвыходнасць, здаецца, найбольш дакладна характарызуе агульны эмацыянальны фон рамана. Прадчуванне незваротнай бяды, заняпаду перадаецца праз неаднаразовае паўтарэнне стылістычна афарбаваных лексем і фраз (небяспека, засіліцца, вусцішна, крыкліва-істэрычныя воклічы, "гэтую савецкую ўладу тэлеграфным слупам праз памыйную яму"), ужыванне жаргонных слоў, вульгарызмаў, нецэнзурных выразаў ("вытурылі", "псіхі грэбаныя", "расейская папса", "вось вам і гамон"), паўсюдную прысутнасць гергетання чужынцаў, поўнага толькі зычных гукаў і не падобнага ні на адну з чалавечых моў. Панаванне начнога часу ў рамане, апісанне гарадскіх вуліц і дамоў адно толькі ўзмацняе гнятлівае ўражанне: "...у многіх кватэрах вокны былі выбітыя і закладзеныя фанерай, а то і заткнутыя рыззём, каналізацыйныя люкі зеўралі пустатой, тамсям іржавелі паваленыя агароджы, а каля харчовых крамаў тоўпіліся брудныя мужчыны і жанчыны з азызлымі азіяцкімі тварамі ў чырвоных пражылках..."

Увогуле, у творы практычна адсутнічаюць здаровыя людзі. Пры гэтым яны псіхічна ці фізічна хворыя ад нараджэння ці па прычыне жыццёвых абставін (Волечка-Алеся, нямоглы Антон Кніга, наркаманкі, жабракі, папрашайкі).

Усе гэтыя фактары памнажаюцца на выразную пазіцыю аўтара, яго востры душэўны боль, якім прасякнуты кожны радок рамана. Юры Станкевіч — не просты назіральнік падзей. Яго надзвычайная эмацыянальная ўзрушанасць абумовіла нетрадыцыйную форму твора; на сем частак рамана, напісаных на працягу сямі месяцаў аднаго года, прыпадае ўсяго сем кропак (у канцы кожнай з частак). Фактычна ўвесь раман складаецца з сямі рытмічна арганізаваных сказаў, напісаных на адным дыханні, на адной хвалі збалелай душы творцы.

Нават шчаслівая развязка на карысць галоўнага героя не прыносіць доўгачаканай палёгкі. Адчуваецца, што ў завяршэнні рамана славутым хэпі-эндам празаік "пайшоў насуперак сабе". Адсутнасць аптымізму аўтара пацвярджае і сімвалічная сцэна ўсходу сонца ў канцы твора, станоўчае і ачышчальнае значэнне якой зводзіцца да нуля апошнімі трыма словамі даўнёнка, якія і заканчваюць раман — "мы грэбаныя псіхі".

Падобная татальная трагічнасць, яе ўсеахопны характар уласцівы многім сучасным творам, у прыватнасці аповесцям і апавяданням В. Быкава ("Ваўчыная яма", "Труба", "Камень" і інш.). Тут таксама ва ўсім (героі, іх лёсы, пейзаж) назіраецца безвыходнасць, увасобленая, аднак, у чыста быкаўскай манеры.

Тым не менш глыбокая пакута яднае беларускіх майстроў слова, прычым не толькі вышэйназваных. Сённяшняя літаратура — гэта суцэльны боль раскрыжаванага тутэйшасцю, набрыддзю, Чарнобылем народа. Ужо самі назвы сучасных твораў ("Смута" А. Федарэнкі, "Чарнобыльская малітва" С. Алексіевіч, "Ваўчыная яма" В. Быкава, "Акулы, кракадзілы, шакалы" Г. Марчука, "Любіць ноч — права пацукоў" Ю. Станкевіча і інш.) не пакідаюць ілюзій і прымушаюць задумацца, нарэшце, ці доўга яшчэ будуць крывавіць сэрцы лепшых сыноў краіны і ці хутка звяры-людажэры скончаць свае начныя балянні сярод слёз, пакут, здзеку, болю.

**Ю. САЛЬНІКАВА**

*г. Гомель*

# Сапраўднае

Раман "Любіць ноч — права пацукоў" Ю. Станкевіча, безумоўна, з тых твораў, што выклікаюць розгалас. У чытачоў і ў крытыкаў. Асмелюся выказаць думку, што з'яўленне рамана — падзея. Падзея як у літаратурным, так і ў грамадскім жыцці Беларусі. Гэта адзін з самых мужных, праўдзівых і сумленных твораў, што пабачылі свет апошнім часам. Асабіста я даўно не атрымлівала такога ўзрушэння. Узрушыла не столькі сама пагроза асіміляцыі, этнацыду, колькі гэта наша сённяшняя рэальнасць, што паказана ў творы. Безнадзейнасць, змрок, роспач. Чытала раман, углядалася ў здымак аўтара і думала: "Які ж боль носіць у сабе гэты чалавек". Бачыла гэты боль у яго вачах. Каб так напісаць, трэба перапакутаваць, трэба, каб балела. І неабходна мець талент, каб узрушыць чытача. Гэта яго даўнёнак, гэта маленькае безабароннае дзіцятка... Трэба ж было прыдумаць — "даўнёнак". Як праціінае эпізод з дзіцячымі рэчамі на пляжы, а ўжо пра здзекі з гэтага "дзіцяткі" ("Паглум") і пісаць немагчыма. Гэта ўсё трэба вынасіць у сабе, перахварэць. У творы няма штучнасці, сканструяванасці. Я фізічна адчувала пакуты гераіні, яе адчай, безабароннасць і бездапаможнасць перад той злой сілай, што паўстала перад ёю, адчувала гэтае яе "небяспеканебяспеканебяспека". Я фізічна адчувала яе страх за дзіця, адчай ад усведамлення, што не можаш стаць апорай для таго, для каго такой апорай быць павінен.

Чалавек безабаронны. З ім можна зрабіць, што заўгодна. І спадзявацца няма на каго. І паратунку шукаць няма ў каго. Страшна, што такая наша рэальнасць. Страшна, таму што вакол жывуць зусім не па законах Дабра і Справядлівасці. Праўда там, дзе сіла, паважаюць толькі сілу. Страшна, таму што гатовы задзяўбці таго, хто неяк вытыркаецца, вылучаецца з натоўпу. Інстынкт статка мацней за ўсё, ды яшчэ "жаданні есці, піць і спажываць як мага болей".

Для мяне ў рамане Ю. Станкевіча няма нічога выдуманага. Нават болей за тое. Для мяне была б натуральнай больш трагічная развязка. (Хаця, здавалася, куды ўжо больш: забіта жанчына, невядома, што будзе з героем далей, такі здзек учынены з хворым хлопчыкам і, як прызнаецца старшой чужынцаў, "яны экспансуюць сталіцу, туды ўжо і грошы адпраўлены — на подкуп, на хабар, і зямля там для іх гатовая, а вашых людзей, — даводзіў ён, — купіць вельмі лёгка, ды ты і сам бачыш, хоць ты і вар'ят, хто праз дзесяць гадоў будзе тут пры ўладзе, хто будзе сапраўдны гаспадар, вы ж бездапаможныя, хцівыя і раз'яднаныя..." Дзякуй аўтару за яго намаганні здзейсніць хоць нейкую справядлівасць, за яго спробу супрацьстаяць. Хаця б на старонках твора. У рэальнасці ж, здаецца, няма нават гэтага.

Раман Ю. Станкевіча — рэч сапраўдная. Праўдзівая, не хлуслівая літаратура, што не заспакойвае. А заспакоіць — значыць пагадзіцца, прыняць, змірыцца. І горка і балюча ад таго, што ўсё ў творы — праўда. Праўда, што "большасць імкліва дэградуе"; праўда, што кожны сам за сябе: "ніхто не паварушыць і пальцам у яе абарону, бо суседзі, што жылі далей па вуліцы, займаліся кожны сваім і рабілі выгляд, быццам навокал нічога не адбываецца; праўда, што "натоўп агітаваць дарэмна, чым гучней ім крычаць праўду, тым больш яны тых крыкуноў ненавідзяць", "людзей, каб падпрэгчыся ды вам дапамагчы, няма, вы ж пахадзілі па хатах, пабачылі — юдава поле". (Узгадваецца верш М. Скоблы "Юдава поле"). І горка ад слоў: "Чаму гэтыя бежанцы прыйшлі менавіта да нас, а не да літоўцаў, прыкладам, чачэнцаў ці да эстонцаў? А таму, што іх адразу б вытурылі". І ўжо словы Ю. Станкевіча: "а я вось што яшчэ мяркую: каб не той Чарнобыль, то нам ужо даўно б гамон быў; панаехалі б з усіх бакоў прыхадні, чужынцы ўсякія, і лепшыя землі адабралі б ды захапілі б — дзе хітрасцю, дзе падманам, а дзе і сілай, а так — каму з іх асабліва ахвота ў радыяцыю лезці, а хто лезе — тыя зусім ужо набрыдзь, смецце" — не здаюцца парадаксальнымі.

І на яшчэ адзін момант хацелася б звярнуць увагу. Пакаранне за грэх непазбежнае, аб чым сведчыць лёс Манюковай дачкі. Пра гэта павінны памятаць тыя, хто чыніць несправядлівасць і хто дазваляе яе чыніць.

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# Пра гэты няправільны раман

## СПРОБА РЭЦЭНЗІІ

Адразу неяк і цяжкавата сказаць, пра што апавядаецца ў творы, які па звыклых мерках можна назваць аповесцю, бо, чытаючы ў дзевятым (сорак шостым) нумары "Крыніцы" раман Юры Станкевіча "Любіць ноч — права пацукоў", напаўняешся не разумова-аналітычнымі развагамі пра арыгінальную, нязвыклую для беларускай літаратуры форму апавядання, не прафесійным вышукваннем літаратурных "блох", а тым унутраным болем, тымі біялагічнымі токамі жалю і спачування, якія паядноўваюць цябе з безабароннымі героямі, што апынуліся перад **нечым** незразумелым і няўмольным, што заўсёды няпрошана ўрываецца ў жыццё і з чым трэба альбо — змірыцца, альбо — змагацца да апошняга глытка паветра.

Мабыць, у сапраўднай літаратуры, як і ў жыцці, гэта тыповая сітуацыя: ёсць слабы чалавек і перад ім выбар — змірыцца з наканаваным лёсам, з наканаванымі абставінамі, ці змагацца, адчуваючы ў душы найвышэйшага суддзю — боль за бліжняга...

І яшчэ, мабыць, у сапраўднай літаратуры павінны прысутнічаць **нешта** невытлумачальнае, што выклікае спагаду да героя, тая паэзія прозы, якой гэтак мала на старонках нашых літвыданняў, кніг, аўтары якіх імкнуцца заняволіць чытача ці то — сексуальнымі сцэнамі, ці то — звышсмелымі палітычнымі развагамі, якія праз год-другі становяцца банальнымі...

Ды гэта — тэма асобнай гаворкі, якой, чамусьці, як чорт ладану, баяцца нашы смелыя крытыкі...

Вось перад намі маленькі безабаронны чалавечак, хворы на страшную хваробу Дауна, прышлыя людзі забілі яго маці і ён цяпер адзін у свеце:

"і адна з іх плюнула на яго
цьфу!
і закрычала
псіхпсіхпсіхпсіх!
а даўнёнак сціснуўся ў камяк і закрыў твар далонямі, але другая дзяўчына выхапіла ў мажнага Карыма запаленую цыгарэту і пачала тыкаць хлопчыку ў твар, а той засланяўся і адхіляў галаву, а дзяўчына не сунімалася, гаварыла
падмаладжу цябе, размалюю, псіха грэбанага, а потым
пойдзеш на вуліцу будзеш грошы зарабляць
і ўсё смяялася
хехехехехе
а потым і праўда пацягнулі хлопчыка па завулку ўверх, пакуль не дасягнулі большай, галоўнай вуліцы, і пасадзілі таго на асфальт, дзе хадзілі прахожыя, і паставілі побач кардонавую скрынку, на якой было напісана
"подайте бежинцу Христа ради"
і як толькі хлопчык спрабаваў уставаць, білі таго неўпрыкмет па руках і галаве і тушылі на твары цыгарэту і прымушалі сядзець і гаварылі
грошай назбіраеш — дадзім паесці, а так цябе ніхто
карміць не будзе, больш няма каму, псіх, так цябе
і разгэтак
і хлопчык сядзеў на тратуары, і прахожыя часта спыняліся і клалі ў скрыню дробныя грошы, а калі грошай збіралася шмат, то дзяўчаты кідалі свае справы і падыходзілі да яго і забіралі са скрынкі паперкі і казалі, карцінна закочваючы вочы і мацюкаючыся
а, бля, зноў мала, Карым — на, бяры і гаварылі напорыста і нецярпліва
навучым, будзе зарабляць, псіх"

Хто ён, маленькі даўнёнак, у гэтым агромністым свеце вялікай хлуслівай палітыкі, глабальных разважанняў пра чалавечнасць і чалавекалюбства?

Болем за чалавека, болем за страту чалавечнасці ў сённяшнім разбэрсаным свеце насычана кожная старонка рамана. Думаецца, што літаратурныя крытыкі яшчэ доўгі час будуць гаварыць і спрачацца пра яго, але мне, як чытачу, сёння хацелася б гаварыць не пра знакі прыпынку, не пра русізмы і стылістычныя хібы, якія рэдактару варта было б выправіць, — ахоплены магутнымі токамі праўды, напачатку нават і не задумваешся, што чытаеш як быццам бы банальны просценькі дэтэктыўны сюжэт: на ўскраіне правінцыйнага гарадка селяцца людзі:

"засяліліся побач чужынцы, ніхто іх раней не бачыў, — набрыдзь, панаехалі да іх яшчэ ўсякія, паводзяць сябе непрыстойна, ужо не ведаю, што і рабіць, бо не маю сіл абараніць сябе і хлопчыка, ты б параіў што, Даня, ты ў сталіцы, ведаеш больш, а я простая настаўніца, тут у нас стала зусім дзіка, мне страшна..."

Гэта ліст настаўніцы да свайго брата Данілы Прусака. Прыязджае Даніла Прусак, калі сястра ўжо загінула. Ён спрабуе разабрацца ў сітуацыі і тут жа сам, як кажуць, трапляе ў сітуацыю...

Вось і ўсё, здаецца, ні — палітыкі вялікай, ні — мітынгаў шматлюдных, ні — аголеных сцёгнаў і стогнаў, ні — псеўдафіласофскіх разважанняў герояў, за якімі гэтак часта тырчаць "вушы" аўтараў, нічога гэтага няма ў рамане...

Разважанні з'яўляюцца потым, калі, на адным дыханні прачытаўшы раман, пачынаеш думаць не толькі пра лёсы герояў, але і пра сябе, пра лёс блізкіх сваіх.

Што адбываецца сёння з намі?

Чаму гэтак хутка і пакорліва мы падпадаем пад уладу чужых прышлых людзей, якім абыякавы наш лёс, лёс нашай нацыі?

Што ёсць нацыя і хто павінен адстойваць яе інтарэсы: прэзідэнт чарговымі ўказамі і дэкрэтамі, парламент, ці — сіла вышэйшая, якая, як кажуць, уладарыць нябачна?

Што ж гэта такое — сённяшняя набрыдзь, навалач?

Пра людзей прышлых, якім абыякавы лёс нацыі, лёс народа, гаварылі яшчэ класікі нашай літаратуры, у літаратуры сённяшняй, пасляваеннай, пра іх гаварыў і Алесь Жук — здаецца, ці не ён першы назваў іх навалаччу, — і іншыя. Даволі цікава і псіхалагічна тонка сказаў пра набрыдзь Андрэй Федарэнка ў цудоўным апавяданні "Цверазілаўка". Цяпер, пасля рамана Юры Станкевіча, як мне думаецца, можна сказаць, што навалач, набрыдзь — гэта не асобныя людзі, дакладней, не толькі асобныя людзі, якія ўносяць хаос у наша жыццё, гэта — штосьці нашмат большае, тая сацыяльная хвароба, якая знутры можа размыць любую нацыю.

Не варта думаць, што набрыдзь — толькі чужыя наезджыя людзі, якія могуць дыктаваць свае законы нахабства, хлусні... Не, не і яшчэ раз не. Набрыддзю становяцца і свае ж людзі, беларусы, якія з-за грошай, пасады ці абыякавасці заплюшчваюць вочы на тое, што калечаць ці забіваюць бліжняга.

Вось перад намі свая дамарошчаная набрыдзь:

"стрыжаны Сярожа раптам падышоў да таго месца, дзе сядзеў Даніла Прусак, і сказаў
я вытруся
але мужчына не зразумеў, пра што тлумачыць голы Сярожа, і, сціснуўшы сківіцы, заўважыў
ты б менш крычаў, дзіцё напалохаеш
а той тым часам падчапіў з зямлі хлопчыкаву коўдру і ручнік і пачаў выціраць імі спачатку галаву і плечы, а потым жывот і геніталіі, але Даніла Прусак ужо ўскочыў на ногі і тузануў коўдру з рук нахаба
думай што робіш, ублюдак, гэта ж дзіцячыя рэчы!
скрозь зубы вырвалася ў яго, а Сярожа раптам усміхнуўся ўжо зусім цвяроза і прашыпеў яму ў твар
што, не падабаецца, лох? я табе не падабаюся, да? ты нас не любіш, так?
і неспадзявана нанёс удар нагою, які прыйшоўся ў горла мужчыны".

Набрыддзю становяцца дзяўчаты, адурманеныя наркотыкамі:

"дзяўчына павольна пайшла праз сад у напрамку да дома, але пахіснулася раз, другі, і тут, быццам яны даўно гэтага чакалі, некалькі падлеткаў атачылі яе і рэзка і віскліва загаманілі па-свойму і пачалі хапаць яе за рукі і за грудзі — то адзін, то другі, то — трэці — гэта былі дзеці чужынцаў: зусім малалеткі, гадоў па дзесяць, дванаццаць, і ўсё смяяліся і зладзеявата азіраліся па баках, і дзяўчына таксама смяялася
хехехехехе
іваяла адмахвалася ад іх рукой, а яе ўсё больш адводзілі ўбок, дзе густа раслі кусты парэчак і маліны, і там разам павалілі на траву..."

Набрыдзь ірвецца да ўлады — і чужая, і свая, больш таго, мы часта нават і не заўважаем, што свая нацыянальная набрыдзь спецыяльна выкарыстоўваецца дзеля таго, каб свае сваіх жа білі...

"і Карым раптам здаўся, выгляд у яго быў такі, быццам з яго выпусцілі паветра, і сказаў
не забівай мяне — гэта Васіліна зрабіла
а мужчына вельмі здзівіўся, але не падаў выгляду і спытаў адразу
ёй загадалі? ці яна сама? гавары — ну і Карым адказаў
не ведаю, чуў толькі, што яна, бо нам забіваць нельга".

Вось так — ім забіваць нельга!

Для гэтай справы добра падыходзіць следчы Кузін з ягоным апраўданнем — усе людзі роўныя!..

"Вы ж, пэўна, ведаеце, хаця б ад вашых інфарматараў, што гэтыя з намі роўныя, як вы кажаце, людзі крадуць і забіваюць, гандлююць наркатой, разбэшчваюць малалетніх дзяўчат, выкідваюць з могілак косці нашых продкаў, дзе хаваюць пасля сваіх нябожчыкаў, дураць і падманьваюць вяскоўцаў, распаўсюджваюць хамства і распусту, дабіваюцца прывілеяў праз хабар
але следчы Кузін раптам грукнуў далонню па стале і спыніў
чытайце, што я тут прапаную, і падпісвайце..."

Сярожа, малалетнія дзяўчаткі, следчы Кузін — усе яны жывуць у правінцыйным гарадку і, як могуць, дапамагаюць набрыдзі ў меру сваіх магчымасцяў. Але што робіцца ў вялікіх гарадах, дзе магчымасці большыя і дзе пасады вышэйшыя? Давайце ўспомнім, хто і дзеля чыіх інтарэсаў топча сваіх жа суплеменнікаў на рабоце, у творчасці, на вуліцах падчас мітынгаў.

Гэта — балючая, далікатная тэма, дакладней нават і не тэма, а цэлая праблема, якая характэрна не толькі для беларусаў.

Нядаўна па маскоўскім тэлебачанні давялося паглядзець дакументальны сюжэт пра жыццё ў сібірскім пасёлку, дзе людзі выміраюць ад наркотыкаў. Жахлівыя сцэны: адурманеныя бляклыя позіркі, кватэры, з якіх усё вынесена, адны радыятары тырчаць, высахлыя рукі людзей, вены ў кропачках... Але што здзівіла ў тым сюжэце: у апошні час сітуацыя ў пасёлку рэзка змянілася. Калі дагэтуль наркату ў пасёлак пастаўлялі і распаўсюджвалі людзі прышлыя, тая ж самая набрыдзь, то цяпер гэтай справаю займаюцца жыхары пасёлка, а набрыдзь — камандзірствуе...

Прагледзеўшы сюжэт, падумалася: няшчасная бязмежная Расія, ад якой мы сёння, фактычна, нічым не адгароджаны, што ты можаш супрацьпаставіць той жа набрыдзі? Грымучыя тэлешоу, хохмы адных і тых жа хахмачоў па тэлебачанні, грымучыя кліпы, фільмы замежныя?.. Ды ўсё гэта — справы расійскія, але ж што рабіць нам, далікатнаму і, як часта кажуць, талерантнаму народу, сёння?..

І цяпер зусім іншым, я сказаў бы, містычна-прарочым сэнсам напаўняюцца словы класікаў пра неабходнасць нацыі зберагаць сваю мову і культуру, нацыянальныя традыцыі, мець сваю нацыянальную ідэю, без чаго ніякая дыктатура, а тым больш палітычныя ці эканамічныя маніпуляцыі і спекуляцыі нацыю ўратаваць не змогуць.

Ды гэта — асобная тэма...

Заканчваецца раман не надта весела.

"Якраз на зыходзе ночы, гэтыя ж чужынцы ўедуць на ўскраіну вялікага горада, сталіцы, і зоймуць спачатку дом, які быў імі раней прыгледжаны, а потым і куплены, і, як пацукі, да раніцы ўладкуюцца ў ім, і ўсё пойдзе ў іх там, як і да сённяшняй ночы — толькі з большым імпэтам: пацягнуцца да іх у цемру таксі за "дур'ю" і "шмалем", пойдуць па вуліцы іх дзеці, але ўжо не дзеля таго, каб прыкідвацца жабракамі, а з пакетыкамі парашку, які будуць купляць на вуліцах напаўапантаныя недавяркі, зрушаныя на дурной модзе, шматлікія расчараваныя ў жыцці, розныя няўдачнікі і проста апушчэнцы ды хворыя на замаскаваны суіцыд, а да лаўкі перад брамай іх кубла пацягнуцца мясцовыя дзяўчаты і стануць манерна адстаўляць пальцы
і хіхікаць юрліва
хехехехехе
а потым зацяжараць..."

Ды што ж гэта такое — сённяшняя набрыдзь, якая — і гэта хачу падкрэсліць — не мае нацыянальнасці?

Не ведаю я гэтага. Мо — гэта чарговае выпрабаванне нацыі на выжыванне, а мо — штосьці іншае, што сеецца між намі непрыкметна, змушаючы адгароджвацца адно ад аднаго кодавымі замкамі на дзвярах жалезных, злымі пародзістымі сабакамі, высачэзнымі дачамі, што нагадваюць замкі сярэдневяковыя, дзень за днём, месяц за месяцам яно высяваецца на нас з газет і часопісаў, з экрана тэлевізара, з трыбунных палкіх выступленняў, цераз кліпаванне і магнітафоннае гыркатанне, салодкім дурманам, як наркатою, замбіруючы кожнага чалавека, які да пары да часу спадзяецца, што бяда неяк абыдзе, міне і яго, і нашчадкаў ягоных.

Толькі ці зможа выжыць нацыя адным спадзяваннем?

**Васіль ГІГЕВІЧ**

**P.S.** Кажуць, што ў гэтым годзе нашы літаратурныя "аксакалы" не знайшлі твора па прозе, вартага дзяржпрэміі. Малайцы! Толькі так і трэба ацэньваць сваю літаратуру!

**В. Г.**

ДРУК

# Скарб найкаштоўны

Для выдавецтва "Беларускі кнігазбор" мінулы, 1998 год быў даволі напружаны і плённы. На працягу года ў шматтомнай кніжнай серыі выйшла тры тамы: "Выбраныя творы" У. Жылкі (складальнік М. Скобла), "Філаматы і філарэты" (складальнік К. Цвірка) і Я. Баршчэўскі "Выбраныя творы" (складальнік М. Хаўстовіч).

Серыя "Беларускі кнігазбор" ужо набыла папулярнасць сярод чытачоў не толькі Беларусі, але і іншых краін свету. Наклады нашых серыйных кніг у гэтым годзе былі ад 6 да 10 тыс. паасобнікаў. Попыт на кнігі серыі вялікі. Выданнямі "Беларускага кнігазбору" камплектуюцца публічныя і школьныя бібліятэкі краіны (але, на жаль, далёка не ўсе, бо не ўсюды на гэта ёсць сродкі).

Вялікую зацікаўленасць да серыі праявілі беларусы і мовазнаўцы з многіх краін свету (ЗША, Англіі), пакупнікамі нашых кніг з'яўляюцца некаторыя замежныя універсітэты.

Вядома, патэнцыял яшчэ далёка не вычарпаны. Вельмі хацелася б, каб кнігі серыі "Беларускі кнігазбор" выдаваліся яшчэ большым накладам, каб яны маглі трапіць у кожную беларускую сям'ю. Бо кнігі "Беларускага кнігазбору" — гэта грунт нашай культуры. Той, хто збярэ тамы гэтай прэстыжнай серыі, стане ўладальнікам каштоўнага скарбу — невычэрпнай крыніцы ведаў і духоўнага ўзбагачэння.

У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" цяпер ідзе падрыхтоўка да друку новых кніг серыі. Падрыхтаваны да друку тамы: Кастусь Каліноўскі "Творы, дакументы" (складальнік Генадзь Кісялёў), Кузьма Чорны "Выбраныя творы" (складальнік Міхась Тычына), "Старажытная літаратура Беларусі" (складальнік Іван Саверчанка). На завяршальнай стадыі падрыхтоўкі знаходзіцца цэлы шэраг кніг, сярод якіх: "Выбраныя творы" Э. Ажэшкі, Цёткі (А. Пашкевіч), Т. Труса, А. Крашэўскага, А. Гаруна ды іншыя.

Хочам паведаміць нашым чытачам прыемную навіну: з наступнага года мы плануем у серыі "Беларускі кнігазбор" выдаваць кнігі новай, трэцяй падсерыі — "Замежная літаратура" і думаем распачаць яе "Выбранымі творамі" класіка нямецкай літаратуры Ё.-В. Гётэ, 250-годдзе якога адзначаецца ў 1999 г.

У 1998 г. у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выходзілі не толькі серыйныя кнігі, але і "пазасерыйная" літаратура.

На пачатку года пабачыў свет шырокафарматны нотны зборнік "Беларускія народныя песні і танцы. Апрацоўка для баяна, акардэона і двухраднага храматычнага гармоніка", які склаў былы дырэктар Лідскага музычнага вучылішча Мар'ян Баяровіч. Як неаднаразова адзначалася ў друку, выданні падобнага кшталту яшчэ не выходзілі не толькі на Беларусі, але і ў краінах СНД.

У гэтым годзе мы выдалі дзве кнігі паэзіі Івана Чыгрына "Трыба" і "Бераг", зборнікі вершаў "Чорнае святло" Лявона Неўдаха, "Каб не пагасла зорачка надзей..." Мікалая Віняцкага, "Мои сны" Аляксандра Скрабца, альманах маладой беларускай паэзіі "Высокі бераг", анталогію аднаго верша "Агледзіны" і кнігі "Янка Купала — публіцыст", "Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры", шэраг кніг па заказу Аддзела навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках НАНБ, сярод якіх: Радзім Гарэцкі "Шляхам Адраджэння", Аляксандр Падлужны "Мова і грамадства" ды іншыя.

Трэба зазначыць, што ўсе пазасерыйныя кнігі выдаюцца ці за сродкі аўтараў, ці за сродкі фундатараў.

Цяпер аб праблемах. Яны ў першую чаргу фінансавыя. Калі першыя пяць кніг серыі "Беларускі кнігазбор" выйшлі пры 50-працэнтнай дзяржаўнай датацыі, то кніга "Філаматы і філарэты" на 50 працэнтаў прафінансавана дзяржавай на наклад 6 тыс. паасобнікаў пры агульным накладзе 10 тыс., а "Выбраныя творы" Яна Баршчэўскага цалкам былі выдадзены на сродкі фонду і фундатараў. Так, кнігі серыі "Беларускі кнігазбор" выдае недзяржаўная арганізацыя, але ж рабілі мы дзяржаўную справу. Пасля "расійскага" эканамічнага крызісу і рэзкага абвалу беларускага рубля — фінансавае становішча фонду (як, дарэчы, і большасці недзяржаўных структур) значна пагоршылася: у некалькі разоў узрос кошт паліграфічных матэрыялаў, асабліва паперы, кнігі серыі пачалі прадавацца — значна ніжэй сабекошту (калі лічыць у доларавым эквіваленце).

Фонд панёс значныя (па нашых мерках) страты: калі да крызісу нашы серыйныя кнігі акупляліся ды яшчэ прыносілі нейкі прыбытак (што для беларускамоўнай мастацкай літаратуры з'ява рэдкасная), то зараз, пакуль эканамічнае становішча не зменіцца (улічваючы фінансавае становішча нашых патэнцыйных пакупнікоў, а гэта ў першую чаргу навукоўцы, настаўнікі, студэнты, работнікі культуры), кнігі серыі "Беларускі кнігазбор" мы будзем прадаваць па цэнах, ніжэйшых за сабекошт. Таму на кожную новую серыйную кнігу трэба будзе шукаць мецэнатаў. Супрацоўнікі выдавецтва, а таксама шматлікія прыхільнікі нашай серыі спадзяюцца, што, нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, знойдуцца людзі, калектывы, што захочуць прафінансаваць выданне той ці іншай беларускай кнігі.

**Генадзь ВІНЯРСКІ,**
**выканаўчы дырэктар МФ "Беларускі кнігазбор"**

# Усе фарбы захаплення

**Перад тымі, хто вырашыў марозным вечарам выправіцца на спатканне з музыкай, паўстала сапраўдная дылема: куды пайсці? У Вялікую залу сталічнай філармоніі, дзе з цудоўнай праграмай выступаў славуты маэстра Праватараў ды выбітны піяніст Барыс Беразоўскі, ці ў Камерную залу, дзе ладзілі канцэрт вядомыя кларнетысты Іван Мазгавенка і Генадзь Забара, фагатыст Максім Забара і піяніст Алег Крымер? Скажу адразу: тыя, хто абраў канцэрт камернай музыкі, абсалютна не пашкадавалі, таму што выканаўцы прадэманстравалі такі высокі ўзровень майстэрства, такую ўзнёслую натхнёнасць выканання, што гэты вечар без аніякіх нацяжак можна далучыць да найцікавейшых у гісторыі філарманічнага жыцця.**

**Праграма канцэрта засведчыла, што самыя розныя стылі самых розных эпох знайшлі ў яго ўдзельнікаў і разуменне, і тонкую, чуйную інтэрпрэтацыю: Моцарт, Данцы, Мендэльсон, Брамс, Пуленк,**



**Лютаслаўскі... Такія розныя і такія, як высветлілася, аднолькава б л і з к і я выканаўцам!**

**Народны артыст Расіі, прафесар Іван Мазгавенка самой сваёй манерай ігры — стрыманай, высакароднай (ужо не кажучы пра галавакружную тэхніку — што здавалася нават дзіўным у такім паважным узросце) выклікаў у слухачоў непадробнае захапленне, прыхільнасць і глыбокую пашану.**

**"Вельмі шматлікія ноты" ў грацыёзным Дывертысменце Моцарта для 2-х кларнетаў і фагота (І. Мазгавенка, Г. Забара, М. Забара) падаліся вытанчанымі пацеркамі на фоне пяшчотнага аксаміта Брамсавай Санаты ў выкананні Генадзя Забары. А "Танцавальныя прэлюдыі" для кларнета і фартэпіяна В. Лютаслаўскага (Г. Забара, А. Крымер), напоўненыя водарам раскошнага польскага меласу, вынаходлівыя і пікантныя па мове, густоўна адцяняліся рамантычна-ўзнёслым і адначасова гарэзлівым Канцэртшцюкам для 2-х кларнетаў і фартэпіяна Ф. Мендэльсона. Саната ж для кларнета і фартэпіяна Ф. Пуленка (Г. Забара, А. Крымер) з яе прыгожымі, адкрыта пачуццёвымі мелодыямі і немудрагелістымі, такімі знаёмымі "эстраднымі" гармоніямі ўспрымалася як эфектны канцэртны нумар. І ён нікольні не саступаў такому ж эфектнаму канцэртнаму нумару, але ўжо іншага — XVIII ст. — Канцэрціна для фагота, кларнета і фартэпіяна Ф. Данцы (І. Мазгавенка, М. Забара, А. Крымер), якое ў Мінску выконвалася ўпершыню.**

**Ігра Генадзя Забары, якая заўсёды здзіўляе нейкай невытлумачальнай магіяй, заварожвае, захапляе той магутнай аурай, якой ахутаны і асоба музыканта, і яго інструмент, уражвала сваёй дасканаласцю. Усё: лёгкая, непрыкметная атака, агромністае дыханне, якое дазваляе яму будаваць "неабдымныя" фразы, бясконца доўгая і прыгожая філіроўка гуку, плаўныя і прыгожыя хвалі дынамікі прымушалі трапятаць сэрцы меламанаў і адчуваць удзячнасць да музыканта, чыё мастацтва здольнае так упрыгожыць жыццё, так расквеціць і зачараваць непагодлівы вечар.**

**Усе словы захаплення ад канцэрта, безумоўна, трэба адрасаваць і маладому таленавітаму музыканту Максіму Забару, які не саступаў сваім знакамітым партнёрам. І — піяністу Алегу Крымеру, — далікатнаму, тонкаму артысту, які трапятліва і чуйна выканаў сціплую, на першы погляд, ролю канцэртмайстра, нягледзячы на сваю багатую канцэртную біяграфію саліста.**

**Пасля, на трамвайным прыпынку, мы напаткалі студэнтаў, што вярталіся з іншага канцэрта — сімфанічнага. Адзін з іх сказаў у захапленні, што пасля такіх музычных вечароў, ачышчаны і заміраны, ты зусім інакш глядзіш навокал. Гэтак жа можна было выказаць і пачуцці ад музычнага чарадзейства ў Камернай зале філармоніі.**

**Г. С.**

*На здымку: Генадзь Забара, Алег Крымер, Іван Мазгавенка.*

ПАЭЗІЯ

Алесь КАСКО



# Ужо выпроствaецца шлях

●

Міхасю КЕБЕЦУ

***Адзінота — асалода?..***
***Горкі ў асалоды смак.***
***Адзінота — несвабода,***
***у якой жыве мастак!***

***Кожны рух рукі — імкненне***
***з несвабоды, але ці***
***незалежны дух натхнення***
***прагне выйсце ў свет знайсці?***

***Творца сам выток і вынік,***
***каб душу — ці быць, ці не! —***
***з фарбамі змяшаць і выняць***
***ды распяць на палатне.***

***І — пацешыцца свабода***
***з несвабоды мастака,***
***як над скончанай работай***
***зноў ускіне нож рука!..***

***Творца здыме прысак поту***
***прасалелы і густы.***
***Потым выйдзе ў ноч...***
***А потым***
***вернецца да адзіноты.***
***Асалоды. Гаркаты.***

## Рукі

***Гэтым дужым рукам***
***паддавалася ўкамянелая глеба,***
***пакланяліся травастоі,***
***паслугавалі камлістыя хвоі,***
***што клаліся ў звонкія зрубы.***

***Гэтыя рукі ўмелі***
***валодаць вясельным гармонікам***
***і старою хрыпатаю скрыпкай***
***не горш, чым касой і сякерай,***
***плугам і печніковаю кельмай.***

***Гэтыя добрыя рукі***
***цягнуліся да рук самавітых, як самі, —***
***і тых, што варочалі камень,***
***і тых, што запісвалі песні,***
***і тых, што маліліся небу.***

***Гэтым рукам агідна***
***выводзіць было пад дыктоўку***
***імёны ўладальнікаў рук спрацаваных,***
***паказваць на дзверы і вокны,***
***якіх яны часта і чыста краналіся.***

***Гэтых рук не прымусілі***
***сціскацца ў кулакі ані суддзі,***
***ані прыганятыя ў рудных капальнях,***
***іх, потым вольных, баяліся брудныя рукі,***
***а незаплямленыя — рэабілітавалі.***

***Гэтыя рукі сустрэліся***
***з рукамі жанчыны ссівелае,***
***каб з імі злучыцца па лініях лёсаў, —***
***ды як мала, як мала ад іх засталося:***
***два цвікі, ад крыві паржавелыя.***

## Вінаград

***Паўдома абляпіў паўзун-вінаград,***
***быццам паўвулея — рой пчаліны***
***на заходзе цёплага сонца.***

***Варушацца, пабліскваюць***
***лісцікі-крыльцы,***
***а парыжэлыя цяжкія вінаградзіны***
***пахнуць вечаровым мёдам.***

***Зграбна месяцяцца жывыя купінкі***
***на парэнчах, на тонкіх шнурах балкона,***
***на смуглявых руках жанчыны.***

***Аплятае яе вінаград, шапаціць***
***лагодным і мяккім пчаліным роем,***
***а сонца ўсё болей заходзіць...***

***Сёння згадаўся той надвячорак:***
***з далёкага лета жанчына***
***нямогла паднесла***
***мне жменьку разынак —***

***жменьку бяскрылых, засушаных пчолак.***

●

***Жыта ўтаіла нас ад ветру і свету,***
***і ў валасы твае каласы ўпляліся,***
***і з целам зраслася спякотная глеба.***

***Сцябліны зламаліся, быццам***
***рукі сагнуліся ў локцях, і гэтак***
***сталі шматрукімі нашы адбымкі.***

***І глеба, і цела прагнулі піць,***
***Каб даспелі сухія зярняты,***
***каб выспела і адкрылася поўнасць.***

***А поўнасць, як поўдзень гарачы,***
***нядоўга стаяла ў зеніце — няўмольна***
***хілілася да астывання, заходу...***

***Немагчыма было ўжо вярнуцца***
***да ранейшых сябе, да ветру і свету,***
***а ўрэшце і да несапраўднага жыта —***

***гэтага жыта без васількоў.***

●

***Каго чакае за парогам,***
***каго вышуквае ў двары?***
***Нікога там няма, нікога,***
***а толькі ноч і сад стары.***

***Патупае па ім, па ніцым,***
***ля аканіцы пастаіць.***
***На схіле дзён, напэўна, спіцца***
***шчэ менш, чым вісус юны спіць.***

***У цемры ночы час апошні***
***яскравей і страшней відзён,***
***і гэты пагулянщчык позні***
***не хоча траціцца на сон.***

***Кагосьці чакае за парогам***
***кагось вышуквае ў двары,***
***а там — нікога, апроч Бога,***
***з ім і выходзіць гаварыць.***

## Адсяленне

***На ускрайку роднага краю***
***мала вёсак: адну за адной***
***хвалі Прыпяці прыбіваюць***
***іх да горада, як прыбой.***

***Герадотава прорва-мора***
***пашыраецца на пяскі,***
***і становіцца выспаю горад***
***з камянямі нягод людскіх.***

***Гэта вымус, абавязковасць,***
***але горычы не ўтаю:***
***разбівае на друз вясковец***
***мову, памяць, душу сваю.***

***Мо няма ў нас другога выйсця,***
***ды баюся начных вакон:***
***свеціць імі шматвока выспа,***
***а вакол... мёртвы змрок вакол...***

## З нізкі "Настроі"

***1***

***Світанкам, калі сонца — як абраз,***
***а ўкруг яго, як ручнікі, туманы, —***
***так светла на душы,***
***бы першы раз —***
***бы некалі даўно —***
***ты закаханы.***

***Яе шукаць ідзеш — і ад вітрын,***
***ад вокнаў, лужынаў***
***адводзіш вочы,***
***як ад люстэркаў, —***
***каб хоць пяць хвілін***
***сапраўднасцю ўяўлення не сурочыць.***

***2***

***Бывае ў свеце светлыня!***
***Такія яркія іскрынкі***
***ў вачах малой-малой дзяўчынкі —***
***анёлка сонечнага дня.***

***Святлее ўсё з ёй наўкруга,***
***нат смех яе, здаецца, ззяе...***
***Ды мне відно, відно, якая***
***ў святле тым тоіцца туга...***

●

***Ужо выпроствaецца шлях***
***у светлы Сад ці ў Сутарэнні...***
***Дзесь там, у іншым вымярэнні,***
***не прыйдзе гэты свет і ў снах.***

***Сказаць, што не любіў? Трываў.***
***Губляў апірышча? Сябрамі***
***не быў абдзелены; з гадамі***
***па іх найболей сумаваў.***

***А ўсё ж не дужа даражыў,***
***жыў неабвержнай праўдай тою,***
***што шлях бязмежны — за мяжою,***
***але кароткі — да мяжы.***

***Я спагадаў усёй душой***
***таму, хто кволіўся прызнацца:***
***перад зыходам***
***не сцурацца***
***пякучай крыўды, што прыйшоў.***

ПРОЗА

●

Пераплысці Сцікс самому, не чакаючы лодкі Харона, — вось вышэйшая праява чалавечай годнасці перад Богам...

●

Чытаючы "дзённікі" М. Танка, лаўлю сябе на думцы, што і яго — як выбітнога паэта — не абмінула літаратурная зайздрасць да больш удачлівых і больш слаўных калег па пяры. Асабліва — лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі (Ленінская не дацягвала?!) Мілаша, Салжаніцына, Бродскага, Пастэрнака...

І за што, маўляў, іх узнагародзілі — сляпыя й глухія да мастацкага слова — гэтыя старыя шведскія акадэмікі?!

Вунь, і таму таленавітаму не далі прэмію, і гэтаму, і яшчэ некаму і што — творчасць іх ад гэтага здрабнела?!

А ў падтэксце: і я, і мне, і чорт бы вас пабраў, і гары яна гарам вашая імперыялістычная прэмія!..

Чым мацней чалавек, як творца, тым слабей творца, як чалавек...

Зрэшты, аніякай заганы ў тым не бачу — ні ў Мілашу, ні ў Танку...

●

Толькі пабыўшы пад дурнем, беларус успамінае пра свой розум...

●

Дзе толькі не знаходзяць сённяшнія эскулапы ад літаратуры праявы постмадэрнізму! Ашаломлены, узяўся гартаць Хведара Жычку — поўны сюр!!! Аказваецца, на ўсё трэба мець адваротны погляд...

●

Людзі нараджаюцца настолькі падобнымі, што як толькі пачынаюць усведамляць гэта, то адразу вылузваюцца са скуры, каб знайсці сабе адрозненне ці хоць якую адмету... Напачатку — з бацькоўскай ласкі і заклапочанасці — імя, каб не згубіцца ў родзе чалавечым ад роду свайго, а пасля — і нешта больш істотнае, асабістае ўнутры сябе, а то і знешняе нават...

Але прыходзіць пэўны час — і сцірае нашы імёны з надмагільных помнікаў...

●

Пасажыры ў гарадскім транспарце заўжды садзяцца адзін аднаму "ў патыліцу", часта пакідаючы пустымі месцы, дзе трэба сядзець "твар у твар". Сядзець насупраць — вочы ў вочы — з незнаёмым чалавекам па сённяшнім часе небяспечна: надта ж абвостранымі сталі нашы погляды на гэты свет...

●

Суд над "Нашай нівай" — гэта суд над чалавечай мовай увогуле. Не разумею, як і за што можна судзіць мову?! Гэта ўсё адно як судзіць чалавека толькі за тое, што ён **ёсць** і — **гаворыць**...

●

Глядзеў у "Клубе кінападарожжаў" дакументальны фільм пра Сахару... Божа, некаму ж і пустэльня — Айчына...

●

Прaглядваючы прозвішчы юных аўтараў у нашаніўскім "Грамафоне", бо самі вершы, набраныя драбнюткім густым шрыфтам, нават у акулярахх не даю рады прачытаць, слупянею на прозвішчы франтавога паэта Пятра Прыходзькі...

Паколькі яго імя выдрукавана ў самым нізе старонкі, то міжволі падаецца, што ўсе астатнія тэксты грамафонаўцаў трымаюцца менавіта на ім, як бярвенні зруба на дубовай падваліне...

●

Стагоддзе з дня смерці А. С. Пушкіна ў 1937 годзе бальшавікі **ўшанавалі** тэрорам...

Чорнае супадзенне дат... Скон паэзіі ў савецкай імперыі...

●

Паэзія — пазітыў часу...

●

Бяссонне — абсурд пражытага дня...

●

З якога боку ні глядзі на гэты свет, усё адно ты бачыш толькі адзін яго — супроцьлеглы — бок...

●

Чытаю ў "Полымі" дзённікі перабудоўчых гадоў Міколы Гіля. Цікава, а галоўнае, — шчыра, што рэдкасць для беларускіх пісьменнікаў.

Наткнуўся на месца, дзе згадваюся і сам сярод маладых літаратараў: **"як кожны сапраўдны талент, ці не трагічны"...**

Паказваю жонцы той запіс 1986 года, яна й кажа: "А што, каб не паехаў у Маскву ды са мной не ажаніўся, то тра-

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

Леанід ГАЛУБОВІЧ



гэдыі наўрад ці ўбярогся б...” Іранізуе яна ці насамрэч, Бог яе ведае...

“А вось для мяне гэта была б сапраўдная трагедыя, — чуючы нашу размову з прыадчыненага сумежнага пакоя, агукваецца малая дачка, — Ксені Галубовіч тады ўвогуле не было б на свеце...”

Цяпер пра мяне ніхто ўжо так**высока** не думае і не піша.

Ці не таму, што трагедыі не адбылося...

●

Што павінен пакінуць пасля сябе чалавек? Месца для іншага чалавека...

●

За гутаркай у лімаўскім пакоі Раман Тармола пытаецца, ці прачытаў я ўсю “Боскую камедыю” Дантэ Аліг’еры... Кажу — “так”, хоць ведаю, што многа на якіх старонках філоніў.

— Ну, тады працытуй што-небудзь помнае, а то я колькі разоў браўся, а ўсё нешта не йдзе... Ледзь да паловы дапоўз...

Маю **глыбакадумнасць** выратоўвае эрудзіраваны ды іранічны Барыс Пятровіч : **“Земную жизнь пройдя до середины...”**

Смяёмся, хоць гэтага нашага ведання Раману Якубавічу недастаткова. Што ж, яно й зразумела: **сярэдзіну** ён, дзякаваць Богу, **перайшоў**...

●

Па-сапраўднаму пакутаваць за Беларусь у Беларусі не надта хто хоча, а**быць і застацца** пакутнікамі Айчыны жадаюць многія... Я тут кажу як пра матэрыяльнае, так і пра маральнае...

●

Кукуем вечарам у рэдакцыі — я, Федарэнка, Наварыч... Яны — за чаркай, я — за мінералкай ды цыгарэтным дымам... Галоўнае — сяброўская гамана. Шчырая, часам рэзкая й грубаватая...

Ну, вось — пра Шамякіна... Кажу ім, што паважаю яго, як чалавека, больш чым каго іншага з нашых старэйшых літаратараў, не зважаючы на яго палітычныя погляды. Ён мне бачны, відзён, як прыдарожны, ці як любіць шуткаваць у адносінах да мяне Рыгор Барадулін, — электрычны — слуп. Я заўжды магу гэты слуп абысці, каб не ўдарыцца, балазе, хаджу цяпер цвярозы, а калі ўзнікне патрэба — магу абаперціся, а то і ўзлезці на яго...

З іншымі — цяжэй... У складанай, нервовай, непрадказальнай сітуацыі можаш, як бач, ляснуцца на зямны грунт, пакаўзнуўшыся на іх віхлястых вужыных ценях...

Смяротнай небяспекі няма, але нутраны гідлівы страх змушае да заўсёднай пільнасці і засцярогі...

●

Калісьці Маякоўскі напісаў: “Больше поэтов — хороших и разных”...

Дзіўна, што некаторыя літаратары ўспрымаюць гэты выраз у разуменні “больш бы паэтаў добрых і ўсякіх (горшых, дрэнных і т.п.)”, а не **розных** па стылі, светаадчуванні, форме...

Так і жывём. Тым і багатыя. Не паэзіяй, а — паэтамі...

●

Раман Тармола ў “ЛіМе” за шахматамі дадае ў нейкую літаратурную спрэчку пра мяне (пры мне): “А сам Галубовіч ніколі нікога ж не пахваліў. Хітры. Нават, помніце, у той зацемцы піша: я не люблю, калі мяне хваляць... Хлопцы, а хто яго хваліць?! Адчуваеце сэнс: ён усім абвяшчае, што яго хваляць...”

Раздумаўся я: і праўда, хто ж мяне хваліць?

Але, пішучы так, зноў жа баюся, каб Тармола, крый Божа, не палічыў і гэта за маё чарговае напрошванне на пахвальбу...

●

Напрыканцы красавіка ездзілі ўсёй сям’ёй да мамы. Цяплынь. Зелянее лес... Вечарам у прылеску палілі вогнішча ды падсмажвалі сала. Асаблівая ўцеха для малое дачкі. Падсмажаная на ражне скварка — гэта табе не біг-мак з “Макдональдс”...

Цішыня, агонь, цемра і — нашы таемныя галасы з вечнасці...

Дзесьці *там* — **далёка-далёка** — Мінск, Лукашэнка, мітуслівае быццё...

Уяўная вечнасць недзе*тут*— **блізка-блізка** — поруч з мамінай хатай і могілкамі наводдаль...

●

Ужо нябожчыца, каталонка Монтсерат Ройдж у сваёй арыгінальнай кніжцы, прысвечанай літаратурнай творчасці, “Скажы мне, што ты мяне кахаеш, нават калі гэта няпраўда”, з яшчэ больш інтрыгуючым падзагалоўкам “Пра пісьменніцтва, ад якога атрымліваюць асалоду нямногія, і пра чытанне, якім грэшныя ўсе”, ад імя іспанскага раманіста Хуана Бэнета робіць спасылку на Фолкнера, які аднойчы нібыта сказаў такое: **што, калі для таго, каб пісаць, спатрэбіцца забіць маці, спаліць уласны дом, згвалтаваць сястру, то ён гэта зробіць.**

Як бы ў гэтым выказванні “не гуляўся” са словам Фолкнер і што б ён не меў на ўвазе ў падтэксце — усё гэта патыхае амерыканскім мэтавым эгаізмам...

А ўсё ж меў я рацыю, а значыць, літарацкі нюх ды інтуіцыю, калі, яшчэ не ведаючы **гэткага** Фолкнера, насмеліўся выдрукаваць пра сусветнага класіка сваё правінцыйнае: ФОЛКНЕР — ЯК АНТЫПОД СВАЁЙ ТВОРЧАСЦІ.

●

Калі чалавецтва**не можа існаваць** без Бога, значыць, — Бог**ёсць**... І няхай хто занадта разумны гэта аспрэчыць.

●

Не магу ўстрымацца, каб не прывесці ўсё з той жа Монтсерат Ройдж яшчэ адзін пасаж: “Флабэр прачнуўся вельмі задаволены: яму трэба было апісаць сцэну пахавання, і тут, **на яго шчасце**, якраз памерла маці яго сябра, доктара Пушэ”.

Я нават не ведаю, рабіць які каментар ці не... Зрэшты, уласныя ці чужыя няшчасці заўжды садзейнічалі калі не творчаму шчасцю, то аўтарскай удачы многіх вядомых пісьменнікаў. Памятаеце пра дзіцячую слязу ў Дастаеўскага? А ўся ж вялікая слава яго на “слязах ды няшчасцях”...

●

Чытаю ў правінцыйнага паэта са Смаргоні Генадзя Пятроўскага:

***Змрочным вечарочкам,***
***Пакалоўшы дровы,***
***Запалю я печку***
***Смалячком яловым...***

Ад гэтых непрыдуманых радкоў вее цяплом бацькоўскай хаты... І ў гарадской маёй кватэры, здаецца, пахне лучынай... А рука сама цягнецца да факсімільнай “Вязанкі” Янкі Лучыны — нібы з таго часу спісана...

●

Дачка крычыць з ванны жонцы: “Мама, падай, калі ласка, ручнік для ног, а то не дастану... Я ўжо хвіліну **буслікам** стаю!” (Гэта значыць: на адной назе.)

●

Жонка мая ўмее накрыць на стол. І па сённяшнім дні — не так ежай, як посудам... Мыеш пасля цэлую гару талерак, сподкаў, відэльцаў, лыжак і яшчэ чорт ведае чаго... (вячэра ж сямейная — на трох) і думаеш, што ж ты такое еў?!

Так і ў літаратуры, асабліва ў паэзіі, бывае: форма засланяе змест...

●

Апоўдні па радыё слухаю перадачу “па заяўках слухачоў”. Беларуская вядучая на беларускай мове робіць падводку да чарговай песні-заяўкі, тужлівым голасам кажа пра сум, што адольвае нас, калі мы апынаемся па-за Айчынай, і тут жа, як бы сцвярджаючы сказанае, **ставіць** песню — “Уголок России — отчий дом...”

●

Двор дома, у якім знаходзіцца рэдакцыя часопіса “Крыніца”, вясной вырашылі **акультурыць**, прывесці ў належны стан... І цяпер пад акном майго пакоя стаіць, пафарбаваная ў свежы дзяржаўны колер, сметніца. Чырвоная з зялёным кантам... Цешыць вока і грэе душу ўсім, хто бачыць яе, гэтая **сімвалічна-суверэнная сметніца**...

●

Першая і галоўная навіна (“новость дня на этот час”) па расейскіх тэлеканалах — гэта зноў жа нейкая дробная “победа” ў касмічнай прасторы...

Пасля ўжо — смерць саракадвухгадовага мужчыны, аднаго з галадаючых педагогаў ва Ульянаўску...

Што за нацыя, што за народ, што за дзяржава, і якім вар’яцкім розумам яе можна зразумець?!

Ці Цютчаў правы: аніякім...

●

Мой бацька семнаццацігадовым юнаком быў вывезены ў Германію на работы. Гарбаціў у заможнага “баўэра” на кароўніку. Тры гады дагледаў і даіў кароў. Як расказваў: пальцаў на руках не чуў, пруцянелі...

Але — якія метамарфозы! Ужо дома, пасля вызвалення, ні разу не падаіў сваю карову. Калі маці хварэла ці яе не было — хадзіў прасіць суседку... Рабіўся маленькім “баўэрам”...

Мястачковы славянскі эгаізм бальшавіцкага часу: “...и аз воздам...” Каму? І — за што?!

●

Прынёс С. Патаранскі паэму “Наркаманічны цыкл”... Прачытаў, сяджу ды няспешна перажоўваю змест — кайфу ні ў адным воку...

●

На капежнай трубе каля рэдакцыі “ЛіМа” прыклеена прыватная абвестка-рэклама самадзейнага лекара з такой фразай: “Я похудела на 14 кг...” А нейкі **кемлівы** чытач замазаў фламастэрам у другім слове першую і пятую літары...

Творым пацыху і паўсюль... І ў літаратуры — таксама.

●

Сяргей Вераціла тэлефануе з “Крыніцы” Алене Сямёнаўне Васілевіч наконт адной прапановы...

— Пазваніце ім па тэлефоне (называе нумар), скажыце — так і так, маўляў, ад Вераціла гэта... Усё будзе нармальна... толькі адразу **павітайцеся, канечне,** і гаварыце з імі па-руску, **калі ласка...**

Я, Разанаў і Акудовіч “шалеем”, уяўляючы бясслоўную рэакцыю ў адказ інтэлігентнай, вытанчанай і датклівай Алены Сямёнаўны...

Што праўда, то і прапанова па нашым бедным часе была настолькі вартая і ўдзячная, наколькі авантурная і небяспечная...

●

З **недалёкім** чалавекам далёка не дойдзеш...

●

Асацыяцыя: глядзець на свет **з-пад брыля**... Спадзяюся, Іван Антонавіч не пакрыўдзіцца...

●

Усё крычалі пра “за**сора**на**с**ць” незалежных выданняў... А ў дзяржаўных так падмялі, што мышы дохнуць... “**Заметали на** совесть”?..

●

Я не сумняваюся, што многія нашы літаратары і цяпер **стаяць** на падхопе ў КДБ. Ёсць сярод іх і таленавітыя... Бачна — Бог іх карае...

Лёс не ўведаеш, але і пражытага не схаваеш...

●

Бывала, і аднаго верша хапала, каб застацца Паэтам... А цяпер — і трохтомніка мала...

●

Калі тваё жыццё **вісіць** на Слове, як залыганы на вяроўцы, — то ці вяроўка ў тым вінаватая?.. Такая ўжо яе **місія** — не адпускаць... Адпусціць (абарвецца) — застанешся жыць, не адпусціць — застанешся ў Слове...

●

Усякі прамінулы час падлягае асэнсаванню, а не крытыцы. Не трэба вялікага розуму і вялікай адвагі, каб крытыкаваць тое, што ўжо адбылося. Крытыцы падлягае толькі тое, што дзеецца ці яшчэ будзе дзеяцца.

●

Няма большага эгаіста як самагубца. Дзеля сябе ён дамагаецца нават уласнай смерці...

●

Мы так добра **захавалі** нацыянальныя традыцыі, што іх цяжка адшукаць...

●

Еду на работу ў тралейбусе. Бліжэй да кабінкі кіроўцы ёсць два парныя месцы — адно супраць другога — вочы ў вочы, а не як звыкла — вочы ў спіну. Сядзяць там дзве інтэлігентнага выгляду і сярэдніх гадоў жанчыны, а насупраць іх — ні то вясковы дзядзька ў швэдары (лета, спёка), ні то абымшэлы сталічны пралетарый, карані якога таксама адсохлі недзе ў глыбокай беларускай правінцыі. Аднак — цвярозы і як бы прыстойны. І вось сядзіць ён, бедны, тварам да тых жанчын, а яны — ані ў чым невінаватыя — чамусьці ўсё вочы свае ад яго адводзяць і ў вачах тых ні то прысаромленасць, ні то разгубленасць...

Прыглядзеўся я шчыльней да мужыка — а ў яго прарэх, прабачце, расшпілены на ўсё зева...

Я і сам вочы інстынктыўна адвёў, хоць і не з датклівых. Проста, прыпомнілася, як аднойчы, спазняючыся на працу, аж да тралейбуснага прыпынку пёрся ў такім непатрэбным выглядзе...

Спадзяваўся, што дзядзька вось-вось заўважыць ці выпадкова адчуе-намацае сваю жахлівую непрыкрытасць... Але — не...

Нарэшце ён сабраўся выходзіць. І так хацелася яму падказаць — шапнуць ці жэстам — ды не даў рады насмеліцца... А дзядзьку ж яшчэ йсці ці ехаць трэба...

Як бы й ты вінаваты, што ў яго такая незадача выйшла... Паскуднае становішча, яй-Богу. Проста фізічна адчуваў, як яму будзе брыдка, калі ён**таго**хопіцца і **тое** зразумее, ужо не перад кім-небудзь, а — перад самім сабой...

І ўвогуле, гэтыя прарэхі **на маланках** — ненадзейныя і канфузлівыя штукі, скажу я вам, мілыя жанчыны... Агаломшваюць як гром з яснага неба...

●

Рабоў трэба ненавідзець. Любіць іх, спачуваць ім — значыць, садзейнічаць рабству...

●

Мой селядоршы брат спецыяльна прыязджаў да Міколы Мятліцкага (незадоўга да выхаду маёй першай кніжкі) пытацца: я — сапраўды **нейкі там** паэт ці проста лайдак і апівоша, які не хоча жыць і працаваць як усе добрыя людзі?..

Дзякуй Мятліцкаму: ён усё ж прызнаў мяне за паэта. А брат, недаверліва пакруціўшы галавой, прыехаўшы дадому, сказаў бацькам: што зробіш, хай сабе піша, мо шчэ й грошай дадуць...

Так я быў, нарэшце, са скрыпам прызнаны **сваім** народам...

●

Божая кароўка — на ваконным шкле перапоўненага сталічнага тралейбуса...

Поўзае, не знаходзячы выйсця ў гэтым задушлівым гармідары потнага натоўпу...

Гляджу-дзіўлюся, не з яе — жывое, а — з нас...

●

Творчы эгаізм і зайздрасць ёсць вечны рухавік мастацтва...

Праўда, і тут трэба мець талент, каб ведаць меру...

*(Працяг на стар. 12)*



**ЧАСАПІС**

## Ва ўдарнікаў — ударна!

**І хто ж з нашых меламанаў не памятае дзівосныя, але рэдкасныя выступленні Ансамбля ўдарных інструментаў пад кіраўніцтвам лаўрэата міжнародных конкурсаў Уладзіміра Судноўскага! Ён гэты калектыў стварыў з такіх, як сам, энтузіястаў. Ён, апантаны мастацтвам, выступаў з сольнымі канцэртамі, падчас якіх раскрываўся як захоплены лектар-асветнік, віртуозны выканаўца-мультыінструменталіст, чулы аранжыроўшчык, дзякуючы якому сімфанічныя партытуры набылі незвычайную густоўную афарбоўку ў размаітым "ударным сямействе". Па ініцыятыве У. Судноўскага пры Саюзе музычных дзеячаў у 1995 г. была створана Беларуская перкусійная (выканальніцтва на ўдарных інструментах) асацыяцыя. Ён, артыст аркестра тэатра оперы і балета, саліст Ансамбля "Класік-Авангард", і ўзначаліў гэтую творчую суполку. Справы ладзіліся. Нават калі У. Судноўскі атрымаў часовую працу за мяжой і з'ехаў з Беларусі, асацыяцыя не развалілася. Два гады таму кіраўніцтва прыняў яе адказны сакратар Ігар Аўдзееў. На атрыманы тады ад Фонду Сораса грант (3 тыс. нямецкіх марак) праз нямецкіх партнёраў была куплена спецыяльная літаратура, якой хранічна бракуе беларускім музыкантам. Ды вось кур'ёз: за яе дастаўку адрасату запатрабавалі пошліну, роўную кошту саміх нот! "Пасылку" мусілі вярнуць да лепшых часоў. І толькі калі беларускія музыканты апынуліся на гастролях у Германіі, яны змаглі атрымаць літаратуру, прывезці ў Мінск, дзе з яе зрабілі неабходную колькасць копій і распаўсюдзілі па музычных навучальных установах.**

**Пры канцы 1998 г. у жыцці перкусійнай асацыяцыі адбылася значная творчая падзея. Беларускі ансамбль ударных інструментаў, які існуе пры Нацыянальным тэатры оперы і балета і ў складзе якога граюць лепшыя музыканты сталіцы, пабываў на Міжнародным фестывалі ў Вільні. Ён добра выступіў, звярнуў на сябе ўвагу замежных калег, наладзіў сувязі з музыкантамі ЗША, Летувы, Масквы, Санкт-Пецярбурга. Як заўважыў старшыня БПА І. Аўдзееў, своеасаблівым цэнтрам прафесійных стасункаў яны вызначылі для сябе Вільню. Тут лацвей падтрымліваць міжнародныя кантакты, сустракацца для абмену інфармацыяй, нотамі. Дарэчы, наш ансамбль атрымаў запрашэнне выступіць у Летуве ў новым годзе, чакаюць нашых музыкантаў і ў Амстэрдаме. І гэтым планы не абмяжоўваюцца...**

**С. Б.**

## Перадкаляднае свята мастацтва

**10 снежня ў выставачнай зале Музея гісторыі і культуры Навапалацка адбылося адкрыццё выставы габелена, батыка і акварэлі Таццяны Козік з Полацка і Наталлі Лісоўскай з Віцебска. Абедзве мастачкі скончылі Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці і плённа працуюць у галіне габелена. Удзельніцы шматлікіх выстаў як на Беларусі, так і за межамі краіны. Наталля Лісоўская дацэнт кафедры дызайна Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Мастачка працуе выключна ў галіне габелена, адна з лідэраў віцебскай школы габелена — цікавай з'явы сучаснага беларускага мастацтва. Таццяна Козік доўгі час жыла ў Навапалацку, але ў 1997 годзе пераехала ў Полацк. Акрамя габелена, працуе ў галіне батыка і акварэлі. Практычна ўсе свае габелены Таццяна "ілюструе" вершамі — сваімі, або полацкага паэта Алеся Аркуша. На адкрыцці выставы гучала шмат цёплых слоў ад калег-мастакоў, знаёмых і сяброў. Тэкставую частку экспазіцыі агучыў адзін з яе аўтараў — Алесь Аркуш.**

**В. К.**

## Даследуе гісторыю культуры і асветы

**Гэтым займаецца Марат Батвіннік, якому 22 снежня 1998 года споўнілася 70 гадоў. Марат Барысавіч — родам з Мінска, у 1951 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў ва ўстановах народнай асветы, а з 1957 года — у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. На даследчыцкім рахунку М. Батвінніка такія кнігі, як "Н. М. Никольский", "Лаврентий Зизаний", "В.Н. Перцев", "Откуда есть пошел букварь". Ён з'яўляецца адным з аўтараў кніг "Беларускі асветнік Францыск Скарына і пачатак кнігадрукавання на Беларусі і ў Літве", "Іван Фёдараў і ўсходнеславянскае кнігадрукаванне", адказным рэдактарам кнігі "Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар".**

# Лялькі ў коле звяроў

## 60 ГАДОЎ ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА ЛЯЛЕК БЕЛАРУСІ Ў СВЯТЛЕ ЎСХОДНЯГА ГАРАСКОПА

***Ён з'явіўся на свет у год Жоўтага Тыгра, небяспечнага і непрадказальнага, і лёс ягоны падобны на лёсы многіх яго сучаснікаў — людзей і тэатраў... Цяжкае юнацтва, першыя поспехі, вайна, што іх абарвала, потым — фронт, радасць Перамогі, вяртанне дадому, жыццё, пачатае спачатку, на новым месцы, у іншым горадзе... Доўгія гады вучнёўства, невядомасць, удачы і пралікі і, нарэшце, прызнанне, аўтарытэт у тэатральным свеце, прызы і дыпломы фестываляў, замежныя гастролі...***

Гісторыя Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі — першага прафесійнага калектыву лялечнікаў нашай рэспублікі, пачалася шэсцьдзесят гадоў таму ў Гомелі, дзе паводле рашэння Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР 15 ліпеня 1938 года адбылося яго афіцыйнае адкрыццё. У верасні таго ж года гледачам была паказана першая прэм'ера — спектакль "Па шчупаковым жаданні" Л. Тарахоўскай (рэжысёр М. Райская), пастаўлены па эскізах Цэнтральнага тэатра лялек пад кіраўніцтвам С. Абразцова. Потым былі пастаноўкі "Майдадыра" К. Чукоўскага, "Казкі пра папа і яго работніка Балду" А. Пушкіна, "Гусяня" Н. Гернет... Аўтарская казка, народная руская казка, класічная руская казка. Вядома, усе чакалі, што маладыя лялечнікі пачнуць працаваць з беларускім фальклорам, ствараць арыгінальны рэпертуар, без якога немагчыма набыць уласны мастацкі почырк.

Гэта была няпростая задача. Прафесійныя драматургі толькі пачыналі асвойваць гэты від тэатра, звыклай сферай знаходжання якога былі кірмашы, балаганы, рыначныя пляцоўкі, вазы батлейшчыкаў. Сюжэты лялечных прадстаўленняў былі традыцыйнымі, а тэксты часцей за ўсё імправізаваліся. Арыгінальная п'еса для тэатра лялек была ў тыя гады вялікай рэдкасцю, і тым не менш новая беларуская казка ў афішы Дзяржаўнага тэатра лялек з'явілася. І даволі хутка.

Адбылося гэта пасля гастроляў у Мінску, дзе малады тэатр паказваў свае першыя работы сталічнаму гледачу, даросламу і малому. Сярод дарослых гледачоў былі акцёры, рэжысёры, крытыкі, пісьменнікі, музыканты. Завітаў неяк на гэтыя паказы вядомы драматург Віталь Вольскі. Вынікам яго сустрэчы з калектывам гомельскіх лялечнікаў стала п'еса, якой суджана было стаць класічнай беларускай драматургіяй, самай папулярнай беларускай тэатральнай казкай. У сцэнічнай рэдакцыі яна называлася "Дзед і жораў", але першы варыянт яе назвы "Чароўны падарунак", на мой погляд, больш адпавядае той ролі, якую яна адыграла ў лёсе Дзяржаўнага тэатра лялек. Віталь Вольскі сапраўды падарыў яму чароўны падарунак, свайго роду літаратурны талісман. Мяркуйце самі: п'еса, напісаная ў 1939 годзе, і дагэтуль займае адно з самых ганаровых месц у рэпертуарнай афішы Дзяржаўнага тэатра лялек. За шэсцьдзесят гадоў сваёй гісторыі тэатр стварыў восем сцэнічных версій гэтай казкі і амаль усе яны былі паспяховымі. Больш за тое, яны былі вехамі творчага шляху тэатра, адзначалі новыя этапы яго станаўлення. Першая пастаноўка п'есы "Дзед і жораў" стала рэжысёрскім дэбютам вядучага акцёра трупы М. Бабушкіна, будучага мастацкага кіраўніка тэатра. У рабоце над гэтым спектаклем склаўся творчы дуэт М. Бабушкіна і мастака Б. Звінагродскага. З іх імёнамі звязаны лёс тэатра ў саракавыя гады.

У 1940 годзе, пасля кароткай вучобы ў Маскве, М. Бабушкін становіцца галоўным рэжысёрам тэатра, Б. Звінагродскі — галоўным мастаком. У гэты кароткі перадваенны перыяд работа тэатра была вельмі інтэнсіўнай. Лялечнікі пашыралі жанравы дыяпазон сваіх спектакляў, а разам з ім — і кола гледачоў. Разам з казкамі для самых маленькіх — "Вялікім Іванам" С. Прэабражэнскага і С. Абразцова, "Чырвонай Шапачкай" Ш. Пяро — тэатр ставіць "Падарожжа ў дзіўныя краіны" У. Палякова, дыдактычны спектакль для малодшых школьнікаў і лірычную "Каштанку" А. Чэхава, адрасаваную маладзёжнай аўдыторыі. У планах тэатра былі спектаклі для дарослага гледача, паказы ў Маскве, работа з беларускімі драматургамі над стварэннем новых п'ес для тэатра лялек, але ўсе гэтыя планы, мары і спадзяванні закрэсліла вайна.

Вялікая Айчынная вайна прыпыніла работу тэатра. Частка трупы была мабілізавана ў шэрагі Чырвонай Арміі, астатнія ўдзень разам з усімі гамяльчанамі капалі траншэі, вечарамі давалі спектаклі ў гарадскіх клубах і вайсковых часцях. Фронт падыходзіў да горада ўсё бліжэй, Гомель бамбілі, у час адной з бамбёжак загінулі тэатральныя дэкарацыі і лялькі. У жніўні 1941 года тэатр быў эвакуіраваны ў Сталінабад (цяпер — г. Душанбе). У 1943 годзе туды ж прыехаў дэмабілізаваны пасля ранення М. Бабушкін. Пачалася работа па аднаўленні рэпертуару, аднаўленні дзейнасці тэатра. Першым спектаклем стаў "Вялікі Іван", і менавіта з яго пачалася пасляваенная гісторыя Дзяржаўнага тэатра лялек БССР.

Лялечнікі былі першымі з тэатральных калектываў Беларусі, хто аднавіў работу ў вызваленай рэспубліцы. Да заканчэння вайны заставаўся год, яшчэ ішлі баі за Віцебск, Оршу, Магілёў, а на пляцоўках Гомеля 1 мая 1944 года ўжо ішлі спектаклі Дзяржаўнага тэатра лялек. Са спектаклем "Вялікі Іван" і канцэртнай праграмай лялечнікі выязджалі на фронт, а потым выпраўляліся ў працяглыя гастролі па вёсках і мястэчках апаленай вайной Беларусі.

Аднаўленне творчага патэнцыялу тэатра адбывалася цяжка, трупа значна зменшылася, адчуваўся востры дэфіцыт акцёраў, рэжысёраў-пастаноўшчыкаў, работнікаў майстэрань. Усё гэта прывяло да таго, што ў маі 1949 года тэатр спыніў сваю дзейнасць у Гомелі.

Прайшло дванаццаць гадоў. Каляндарнае Кола Звяроў скончыла свой абарот. Зноў настаў год Тыгра — 1950. На гэты раз гэта быў Белы Тыгр, сімвал стыхіі Металу, імклівы, сабраны, цярплівы, ён умее чакаць удачу і не ўпускаць яе. У сакавіку гэтага года адбылося другое нараджэнне Дзяржаўнага тэатра лялек, цяпер — у сталіцы рэспублікі, у Мінску. Мастацкім кіраўніком тэатра стаў А. Аркадзьеў, які да таго ўзначальваў Беларускую дзяржаўную эстраду. Першымі спектаклямі абноўленага калектыву лялечнікаў сталі казкі для самых маленькіх гледачоў — "Дзед Мароз" А. Шурынавай, "Па шчупаковым жаданні" Л. Тарахоўскай. У 1952 годзе тэатр зноў звярнуўся да п'есы "Дзед і жораў". Гэты спектакль таксама стаў для тэатра пэўнай вехай, але веха гэта ўказвала напрамак, які адводзіў убок ад эстэтыкі лялечнага тэатра. Лялькі капіравалі чалавека, дзеянне спектакля, яго мізансцэнічны малюнак будаваліся па законах драмы. Уплыў натуралізму быў адчувальны і ў іншых пастаноўках тэатра першай паловы пяцідзесятых гадоў: "Следапытах" С. Мерзлякова, "Цудоўнай дудцы" В. Вольскага, "Лясной хаце" П. Данілава і іншых.

У 1956 годзе ў тэатры адбылася змена мастацкага кіраўніка. Галоўным рэжысёрам тэатра стаў Анатоль Ляляўскі. З яго імем звязаны доўгі плённы перыяд вяртання да вобразнасці і метафарычнасці сцэнічнай мовы, пошуку новых сродкаў выяўленчасці, разнастайнасці стыляў і жанраў пастановак. У гэтых навацыях А. Ляляўскага дзейсна падтрымаў галоўны мастак тэатра Л. Быкаў, які прыйшоў у тэатр у 1957 годзе.

Ужо першая іх сумесная праца — спектакль паводле рускіх народных казак "Іванцарэвіч і шэры воўк" паказала імкненне пастаноўшчыкаў і акцёраў да стварэння яркага, займальнага відовішча, выразных характараў, вобразных лялек. Ён карыстаўся вялікім поспехам як у гледачоў, так і ў тэатральных крытыкаў, якія прылічалі яго да лепшых спектакляў для дзяцей пяцідзесятых гадоў.

Прайшло яшчэ дванаццаць гадоў і настаў новы год Тыгра — 1962. Колер звера быў чорны, ён сімвалізаваў Ваду — стыхію мутацыі, таямніцы, абнаўлення, набыцця новых нечаканых якасцяў. Тыгр зноў пацвердзіў сваё зацікаўленае стаўленне да беларускага лялечнага тэатра — адкрыліся тэатры лялек у Гомелі і Брэсце. У жыцці Дзяржаўнага тэатра лялек у гэты год не адбывалася якіх-небудзь карэнных змен, якія параўноўваліся б з падзеямі 1938 і 1950 гадоў. Але ў ім пачыналіся змены ўнутраныя, тая самая таемная мутацыя, якую абяцаў гараскоп, набыццё новых творчых якасцяў.

У сезоне 1961/62 гадоў на сцэне тэатра лялек з'яўляецца спектакль "Сярэбраная табакерка" З. Бядулі, затым — "Марынка-крапіўніца" А. Вольскага, П. Макаля, "Вясёлы цырк" А. Ляляўскага, новая версія "Дзеда і жорава", "Ліпавічкі" паводле У. Галубка. Імкненне да стварэння арыгінальнага рэпертуару, цесныя кантакты з беларускімі драматургамі, інсцэнізацыя нацыянальнай класікі — так закладваўся падмурак будучых поспехаў, мастацкай своеасаблівасці, усесаюзнай і еўрапейскай вядомасці. І шасцідзясятыя гады паклалі ў яго нямала цаглінак — прыкметных і не вельмі прыкметных.

У тэатр прыйшла таленавітая моладзь — рэжысёр В. Казлова, сцэнограф А. Фаміна, акцёры В. Грамовіч, В. Пражэева, Е. Рамановіч, інш. Майстэрства трупы станавілася ўсё больш сталым, задумы — маштабнымі, але Дзяржаўны тэатр лялек на трэцім дзесяцігоддзі свайго існавання заставаўся тэатрам перасоўным. Ён не меў стацыянарнага памяшкання, жыў "на колах", у бясконцых гастрольных паездках. Гэта не магло не стрымліваць развіццё тэатра, накладаючы на задумы пастаноўшчыкаў жорсткія тэхнічныя абмежаванні.

У сярэдзіне шасцідзясятых гадоў тэатр нарэшце набыў уласны дом — стацыянарную залу на вуліцы Энгельса, 20. Вандроўнае жыццё скончылася. Цяпер яго калектыву былі па плячы самыя складаныя тэхнічныя рашэнні і самыя нямыслімыя творчыя ўзлёты. І ён не прамінуў гэтым пакарыстацца. У яго рэпертуарным партфелі з'явілася літаратура, якая раней не інтэрпрэтавалася на лялечнай сцэне: "Залаты конь" Я. Райніса, "Клоп" У. Маякоўскага, "Жар-птушка" І. Стравінскага, "Вясенняя казка" Я. Глебава. Фармавалася новая сцэнічная мова, раней невядомая тэатру лялек, у вобразную структуру спектакляў уключаліся прыёмы пластычнага і опернага тэатра, на сцэне з'явілася скульптура і маска, лялькі ўзаемадзейнічалі з жывым акцёрам. Узнікаў Паэтычны тэатр лялек — новае звяно ў бясконцым ланцужку развіцця і трансфармацыі сцэнічнага мастацтва.

Наступны год Тыгра — 1974 — падрыхтаваў Дзяржаўнаму тэатру лялек ролю гаспадара на рэгіянальным фестывалі тэатраў лялек рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі. Да гэтага фестывалі праходзілі ў Таліне, Рызе, Коўне. Колер Тыгра быў блакітны, ён сімвалізаваў стыхію Дрэва (Сусветнага Дрэва), якая нясе аб'яднанне, гармонію, вырастанне. Сярод сваіх сабратоў па Коле Звяроў ён адносіцца да ліку найбольш спакойных і цярплівых драпежнікаў, часам праяўляў нават схільнасць да вегетарыянства.

У гэты год быў закладзены дванаццацігадовы цыкл спакойнай плённай працы, рэалізацыі даўніх планаў, творчага росту. Тэатру ўдаваліся самыя складаныя філасофскія драмы і самыя бясхітрасныя казкі. "Зорны хлопчык" О. Уайльда, "Дзякуй, вялікі дзякуй" А. Вярцінскага, "Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты" П. Неруды, "Салавей" Х.-К. Андэрсена, "Прыгоды бравага салдата Швейка" Я. Гашака, "Жаваранак" Ж. Ануя. У яго афішы з'явіліся інсцэнізацыі сучаснай прозы — "Да трэціх пеўняў" В. Шукшына і класікі — "Ляўша" М. Ляскова, "Сымон-музыка" Я. Коласа.

Тэатр паспяхова ўдзельнічаў у многіх фестывалях: Міжнародным фестывалі балгарскай драматургіі "Залаты дэльфін" (Варна, 1978), Міжнародным фестывалі тэат-

раў лялек у Шарлевілі дэ Мезьер (Францыя, 1985), фестывалях рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі (Вільня, 1978; Талін, 1982), Беларускіх рэспубліканскіх (Мінск, 1981; Магілёў, 1983).

Час прыспешваў. Нячутна ступаючы на мяккіх лапах, падышоў новы год Тыгра — 1986. Яго колер быў чырвоным, ён сімвалізаваў стыхію Агню, якая, паводле гараскопа, нясе творчую актыўнасць, пераўтваральныя змены, неспакой і некаторую амбіцыйнасць.

Гараскоп не хлусіў, і змены ў тэатры сапраўды адбыліся. Анатоля Ляляўскага, які ўзначальваў тэатр на працягу трыццаці гадоў, змяніў на пасадзе галоўнага рэжысёра яго сын Аляксей. Рэжысёрскі вопыт Аляксея Ляляўскага да таго часу быў не вельмі вялікі. Свой першы спектакль — "Салавей" Х.-К. Андрэсена ён паставіў у 1980 годзе, калі быў яшчэ студэнтам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Але яго работы хутка заваявалі глядацкі поспех і прызнанне прафесіяналаў. Невыпадкова менавіта спектакль "Салавей" прадстаўляў мастацтва беларускіх лялечнікаў на адным з самых прэстыжных фестываляў — у Шарлевілі дэ Мезьер (Францыя), дзе знаходзіцца штаб-кватэра Міжнароднага саюза дзеячаў лялечнага тэатра, які дзейнічае пад эгідай ЮНЕСКА. Да прыходу ў Дзяржаўны тэатр лялек Аляксей Ляляўскі працаваў галоўным рэжысёрам Магілёўскага тэатра лялек. Пад яго кіраўніцтвам трупа нядаўна створанага абласнога тэатра набыла вядомасць у рэспубліцы і за яе межамі і здолела стварыць дастойную канкурэнцыю сваім вопытным сталічным калегам.

Першай пастаноўкай А. Ляляўскага ў якасці галоўнага рэжысёра Дзяржаўнага тэатра лялек стала новая сцэнічная версія... вядома ж, "Дзеда і жорава"! Гэты спектакль можа быць па праву названы шчасліўчыкам. Рэжысёру і яго сааўтару — сцэнографу А. Ганіодскай удалося стварыць спектакль надзіва абаяльны, мудры, вясёлы, дзе за зусім сучаснай формай жыў вечны дух народнага тэатра з яго невычарпальным гумарам, аптымізмам, верай у непераможную сілу дабра.

Спектакль "Дзед і жораў" адразу заваяваў прызнанне на радзіме і за мяжой, стаў свайго роду лялечным бестселерам, візітнай карткай не толькі Дзяржаўнага тэатра лялек, а і беларускага лялечнага тэатра ў цэлым.

Услед за "Дзедам і жоравам" на афішы тэатра з'явіліся новыя спектаклі А. Ляляўскага: "Майстар і Маргарыта" М. Булгакава, "Сымон-музыка" Якуба Коласа, "Бура" У. Шэкспіра, "Цар Ірад" Г. Барышава, "Папялушка" Ж. Маснэ, "Гісторыя Снежнай каралевы" Х.-К. Андэрсена і іншыя.

Лялечны тэатр займае асаблівае месца ў сям'і сцэнічных мастацтваў. Ён падобны і непадобны на сваіх сабратоў. У працэсе пастаноўкі лялечнага спектакля ствараецца не толькі дзеянне і сюжэт, а і сам персанаж, яго аблічча, характар, яго плоць. Таму ў лялечным тэатры цяжка пераацаніць ролю мастака — творцу гэтага дзіўнага ўласнага свету, той планеты, дзе разгортваецца фабула, куды тэатр запрашае гледача.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў тварэннем светаў на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек займаліся Л. Быкаў, А. Фаміна, Л. Герлаван, А. Вахрамееў, канструктар лялек А. Нікалайчык. А ўдыхалі жыццё ў іх тварэнні акцёры В. Власаў, В. Калашнікаў, Л. Мікула, А. Іванова, Л. Пахомава, В. Грамовіч, А. Паўлікаў, А. Вергуноў, Ю. Сарычаў, Я. Агеенка, В. Белаш, А. Васько, А. Казакоў, Л. Немагай, В. Варанкоў, А. Сцепанюк, А. Барысава, І. Ганчар, В. Глазкоў, С. Цімохіна і іншыя. Магчымасць працэсаў тварэння і ўдыхання забяспечвае адміністрацыйны корпус тэатра на чале з дырэктарам Е. Клімаковым.

Доўгая сумесная праца некалькіх пакаленняў лялечнікаў прынесла свой плён. Сёння Дзяржаўны тэатр лялек — адзін з самых папулярных у рэспубліцы, любімы дзецьмі і дарослымі. Добра вядомы ён і за мяжой. І як арганізатара аднаго з буйнейшых у Беларусі Міжнародных фестываляў, і як удзельнік сусветных тэатральных фэстаў.

І вось — яму шэсцьдзесят. У юбілеях заўсёды прысутнічае нейкае адценне спалоху перад часам. Шэсцьдзесят — шмат гэта ці мала? На Усходзе лічаць, што гэта адзін поўны цыкл старажытнага Кола Звяроў. Дванаццаць сімвалічных жывёлін, увасобленых у пяці стыхіях — дрэва, металу, агню, зямлі і вады. Адзін каляндарны цыкл. Узрост сталасці. Не больш.

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК**

ВІНШУЕМ!

# Чалавек тэатра, чалавек літаратуры

## Барысу БУР'ЯНУ — 75



*На здымку: Уладзімір Караткевіч, Васіль Сёмуха, Барыс Бур'ян. 1972 г.*

*Фота Уладзіміра КРУКА*

"Тэатральнае відовішча бывае такое, як сёння, толькі раз. Толькі адзін раз у гэтым напале раскрываюцца пачуцці і думкі герояў, ролі якіх сёння ўвечары ігралі менавіта гэтыя выканаўцы, а ў глядзельнай зале сабраліся вось гэтыя людзі. Тэмпераментныя імпульсы са сцэны пасылаюцца за рампу, прамянеюць у партэр і на балконы. Але і адтуль, з залы, таксама ідзе сустрэчны паток эмацыянальнага напалу. І спалучэнне нараджаецца унікальнае. Непаўторнае. Яно жыве толькі сёння. Толькі якіх тры гадзіны. І паўтарыцца не можа".

І тут ніхто і нішто не можа замяніць і адмяніць адухоўленае і таленавітае пяро крытыка. Тэатральнага крытыка. Бо кнігу ўсё ж можна прачытаць самому, творы выяўленчага мастацтва — пабачыць: у арыгінале ці хаця б у рэпрадукцыях, фільм — паглядзець. Спектакль — застаецца ў сведчаннях. Пра свята ўзрушэнняў і перажыванняў, пра моманты сцвярджэння мастацкай ісціны, выяўленай у слове, жэсце, руху, ва ўсім спалучэнні думак, пачуццяў, зрокава-відовішчным і музычным спалучэнні, ва ўсім, што складае, — спектакль.

І колькі такіх сведчанняў — таленавітых, усхваляваных, яркіх — на рахунку Барыса Бур'яна! Менавіта яго словы пачынаюць гэты мой допіс. Менавіта ён з'явіўся некалі ў выдавецтве "Навука і тэхніка" з адной са сваіх кніг пра тэатр. І мне давялося быць рэдактарам яго рукапісу.

Выдавецтва гэта — акадэмічнае, звычайна ў ім друкаваліся і друкуюцца дагэтуль (мяняюцца толькі назвы выдавецтва) аўтары інстытутаў Акадэміі навук. Тады, на схіле адлігі, былі допушчаны і "вольныя" аўтары. І ў нашай рэдакцыі з'явіўся філосаф Мікалай Крукоўскі, што нібыта выпраменьваў думку і ствараў вакол сябе інтэлектуальную атмасферу. І — Барыс Бур'ян. Тэатральны і літаратурны крытык, празаік, драматург, перакладчык, сцэнарыст. Чалавек тэатра, чалавек літаратуры.

На тую пару грымнуў сапраўдны тэатральны бум. І ў нас, на Беларусі, і на ўсёй прасторы былога Саюза. І ў краінах Еўропы. Тачылі свае пёры і крытыкі. Колькі бліскучых імёнаў! Хаця не звяліся і тыя, што, паводле Уласа Дарашэвіча, вядомага дарэвалюцыйнага журналіста, маглі і Венеру Мілоскую апісаць так: "У яе правільны твар. Грудзі развіты нармальна. Дэфектаў у целабудове не заўважаецца. І, на жаль, не хапае рук".

У акадэмічных гмахах такіх "добрасумленных крытыкаў", што былі надзейна абаронены навуковымі званнямі, пашанотнымі навуковымі ступенямі, а іх кнігі — рашэннямі вучоных саветаў, форумаў, сінклітаў, было... дастаткова. Мастацтва тэатра — безабароннае перад імі. І перад гісторыяй.

І таму асабліва прыкметным было з'яўленне аднаго з тых, хто вызначаў сапраўднае тэатральнае жыццё. А на тую пару вялі рэй на старонках "ЛіМа" тэатральныя крытыкі Георгій Колас, Тамара Бушко. І — наш аўтар: Барыс Бур'ян. Яркі. Артыстычны. У жыцці. І на пісьме. Адчувалася, для яго сапраўды "сачыць за акцёрам у святле рампы — творчы акт". І стварэнне рэцэнзій, аглядаў і партрэтаў — натхнёная імправізацыя, вобразна-аналітычны спосаб узнаўлення бачанага на сцэне, адчутага на спектаклі.

Барыс Бур'ян умее захапляцца. Любіць — адкрываць. Умее згадаць, здавалася б, амаль забытае.

Ён не пісаў "многотрудных" манаграфій па гісторыі тэатра, але ў яго, здавалася б, калейдаскапічных нататках — жывыя вобразы, усхваляваны роздум, трапныя назіранні. Тэатральныя, сцэнічныя ўражанні — па якіх мы адчуем непаўторны водар мастацтва, атрымаем асалоду ад спектакляў, якія мы ніколі не бачылі, зверым свае ўражанні ад фактаў тэатральнага жыцця, і нават калі катэгарычна не пагодзімся з крытыкам — з цікавасцю прасочым ход прафесійнай думкі, памяркуем — аб ракурсе бачання: яго і свайго. Будзем мець асобае задавальненне ад акцёрскіх партрэтаў яго пяра: то замашыста маштабных, жывапісна яркіх, то — у лепшых традыцыях класіцызму — прамалінеяных дакладна, ясна, падрабязна, то пададзеных з імпрэсіяніцкім адчуваннем паэзіі імгнення. Заўважым — дзе тонкую нюансіроўку, дзе — пуантылісцкі метад малюнка, дзе — жорсткую графічнасць стылю.

Заўважым і спалучэнне: ведаў і валодання мастацкім словам, умення аналізаваць і ўспрымаць эмацыянальна, гаворкі нібыта нязмушанай — і прадуманай, узважанай, калі ёсць логіка думкі і логіка ўражанняў. І вось у той самай калейдаскапічнасці ёсць свая паслядоўнасць. Абумоўленая прафесіяналізмам, эрудыцыяй, дапытлівасцю.

Барыс Бур'ян ведае законы сцэны. Ведае гісторыю тэатра — беларускага, заходнееўрапейскага, рускага. Добра знаёмы з працамі тэарэтыкаў і практыкаў тэатра. Што відавочна адбіваецца на тым, што ён піша. Як і выдатная арыентаванасць у драматургіі, паэзіі, увогуле літаратуры.

Вяду пра гэта гаворку і як чытач, і як рэдактар. Не толькі той даўняй, 60-х гадоў, у сааўтарстве з Іванам Лісненскім кнігі "На театральных перекрестках", але і кніг, што давялося падпісваць у друк у выдавецтве "Мастацкая літаратура": "З сёмага раду партэра", "Судьба чужая, как своя", "І толькі надпіс..." Ведаючы, што ў творчай скарбніцы аўтара гэтых кніг — яшчэ і аповесці "Первый снег", "У синей бухты", "Твоя повесть", "Вальс Грибоедова", "Радужный перезвон", пераклады, п'есы, сцэнарыі. Творы, тэматыка, танальнасць, настроенасць якіх — сведчанне прыхільнасцяў аўтара, неад'емная частка яго агульнай літаратурнай і культуровай скіраванасці. Паэзія і рамантыка жыцця, Максім Багдановіч — як увасабленне гэтай рамантыкі, трагічнае і высокае ўвасабленне...

...Для мяне, між іншым, былі досыць нечаканымі нататкі Барыса Іванавіча, дзе ён, як мала хто самакрытычна, распавядае пра сваё неафіцтва ў беларускай культуры, пра сваю "нетутэйшасць", пра няпростае фарміраванне сваёй мастацкай свядомасці ў арэале беларушчыны.

Той перыяд неафіцтва ў творчым жыцці Барыса Бур'яна для мяне незнаёмы. На момант нашага творчага супрацоўніцтва ён пісаў па-руску і па-беларуску, выдатна ведаў беларускую і рускую паэзію. І — безумоўна, тэатр. Беларускі і рускі тэатр на Беларусі.

Праблемы тэатра, творчыя ўзаемадачыненні рэжысёра і акцёра, жывая стыхія спектакля — пра гэта клопат Барыса Бур'яна. Калі ісціна ўспрымаецца "не розумам, а ўсёй існасцю. І ўзнікае жаданне і заўтра даведвацца пра новае ў свеце, у людзях, у самых сабе".

Барыс Бур'ян пісаў і пра лёс рускай антрэпрызы на Беларусі, пра трупу Уладзіміра Кумельскага, што сталася ядром будучага Рускага Акадэмічнага тэатра драмы ў Мінску, пра акцёраў, што склалі гонар рускай сцэны на Беларусі — Аляксандра Кістава, Дзмітрыя Арлова, Ганну Абуховіч... Пра Расціслава Янкоўскага, Юрыя Сідарава... І, безумоўна, пра Аляксандру Клімаву. Ёй прысвечаны шматлікія старонкі з напісанага Барысам Бур'янам. Старонкі, з якіх можна мець уяўленне пра талент актрысы, нават не бачыўшы яе на сцэне. Каралева рускай сцэны на Беларусі...

А якая Чароўная Дама беларускай акадэмічнай сцэны, перад якою лічыў за гонар схіліць калена рыцар беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч, Таццяна Аляксеева ў літаратурным партрэце Барыса Бур'яна! І што за постаць узнікае перад намі, калі актрыса піша "нявыяўленыя ў формулах ісціны страсцей чалавечых" — Стэфанія Станюта! І яшчэ, і яшчэ... Святлана Акружная, Галіна Маркіна, Аляксандр Ільінскі, Ірына Ждановіч, Барыс Платонаў, Уладзімір Іосіфавіч і Барыс Уладамірскія... Называю прозвішчы — імёны! — што ўзнікаюць у маёй памяці спантанна, выпадкова. І — спыняюся. Пералічыць нават некаторых персанажаў крытычнай мастацкай мазаікі Барыса Бур'яна немагчыма.

У мінулым сам акцёр — пачынаў перад вайной, па сутнасці, падлеткам, быў у трупе Рускага тэатра ў Мінску — Барыс Бур'ян з асаблівай увагай, прыхільнасцю, зацікаўленасцю гаворыць пра акцёраў: "...ад таго, які ён, Яго Вялікасць Акцёр, сёння на сцэне, залежыць наша разуменне задумы і пафасу відовішча, наша эмацыянальная сувязь з праблематыкай п'есы, наш роздум аб рэчаіснасці, наша асацыятыўнае параўнанне "сцэны" з жыццём".

Ці заўсёды ён аб'ектыўны, крытык Барыс Бур'ян? Мабыць, не. Суб'ектыўны момант заўсёды прысутнічае ў створаным ім. Часам, магчыма, нават снабізм. І ў гэтым — неад'емныя рысы своеасаблівасці творчага почырку Барыса Бур'яна. Які амаль дваццаць год загадваў аддзелам тэатра, музыкі і кіно ў рэдакцыі штотыднёвіка "ЛіМ", працаваў рэдактарам на тэлебачанні, на кінастудыі, у рэдакцыі часопіса "Советская Отчизна" ("Нёман").

Які ў семнаццаць год пайшоў добраахвотнікам на фронт. Быў паранены. Вярнуўся з фронту з тым адчуваннем удзячнасці лёсу, што было ў многіх франтавікоў. Як і выключная добразычлівасць, увага да людзей, што выявілі сябе творча. Як прага ведаў.

Кнігачэй, бібліяман. З тых, што, маючы сур'ёзны багаж ведаў, цвёрда памятаюць: у гэтай скарбніцы лішніцы не бывае. Новыя кнігі, новыя публікацыі ў часопісах — заўсёды пад яго ўвагай. Прачытаўшы свежыя нумары часопісаў, набыўшы новую кнігу, здабыўшы кніжны рарытэт — ён спяшаецца падзяліцца з іншымі. Рэальнай кнігай. Інфармацыяй. Кніжнай. Культуровай. "Вы яшчэ не чыталі?" "Вы яшчэ не бачылі?" І цяпер — калі абставіны прозы жыцця не так каб дазваляюць — купіць, падпісацца (згадаем нашы ганарары), ён — чытае. У бібліятэцы Барыс Бур'ян не госць, сталы наведвальнік.

Як і ў рэдакцыях часопісаў, газет. З кнігамі — складана. Не толькі яму. Аднак — ёсць што прадставіць: адпаведнае сур'ёзнай даце. Пагартаць і старонкі памяці. Вярнуцца ў тыя паваенныя гады, калі на ўвесь праспект (тады адзіны) у Мінску свяціліся вокнамі дзве будыніны, а ў адной з іх месціліся сябры Барыса Бур'яна — паэты. І чулася там "памяць дарог", час звяраўся з "сонечным гадзіннікам", а недзе непадалёк (ці яшчэ далекавата) складаў свае вершы той, з кім таксама былі свае стасункі, той, у каго быў "салаўіны вечар" і "перапёлчына ноч". І многа — кніг паэзіі, для стварэння якіх, паводле Барыса Бур'яна, была абавязкова "тыранія самавыяўлення".

Магчыма, старонкі жыцця будуць перагортвацца іншыя. Іншыя персанажы жыцця зоймуць увагу героя дня. Аднак — у любым выпадку — настрой будзе пазначаны прадстаўніцтвам паэзіі і мастацтва. Літаратуры. Тэатра.

**Ала СЯМЁНАВА**

## Вайной загартаваны

ГЕОРГІЮ ШЫЛОВІЧУ — 75

**Нарадзіўся Георгій Шыловіч 7 студзеня 1924 года ў Мінску. Да вайны скончыў першы курс будаўнічага тэхнікума. У час фашысцкай навалы быў удзельнікам мінскага падполля, партызанам брыгады імя Жалезняка на Бягомльшчыне, з 1944-га па 1945 год служыў у арміі. Пасля заканчэння аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта працаваў у рэдакцыях газет "Мінская праўда", "Зорька", з 1965 года — у часопісе "Беларусь". Быў адказным сакратаром, а з 1978-га па 1985-ы — намеснікам галоўнага рэдактара.**

**З першым апавяданнем выступіў у 1948 годзе. Выйшлі кнігі для дзяцей "Твая дарога", "Запіска на шыбе", "Сшытак у чорнай вокладцы", "Чарапаха без панцыра", "Святло далёкага Алькора" і іншыя. У 1986 годзе пабачыў свет аднатомнік выбраных твораў "Школа каля крэпасці". Г. Шыловіч з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў дакументальных фільмаў "Родныя бярозы не спяць", "Зялёны патруль", "Трэба марыць". Перакладае з рускай і ўкраінскай моў.**

**Віншуем Георгія Уладзіміравіча з 75-годдзем! Зычым яму доўгіх год жыцця, творчага плёну!**

## І яго не забудзем...

**Раней, калі гаворка заходзіла пра Аркадзя Гейнэ (нарадзіўся 10 студзеня 1919 года), звычайна прыгадвалі яго верш "Шчаслівая зорка". А цяпер сёйтой скрывіцца. Усё ж пад шчаслівай зоркай паэт меў на ўвазе тую, "што ў Крамлі..." Але не ў гэтых прыватнасцях справа — твор у цэлым шчыры, надзіва лірычны і пранікнёны:**

***— Помніш летняй ноччу цёмна-сіняю,***
***Шчаслівейшай нашаю парой —***
***Слухалі мы песню салаўіную***
***У зялёным садзе над ракой.***

***Месяц з-за высокіх ліп квітнеючых***
***Усміхаўся ласкавым святлом;***
***Зоркі, ясным бляскам палымнеючы,***
***Падалі далёка за сялом.***

**Тады шчаслівыя маладыя людзі і ўспомнілі, што "ў народзе ёсць павер'е гэткае, Быццам мае кожны чалавек Зорку ў небе, для яго прыметную, І яе жыццё — ягоны век..." І кожны выбраў сваю, а высветлілася — для абодвух закаханых яна стала адной і той жа.**

**Гэты верш А. Гейнэ, як і іншыя яго творы, у многім даніна часу. Часу, у якім ён жыў. Часу, у магчымасці якога верыў. І які, зразумела, услаўляў. Гэтаксама шчыра, як і першае каханне.**

**З вершамі, артыкуламі і рэцэнзіямі А. Гейнэ пачаў выступаць у 1934 годзе. Друкаваўся ў газетах "Піянер Беларусі", "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", часопісе "Полымя рэвалюцыі". У 1939 годзе выйшла першая кніга паэзіі, што таксама названа "Шчаслівая зорка". Першая і апошняя: камандзір узвода механізаванай брыгады А. Гейнэ загінуў 16 снежня 1942 года на Сталінградскім фронце.**

**Асобныя творы А. Гейнэ можна напаткаць у калектыўных зборніках "Мы іх не забудзем", "Крывёю сэрца", у "Анталогіі беларускай паэзіі".**

**А. М.**

## Памяці Івана Чыгрынава

**21 снежня народнаму пісьменніку Беларусі Івану Чыгрынаву споўнілася б 64 гады. Сімвалічна, што ў гэты дзень на Усходніх могілках сталіцы, дзе знайшоў свой вечны спачын слаўны сын нашага народа, адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка (скульптар І. Міско). Ушанаваць памяць выдатнага творцы прыйшлі сябры, калегі, сваякі Івана Гаўрылавіча і ўнук Іван, якога вельмі любіў І. Чыгрынаў. Выступілі старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, старшыня камісіі па творчай спадчыне І. Чыгрынава А. Пісьмянкоў, А. Вярцінскі, У. Гніламёдаў, Д. Бугаёў, У. Скарынкін, удава пісьменніка Людміла Прохараўна.**

# Падмурак дзяржаўнасці

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

айчыннай адукацыяй, захапіць у свае рукі кнігадрукаванне, манапалізаваць духоўнае жыццё краіны, накіроўваючы яго аднабакова, па рэчышчы каталіцызацыі і вестэрнізацыі. Яна імкнулася выгнаць з айчыннай культуры не толькі пратэстанства, але і праваслаўе, з якім непарыўна было звязана духоўнае жыццё беларускага народа. Пад націскам контрэфармацыі ліберальная, рэнесансна-гуманістычная мадэль айчыннага грамадска-царкоўнага жыцця, якая ўсталявалася ў краіне ў другой палове XVI ст. і падставай якой з'яўлялася свабода рэлігійнага выбару, верацярпімасць паступова трансфармавалася ў мадэль контррэфармацыйную, кансерватыўна-ахоўчую, у аснове якой ляжала ідэя выкаранення іншаверства і іншадумства, "схізмы", стварэння ў межах Рэчы Паспалітай аб'яднанага, грэка-каталіцкага веравызнання.

Галоўная загана Брэсцкай царкоўнай уніі ў тым, што яна стварыла прэдэцэнт прымусовага пераўтварэння шматвяковай, традыцыйнай духоўна-культурнай рэчаіснасці, непаўторнага, гістарычна асаблівага менталітэту народа. Па сутнасці, гэту ж стратэгію ўзяла на ўзбраенне расійскае самадзяржаўе пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, уключэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі, у выніку чаго пачалася татальная русіфікацыя беларускага грамадскага і духоўнага жыцця, насільнае насаджэнне ў культуру і свядомасць народа чужых каштоўнасцей і ідэалаў. Адной з адыёзных праяў гэтага была забарона ўжывання ў афіцыйным грамадска-палітычным і духоўна-культурным жыцці беларусаў роднай мовы.

Гістарычны вопыт Беларусі XVI—XX стст. сведчыць, што прымус, насілле здольны зрабіць многае, але не ўсё. У прыватнасці, яны могуць падарваць нацыянальную культуру, традыцыі, сацыяльна-палітычны і духоўны менталітэт народа, унесці ў яго свядомасць чужыя, не ўласцівыя яму, несапраўдныя, фальшывыя каштоўнасці і ідэалы. Прымус можа затармазіць ісціннае, сапраўднае развіццё народнага быцця на дзесяцігоддзі і нават на стагоддзі. Але ён не здольны канчаткова зняволіць дух народа, вытравіць з яго свядомасці сапраўдныя каштоўнасці і ідэалы. Заўсёды застаецца пэўная частка народа, здольная супрацьстаяць прымусу, насіллю, захаваць і данесці да наступнага пакалення ісцінныя каштоўнасці і ідэалы народнага жыцця. Прычым значную, а магчыма, і вырашальную ролю ў справе нацыянальнага Адраджэння адыгрывае гістарычная духоўна-культурная традыцыя, што і пацвердзіла гісторыя Беларусі на працягу XVI—XX стст. І калі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. пачалося новае Адраджэнне нацыянальнай культуры, звязанае з імёнамі В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, нашаніўцаў, навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў 20-х гг. XX ст., яно ў значнай ступені абапіралася на тыя каштоўнасці і ідэалы, якія былі выпрацаваны ў "восевы час" беларускай нацыянальнай культуры — эпоху першага беларускага Адраджэння. Мы, жывыя сведкі і ўдзельнікі Адраджэння беларускай культуры, якое пачалося з канца 80 гг. гэтага стагоддзя, добра ведаем і бачым, якую вялікую ролю ў гэтым працэсе адыграў зварот да каштоўнасцей і ідэалаў першых беларускіх адраджэнцаў — Скарыны, Гусоўскага, Буднага, Цяпінскага, Сапегі і многіх іншых. І якія б сілы ні перашкаджалі нацыянальнаму Адраджэнню, яно непазбежнае як узыход сонца.

**С. ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

# ЗАЦЕМКІ З ЛЕВАЙ КІШЭНІ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

●

Наўздагон папярэдняму вычытаў у Вільяма Батлера Йейтса:

***К твореньям сильных слабые спешат —***
***То свергнуть, что горе вознесено,***
***Взамен согласья учредить разлад,***
***Всё обезличить, всё свести в одно.***

●

Таксама без каментару пакіну геніяльныя чатыры радкі — і гэта ўвесь верш, бо што яшчэ? — Хуана Рамона Хіменеса:

***ЛЮБОВЬ***
***Не будь же слеп!***
***Не поцелуй руки,***
***Целуя хлеб!***

●

Той, хто трымае славу не за палюбоўніцу, а за хатнюю гаспадыню, мае шанц на шчаслівы творчы лёс...

●

Не раз ужо згадвалася, што, маўляў, гэты паэт таленавіты ад прыроды...

Ды — не, браткі, гэта прырода таленавітая гэтым паэтам...

●

Літаратура — як э**літар**нае са**слоў**е...

●

Усе, як на злом галавы, кінуліся шукаць новае **ў літаратуры**: хто — у форме, хто — у змесце, хто — у стылістыцы, хто ў чым...

У літаратуры — усё старое, усё новае — **у творцы**...

●

Паэт стварае ўласнае адлюстраванне, праломленае скрозь прызму слова.

●

Адны крыўдзяцца на тое, што пра іх **не пішу**, другія — на тое, **што** пра іх пішу...

●

Зімоўскага ў "Рэзанансе" неабавязкова слухаць — яго дастаткова бачыць... Умоўна асуджаны выраз твару... Наскрозь **відная** доля...

●

Вечарам у "Панараме" выступленне Лукашэнкі ў забруджанай чарнобыльскай зоне: маўляў, трэба наладжваць і тут для людзей нармальныя бытавыя ўмовы жыцця...

Трошкі пазней па НТБ — кадры з маскоўскага музея Дарвіна: двухгаловае, двуххвостае цялё з пятай нагою на спіне, што пражыло ўсяго двое сутак... **Экспанат** прывезены ў музей з той жа чарнобыльскай зоны... (!?!)

●

Народ, які напакутаваўся ад розных культаў, стварае свой — культ Бродскага ў літаратуры... Ад іх паўсюдна-бясконцых "успамінаў-помнікаў" гасне зрок і баліць галава... І не хочацца чытаць самога Бродскага, якога і сам я лічу адным з выбітнейшых і таленавіцейшых паэтаў XX стагоддзя...

Адукаваны, з боскай крапінкай народ, гэтыя яўрэі — а ўсё "наступаюць на адны і тыя ж граблі"...

У Расіі ёсць Пушкін! Сан Сяргеіч... Не даюць веры...

●

І яшчэ прыклад з рускай літаратуры — Даўлатаў... Што й казаць, вялікі майстар малога жанру! Але не трэба кананізаваць грэшнікаў...

●

Забягаў да мяне Дамашэвіч. Паабедалі. Пасядзелі. Страсна пагаманілі.

Нечым падобны ён да майго дзядзькі Мішы — спрацаваны, жылісты, паджары, з думнай душой...

Наогул, дрэнных людзей з Клеччыны нідзе не сустрэнеш... У нас такіх далей свайго двара не пускаюць...

●

Лета. Задуха. І аніякіх уражанняў ад жыцця...

●

Быў на мітынгу-шэсці ў гонар дня Незалежнасці. Тысячаў каля пяці ненадта вясёлых людзей, што ў каторы ўжо раз ішлі адным і тым жа шляхам, з аднымі і тымі ж лозунгамі, сцягамі, заклікамі...

Нудотная сама па сабе працэсія... Бясконцы беларускі шлях — адсюль і датуль, але не далей...

А хочацца ж чалавечага шчасця на ўсякай дарозе...

●

Асіметрыя і дысгармонія **перакасілі** чалавечыя твары людзей...

●

Шчаслівымі могуць быць толькі неразумныя і бяспомныя — яны не ведаюць пра сваё няшчасце...

●

За акном — начны лівень... Слухаю неба... Вада з вечнасці.

●

Расейскія палітрукі злятаюцца да Лукашэнкі, як мухі на ліпучку...

●

Нарэшце паеду да маці ў вёску... Айчына — там. Рабская, хворая, але — твая... Іншай проста няма.

●

Беларусь — як адзіны **непушчанскі** запаведнік Еўропы...

●

Беларускія літаратары прыйшлі на сустрэчу са сваім прэзідэнтам... Яны яму — пра літаратуру, а ён ім — пра калійныя угнаенні, яны яму — пра ганарары, а ён ім — пра пісьмо Форда, яны — пра мову, ён — пра ўраджай...

"Пакладзіце, — кажа, мне на стол хаця б дзесяць таленавітых кніжак беларускіх пісьменнікаў.... Тады я падумаю, як з вамі быць..."

Яны й кажуць: "Пакладзём, ёсць у нас такія кніжкі..."

І паклалі б, ды яшчэ й з гакам, бо літаратараў на сустрэчы было намнога больш колькасці запатрабаваных кніжак...

Шкада, размову змянілі і кніжак з сабой не ўзялі...

●

Бабка мая яшчэ дыхае, жыве з божай дапамогай, а помнік па сабе ўжо мае. Дзядзька Міша ў Клецку заказаў. Трэба ехаць забіраць...

У двары камбіната рытуальных паслуг ляжаць, прыкрытыя цэлафанам, шэсць ці сем помнікаў адзін да аднаго, як блізняты, падобныя... На ўсіх надпісы па-руску... І — во: ГАЛУБОВІЧ АЛІМПА МІКАЛАЕЎНА, нарадзілася ў 1907 г. ...

Па-беларуску! Не чакаў ад дзядзькі, дарэчы, упартага прыхільніка Лукашэнкі... А брат мой, камерсант і дэмакрат, зрабіў у Жодзіне помнік па бацьку "на русском языке"...

Што ж, будзе цяпер першы беларускі помнік на нашых старых вясковых могілках. Каб не быць галаслоўным, яшчэ раз абышоў могілкі — ад агароджы да агароджы... і знайшоў такі адзін у густым кустоўі шыпшыны. Таксама — Алімпе... Гэта мой сябар-аднагодак Павал па сваёй маці зрабіў, у Баранавічах, спецыяльна на нержавейцы аднавіў сваю беларускую памяць адразу пасля абвяшчэння незалежнасці...

Цяпер, значыць, на нашых могілках будзе як мінімум чытары беларускія помнікі — бабін, мамін, мой (а мо і дзядзькі Мішы) — тады пяць...

Права на жыццё даецца звыш... на ўсякае жыццё. Але па ўсякім жыцці — **свая памяць**...

●

Хадзіў у грыбы. Пад ялінай баравічок малады, а вакол яго — дзічкі... Яблыня ў лесе... Ды дзічка, яна паўсюль дзікая, адзінокая, не свая анікому — кісла-горкімі пладамі вакол сябе абклалася... Не лезь, не падыходзь, не замай!..

●

Бабка састарэлая бядуе, як мы, трое сыноў, будзем маму сваю — яе дачку сямідзесяцігадовую — даглядаць...

Расказвае мне показку: трое сыноў *радзіліся*, каму з іх за старой мамай глядзець; вырашылі — падкінем угору, хто зловіць, той і возьме яе да сябе; падкінулі — а ніхто й не злавіў...

Смяецца бабка, смяюся я, але смех наш нясмешны...

●

Можна прымаць душ тры разы на дзень, і ўсё адно заставацца брудным чалавекам...

●

У сіло жаночых абдымкаў трапляюць і юнак, і мужчына, і стары чалавек. Задавальненне прыносяць і жарсць, і вопыт, і мудрасць... Усё разам і паасобку.

На вялікі жаль, часцей — паасобку, бо любыя жаданні нашыя заўжды большыя за магчымасці...

●

Ідэі захопліваюць чалавека, і калі ён пранікаецца імі да астатку, то ад чалавека мала што застаецца...

●

На памяць не ведаю ні адной малітвы. Не навучылі — ні ў сям'і, ні ў свеце... Таму — малюся сваімі ўласнымі. Не паўтараюся. Авось, якую маю**адсябяціну** Ён і пачуе аднойчы. Надакучыла, пэўна, і Яму слухаць адно і тое ж...

*в. Вароніна — г. Менск,*
*1998 г.*

Мікола ГІЛЬ

# Як я здымаў Хрушчова

АПАВЯДАННЕ-БЫЛЬ

А БЫЛО ГЭТАК...

У пачатку верасня 1964 года выбраўся я ў камандзіроўку. Галоўны наш парэкамендаваў зазірнуць куды-небудзь далей, у так званую "глыбінку" — калі не на самыя заходнія ці ўсходнія "крэсы", дык, прынамсі, усё ж не ў якое-небудзь Койданава ці Заслаўе пад самым Мінскам. У выніку апынуўся я неўзабаве ў раённым гарадку за пару сотень кіламетраў ад сталіцы. Гарадок быў як гарадок, не горшы і не лепшы за іншыя раённыя гарадкі, на высокім беразе адной з трох нашых вялікіх рэк. Трапіў туды я ўпершыню і таму хадзіў яго вуліцамі ды вулачкамі не без цікавасці. Праўда, цікавасці гэтае хапіла ненадоўга, бо неўзабаве хадзіў ужо, прыгадваючы радкі паэта, якія чамусьці настырна лезлі ў галаву: "Город незнакомый мной исхожен. Не привлек. Как серое пятно. Хочется в каком-нибудь прохожем угадать знакомого..." Знаёмых не было. Дый наогул нічога асаблівага не было. Адно кінулася ў вочы: на кожным скрыжаванні цэнтральных вуліц на асфальце тратуараў было напісана досыць буйнымі белымі трафарэтнымі літарамі: "Не сорить!" Дзе ні бываў датуль, анідзе не бачыў гэтакае мясцовае ініцыятывы, і быў пасміхнуўся спачатку з гэтага. Аднак жа, агледзеўшыся, сагнаў з твару ўсмешку, бо — гарадок быў надзіва чысты, нейкі быццам нават прыбраны, як вясковая хата напярэдадні Сёмухі.

Ды, зрэшты, гэта амаль не мае дачынення да майго расповеду. Гарадок як гарадок, і школкі ў ім — дзве ці тры — таксама звычайныя, як ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі, цалкам зрусіфікаваныя школкі, у адной з якіх я апынуўся раніцаю на другі дзень па прыездзе і дзе ўсё й пачалося-завязалася.

Зноў жа, няма, бадай, патрэбы гаварыць, дзеля чаго я забрыў раніцаю, яшчэ да пачатку ўрокаў (каб заспець усіх выкладчыкаў-педагогаў у настаўніцкім пакоі) у тую школу. Скажу хіба адно: прадмет маёй зацікаўленасці меў дачыненне і да школы. Але, паўтараю, не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што я той раніцай апынуўся акурат там.

І вось сяджу я ў настаўніцкім пакоі, які паступова напаўняецца працаўнікамі народнае асветы. А быў, нагадаю, пачатак верасня, калі яшчэ не ўсё з таго, што адбывалася летам, было перагаворана-абгаворана, у гэтым пакоі і ў гэтакі вось, перадурочны, час. Настаўнікі — народ гаваркі, кампанейскі, на прысутнасць чужога чалавека — досыць маладога і зусім не самавітага выгляду — не зважаюць, паводзяць сябе раскавана, незалежна. Як дома. Смяюцца, нават рагочуць з самага дробязнага выпадку. Нехта нешта забыўся і вымушаны зараз бегчы дамоў — вось і смех: маўляў, за дурной галавой нагам непакой... Нехта не пачынаў яшчэ выбіраць бульбу, нават бульбоўнік не скасіў — зноў смех: не спі гэтак позна з маладой жонкай, дык скосіш!.. Нехта некаму па завядзёнцы паставіў за веснічкамі слоік малака, ды накрывачку надзеў няшчыльна — каты і паласаваліся тым малаком... І яшчэ нешта такое ж, чыста будзённае, жыцейскае, звязанае з суседзямі, дзецьмі, зяцямі ды нявесткамі, з нейкімі мясцовымі, тутэйшымі падзеямі-здарэннямі. Распавядаюць, прыгадваюць, смяюцца, падсмейваюцца, перагыркваюцца нават, і адначасова корпаюцца ў шафах, збіраюць-складаюць класныя журналы, кніжкі, сшыткі, указкі ды іншыя прычындалы, прычапурваюцца-прычэсваюцца-падмалёўваюцца, абцягваюць кофтачкі ды спаднічкі, бо ў масе сваёй запаўнялі настаўніцкі пакой настаўніцы — настаўнікаў было двое-трое.

І вось улятае — акурат улятае, шырока расчыніўшы дзверы — у пакой жанчына гадоў пад сорак, невысокая, увішная, хоць і паўнаватая. Скінула плашчык-пыльнік, павярнулася — сяброўкі-калежанкі ейныя ці не хорам выгукнулі:

— Ой, Васільеўна, ты проста шакаладная!

А мо й не Васільеўнай яна была названа, мо Пятроўнай ці Маркелаўнай — не памятаю зараз, хоць забі. Таму хай будзе Васільеўна.

Загарэлая была жанчына сапраўды да чарнаты. Сведчыла пра гэта, прынамсі, тое, што відаць з-пад сукенкі — рукі, ногі, трохкутнік грудзіны з нейкім ланцужком.

Акружылі яе сяброўкі-калежанкі, у шчокі цмокаюць, ахкаюць і войкаюць:

— Ой, Васільеўна, дзеля такога загару дальбог варта было спазняцца!

— Божа, калі гэта я пабываю на тым поўдні!

— Гэтак загарэць можна толькі з мужам! Як жа табе собіла, Васільеўна?

— Не брашыце, дзевачкі! І спазнілася я зусім не таму, што лішні дзень праляжала на пляжы. Разлічвала на самалёт, а давялося ехаць цягніком. Але затое, дзевачкі, што там было ў апошні дзень — я й сёння яшчэ не апамяталася! Каго я пабачыла — вы не паверыце!

— Каго, Васільеўна? Няўжо Гагарына?

— Вышэй бярыце!.. Самога Мікіту Сяргеевіча!

— Хрушчова?!

— Яго самога! Во гэтак бачыла, як вас зараз бачу! Як рукой дакрануцца! Усе маршчынкі і барадавачкі яго разгледзела!

— Ну, Васільеўна, і шанцуе табе! Раскажы ж хоць, як тое было? Дзе ты яго пабачыла ды яшчэ гэтак зблізку?

— Ды каб жа проста пабачыла! Вы спытайце — якога пабачыла! Ён жа голы быў! Ну, у адных трусах, ці ў плаўках там. У лодцы сядзеў...

— Васільеўна, ты што, з глузду з'ехала?! Хрушчоў — у плаўках?!

— У плаўках! Хрушчоў!.. Я ж кажу — не паверыце! Я й сама не паверыла б! Але ж — бачыла, бачыла!

Хтосьці з настаўнікаў не выцерпеў, падаў свой басок:

— Ну ціха, ціха, калежанкі! — і да Васільеўны: — Дык што там на самай справе было?

— Ой, дайце перадыхнуць, дух перавесці! — патрэсла Васільеўна галавою. — Я ж вам кажу, што й дагэтуль не магу ачомацца! Гэта ж трэба — каго пабачыць і паслухаць! Гэта — як дарунак неба, усмешка лёсу!.. Ну, сабраліся мы ўжо, усё спакавалі, звязалі. Парашылі: перад ад'ездам яшчэ разок на пляж сходзім. Прыйшлі, скупнуліся, улягліся на пясочку. Ляжым. І раптам чуем — нейкі гул, рух пайшоў па пляжы, па беразе. Усе ўскокваюць і да вады бягуць, у ваду кідаюцца... Мы таксама падхапіліся і туды ж, у ваду, і ўсё далей ад берага, ужо вада нам па пояс, трошкі й вышэй... А над вадою — ужо толькі адно слова-крык: "Хрушчоў! Хрушчоў! Хрушчоў!" Гляджу — ажно побач, за колькі метраў ад нас — лодка, а ў ёй — двое маладых хлопцаў у касцюмах, па канцах лодкі, а пасярэдзіне — голы, не надта каб загарэлы, поўны такі чалавек, капялюш у яго толькі на галаве, жоўты такі, саламяны. Божа! Глядзім — гэта ж Хрушчоў! Мікіта Сяргеевіч!.. Усе й анямелі. А можа, й наадварот, крычалі нешта ўсе, ажно пакуль ён руку не падняў і не пачаў гаварыць. Дык тады адразу стала ціха, ажно чуваць толькі, як вада плюхаецца... А лодка блізенька, яна падплыла да самага берага, на мелкае, і мы ўсе, сотні людзей, што былі на пляжы, акружылі яе. Я зусім блізка апынулася, як рукой дастаць. І ўсё чыста бачыла. І ўсё чыста чула. Не перадаць вам, які гэта чалавек! Просты, як праўда! Дальбог, пра яго гэтак можна сказаць, як і пра Леніна. Такі добры, спагадлівы, зычлівы, ласкавы! Гаварыў з намі, як бацька са сваімі дзецьмі. Папытаў, як мы тут адпачываем, параіў набірацца сіл і здароўя, каб з новымі сіламі вярнуцца на працу і прыносіць Радзіме яшчэ большую карысць, а Радзіма за гэта аддзячыць усім яшчэ большымі дабротамі і ўвагаю... Некалькі хвілін пабыў з намі, а мы ўвесь той дзень толькі пра гэта й гаварылі, успаміналі кожнае яго слова, кожны жэст, кожны жарт ягоны. Сапраўды, атрымалі зарадку, душэўную падпітку калі не на ўсё астатняе жыццё, дык надоўга-надоўга. Такі чалавек — і гэтак па-простаму з намі, як быццам раўня нам...

— Ну, Васільеўна, і шанцуе табе! Гэта ж не толькі дзецям — унукам, праўнукам раскажаш...

— А нягож! І ўнукам, і праўнукам — хай толькі будуць! Такое не кожнаму выпадае! Я, можа, адна з усёй Беларусі там аказалася ў той дзень і час! Вунь — я й па сёння памятаю, як да нас, студэнтаў, Кандрат Крапіва прыйшоў быў. А тут — сам Хрушчоў!

— От, параўнала! Крапіва — свой, тутэйшы, можна паехаць у Мінск і ў госці напрасіцца, а да Хрушчова — не напросішся!

— Дык я ж і кажу! Гэта — дарунак лёсу! Шчаслівы выпадак, які здараецца адзін раз за жыццё. Які й праз гады не сатрэцца з памяці, не забудзецца. Наадварот — кожная драбніца высвеціцца яшчэ больш выпукла і ярка!..

І тут я не стрываў. Крывая маіх адносінаў да Хрушчова даўно ўжо крутнулася рэзка ўніз — пасля высокага ўзлёту ўгару ў 1956 годзе. Я й дасюль памятаю тое надзвычайнае ўтрапенне, з якім мы, студэнты другога курса, выходзілі з актавай залы, у якой нам чыталі Хрушчоўскі даклад аб выкрыцці культу асобы Сталіна. Гэта было нашым другім нараджэннем на свет. У святым парыве да праўды і справядлівасці хлопцы моўчкі знялі са сцяны інтэрнацкага пакоя алейны партрэт таварыша Сталіна, парвалі яго на шматкі-палоскі і спалілі ў вядры, выканаўшы вакол таго смярдзючага вогнішча рыхтык рытуальны танец — танец развітання, пахавання свайго шматгадовага страху, замешанага на любові і пашане да звышчалавека, да сонца-правадыра ўсіх народаў свету, які, аказваецца, быў ці не самым крыважэрным за ўсю гісторыю чалавецтва тыранам і катам. І выкрыў яго — Хрушчоў! І пашана, любоў наша да яго былі вялікія. Мы палюбілі і зашанавалі яго гэтак, як толькі могуць любіць і шанаваць дзевятнаццаці-дваццацігадовыя хлопцы і дзяўчаты.

Але ж недарэмна кажуць, што ад вялікае любові да нянавісці — адзін крок. Ён расплюшчыў нам вочы на Сталіна, аднак жа — і на сябе самога таксама. І вельмі хутка мы ўбачылі, што наш дарагі Мікіта Сяргеевіч — параджэнне той жа антычалавечай сістэмы, толькі, можа, яшчэ больш нікчэмнае і агіднае.

Мы, дзеці славутай "адлігі", былі бескампрамісныя. Да Хрушчова (як пасля і да Брэжнева) у нас не засталося нават шкадобы, звычайнай чалавечай жаласці. Нічога, акрамя пагарды і смеху. І гэтак сталася вельмі хутка пасля памятнага 1956-га. Ну, а ў 1964-ым з Хрушчова смяяліся ўжо ўсе, пра яго хадзіла процьма анекдотаў. Само сабою, што ўсё гэта, так бы мовіць, на побытавым узроўні. З трыбун жа, са старонак газет і з экранаў тэлевізараў па-ранейшаму грымелі звыклыя дыфірамбы і асанны ў адрас "дарагога і любімага", але яны ўжо нікога не кранальі і праходзілі міма людскіх вачэй і вушэй.

А тут раптам пра кукурузніка і цалінніка — на поўным сур'ёзе! Ды з вуснаў настаўніцы! Ды не на партыйным сходзе ці на гаспадарча-партыйным активе, а — сярод сваіх калег-настаўнікаў, у адсутнасці высокага начальства, у чаканні званка на ўрок, калі час бавіцца ў нязмушанай гаворцы аб жыцці-быцці, у абмене жартамі і досціпамі!

Вось я і не стрываў тым вераснёвым ранкам 1964 года ў настаўніцкім пакоі адной са школ раённага гарадка, што стаіць на высокім беразе адной з трох нашых вялікіх рэк. Як пішуць у раманах, з усёй страсцю маладой душы (мне йшоў той парою дваццаць восьмы год) я даў волю свайму высакароднаму гневу і абурэнню.

— Выбачайце, калі ласка, — пачаў я, — але — як вы можаце гэтак? Вы ж, даруйце, не якая-небудзь там баба рязанская, а настаўніца! Сейбітка разумнага, добрага, вечнага! Выхавацелька юных душ! Чаму ж вы іх навучыце, што ўкладзяце ў гэтыя юныя душы? Хіба вы не разумееце, не адчуваеце ўсёй ганьбы, недарэчнасці, агіднасці таго, што на чале нашай вялікай краіны стаіць такі нікчэмны, недалёкі, пусты чалавек? У народзе яго ўжо даўно інакш не называюць, як лысым дурнем! А вы — захапляецеся? Трымціце ад радасці, што аказаліся паблізу ад яго, што вам пашанцавала пабачыць яго маршчыны і барадаўкі? Божа вялікі, Божа крэпкі! Вы ж, напэўна, памятаеце і цытуеце вучням прарочыя словы неўтаймоўнага Вісарыёна — пра тое, як ён зайздросціў унукам і праўнукам, якім будзе суджана бачыць Расію 1947 года, Расію, якая будзе стаяць на чале адукаванага свету і прымаць даніну любові і пашаны ад усяго цывілізаванага чалавецтва?.. І вы верыце, што на чале з такім чалавекам, як Хрушчоў, наша краіна сапраўды будзе прымаць даніну любові і пашаны ўсяго цывілізаванага чалавецтва? Наадварот жа! Наша краіна праз яго становіцца акурат аб'ектам здзеку, смеху і пагарды! А лічацца з ім, Хрушчовым, толькі таму, што за ягонымі плячыма — велізарная і разбуральная, знішчальная сіла тэрмаядзернай зброі... А вы — захапляецеся! Замест таго, каб зведваць сорам... Сумна ад усяго гэтага, дарагія таварышы, — скончыў я, гаворачы ўжо да ўсіх. — Сумна і горка...

У пакоі запанавала раптоўная цішыня. Прытым — мёртвая цішыня. Такая цішыня, што, як зноў жа пішуць у тых самых раманах, стала чуваць, як дзумкае ў шыбіну муха. Усе чыста ў настаўніцкім пакоі глядзелі на мяне, разявіўшы раты, і маўчалі. Нават, здаецца, не дыхалі.

І дзякаваць Богу, што якраз у гэтую хвіліну празвінеў званок і ажывіў гэтую нямую сцэну. Усе з раптоўнаю палёгкаю пахапалі падрыхтаваныя прычындалы і здранцвела-моўчкі адно за адным выплылі — не вышмыгнулі, а менавіта выплылі, як лунацікі ў стане сну — за дзверы: пайшлі на ўрокі. Настаўніца, з якой я дамовіўся быў пабыць на ейным уроку беларускай літаратуры, забылася на мяне, і я вымушаны быў даганяць яе ўжо на калідоры, каб нагадаць пра сябе...

Тым днём пабыў я і ў другой школе гарадка, а таксама на пошце і ў бібліятэцы. Недзе ўжо надвячоркам прывалокся ў гасцініцу — падсілкавацца і адпачыць, бо ногі проста гулі ад стомы. Але не паспеў і прылегчы, як прыбегла дзяжурная і паклікала мяне да тэлефона. Я здзівіўся: каму гэта тут спатрэбіўся? А пасля трошкі і ўстрывожыўся: каб хоць бяды якой не здарылася, што мяне нехта адшукаў ажно тут, дазваніўшыся да гасцініцы?.. Аказалася, званіла сакратарка з райкома партыі. Сказала, што мяне хоча бачыць першы сакратар. Мяне? Першы сакратар? Навошта, дзеля чаго? У недаўменні спытаў: "Калі можна зайсці?" Дзяўчына адказала: "А хоць і зараз. Васіль Фёдаравіч чакае".

Але-але, нічога, акрамя недаўмення, званок у мяне не выклікаў. Чаго раптам зацікавіўся маёй сціплай персонай першы сакратар тутэйшага райкома партыі? А галоўнае — адкуль ён даведаўся, што я, сякі-такі, прыехаў сюды і пасяліўся ў гасцініцы? Данеслі? Хто і з якое прычыны? Я ж, здаецца, ні з кім тут не пасварыўся і не скандаліў.

Пра тое, што званок мог быць выкліканы ранішнім інцыдэнтам у школе, неяк не падумалася. Пра тую прыкрую сутычку я, можна сказаць, забыўся, яна была заслонена, выціснута з памяці куды больш прыкрымі, проста абуральнымі фактамі, якія адкрыліся мне на пошце і ў бібліятэцы і якія мелі непасрэднае дачыненне да мэт маёй камандзіроўкі.

Пра настаўніцу, як магчымую аўтарку званка-даносу ў райком, я чамусьці не думаў. Не хацелася думаць. Мне яе неўзабаве ці не шкада ўжо было. Што з яе хацець? Можа, яна ўпершыню вырвалася на поўдзень, да мора, каб хоць трошачкі акрыяць, адагрэцца душою, забыць на нейкі час будзённыя клопаты і згрызоты, — ужо ад аднаго гэтага была яна на сёмым небе. А тут яшчэ такая нечуваная неспадзяванка — Хрушчоў, ды яшчэ ў лодцы, ды яшчэ, можна сказаць, голы — у плаўках ды ў капелюшы! Добры, усмешлівы, лагодны дзед Мазай! Вось жанчына і расчулілася... А я на яе — вядро вады халоднай. Хто тут болей вінаваты — яна ці я? Яна, вядома, няйначай пакрыўдзілася, але ж ці гэта падстава — званіць у райком, праяўляць пільнасць? Яна ж, здаецца, жанчына шчырая...

Васіль Фёдаравіч (а можа, Мікалай Фаміч?) сустрэў мяне прыязна, з ходу не прамінуў пахваліцца, што таксама па адукацыі журналіст, шмат гадоў быў газетчыкам, папрацаваў і ў раёнках, і ў абласной, распытаў, з якой я газеты, чаго завітаў да іх у раён, пажурыў, што адразу ж не зайшоў пазнаёміцца, запрасіў, калі ўзнікне патрэба, званіць ці заходзіць у любы час. На развітанне спытаў чамусьці, ці камсамолец я...

*(Працяг на стар. 14)*



**ЧАСАПІС**

## *Прыклад настаўніка*



**Рознабаковая творчасць Уладзіміра Савіцкага — педагога і кампазітара — неад'емная частка беларускай баяннай школы. Яго імя больш ведаюць дзякуючы педагагічнай працы ў вядучых навучальных установах Беларусі, але кампазітарскі талент — не менш значная і цікавая грань творчасці музыканта.**

**Разуменне і душэўная чуласць, з якой ставіцца гэты сціплы чалавек да ўсяго таго, што робіць, выклікае падзяку і пашану.**

**Савіцкі, музыкант з маленства, глыбока адчуваў усё тое, што спадарожнічала яму ў жыцці. А жыццё было не простае... У ім адбылося самае жудаснае — вайна. Яна ўвайшла ў лёс юнака з першымі налётамі бамбардзіроўшчыкаў на Мінск. Настаў час трывогі, скупых фраз, час слёз і страт. Горад заміраў, горад гарэў, людзі з напружанай увагай прыслухоўваліся да воў у небе. Дні зрабіліся доўгімі і цяжкімі і толькі музыка хоць на нейкі час адцягвала думкі пра вайну.**

**Але настаў чаканы час Перамогі. Спакутаваныя горам людзі вярталіся да жыцця. Спакваля да У. Савіцкага вярталася юнацтва, якое, здавалася, было страчана назаўсёды...**

**Пасля вайны ён паступае ў Мінскі музычны тэхнікум. Да гэтага часу не можа забыцца на атмасферу тых дзён — простую, сардэчную, поўную ўзаемнай цеплыні і даверлівасці. На ўсім шляху свайго прафесійнага станаўлення У. Савіцкі знаходзіўся пад уплывам таленавітых і чулых настаўнікаў. Гэта і І. Жыновіч, і Г. Жыхараў і Э. Азарэвіч, і П. Падкавыраў, Р. Пукст, А. Багатыроў.**

**Музычны тэхнікум, кансерваторыя, хор пад кіраўніцтвам Генадзя Цітовіча і аркестр на чале з І. Жыновічам, дзе Савіцкі працаваў нейкі час, развівалі яго творчую асобу паступова, без якіх бы то ні было стылістычных метамарфоз і цесна ядналі яго з багаццем традыцый музычнай культуры. Савіцкі імкнецца па-свойму асэнсаваць канцэртны побыт народнай мелодыі, трактуе яе як з'яву сапраўднага мастацтва, галоўнае ў якім — дотык да нацыянальнай спадчыны.**

**Разнастайнасць апрацовак У. Савіцкага як бы сцвярджае мноства шляхоў асэнсавання прафесійнікамі народнай музыкі. Ён ладзіць сувязь паміж традыцыяй і сучаснасцю. Дастаткова ўспомніць яго апрацоўкі песень "А ў полі ніўка", "Ой, не я то плачу", "Мяцеліца"... Шмат апрацовак народных мелодый можна нагадаць, і ўсе іх аб'ядноўвае ўласцівае гэтаму творцу адчуванне гарманічнага ладу мелодый. Просты змест раскрыты ярка, задачы кампазіцыі гарманічна суадносяцца з прастатой сапраўды народнага сэнсу. Гэта пацвярджаюць і публікацыі У. Савіцкага: "Сборник музыкальных произведений для сопровождения танцевальных номеров", зборнікі "Белорусские народные песни и танцы" (для одного и двух баянов, аккордеонов), "Белорусские народные мелодии" і інш.**

**Ён, чалавек надзвычай сціплы, далёкі ад прапаганды ўласнай творчасці, але кожны выканаўца ягонай музыкі ведае, што аўтар з удзячнасцю дапаможа ва ўдакладненні мастацкіх дэталяў уласных твораў.**

**Вось ужо шмат гадоў У. Савіцкі працуе ў Беларускім універсітэце культуры. Ён — дацэнт кафедры народна-інструментальнай творчасці, мае выпускнікоў, якія працуюць у розных кутках краіны. Сярод іх і выкладчыкі вышэйшых устаноў, вучылішчаў і школ, кіраўнікі мастацкіх калектываў. І гэта невыпадкова. Бо іх настаўнік сам прайшоў вялікую школу і як выкладчык, і як выканаўца. Працуючы пасля заканчэння кансерваторыі ў Гомельскім музычным вучылішчы, ён удзельнічаў у разнастайных шматлікіх канцэртах як саліст і як удзельнік трыо баяністаў. Працаваў у школах і Мінскім музычным вучылішчы, у кансерваторыі...**

**Здаўна славіцца Беларусь выканаўцамі на народных інструментах. І гэтая цудоўная традыцыя жыве, бо творчасць старэйшага пакалення дае прыклад адданасці мастацтву і захаплення ім.**

**Альбіна ЦАРОВА**

# Як я здымаў Хрушчова

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Адным словам, нічым сябе не выдаў, і для мяне так і засталося загадкай, чаго ён пацікавіўся маёй персонай. Пагадзіўся ўрэшце на тым, што існуе, напэўна, такая завядзёнка, каб кожны газетчык з Мінска наносіў "гаспадару" візіт ветлівасці, незалежна ад таго, якую газету ён прадстаўляе. Пра гэта гаварылі неаднойчы старэйшыя калегі. Я ж гэтага не зрабіў, вось ён і затурбаваўся, што гэта за "рэвізор-інкогніта" прыехаў у ягоныя ўладанні. А наконт таго, адкуль яму стала вядома аб маім прыездзе, дык змусіў я сабе самому ўсміхнуцца і сказаць: "Пара перастаць быць наіўным!.."

Затрымаўся я ў той камандзіроўцы больш чым на тыдзень, пабываўшы яшчэ ў двух суседніх раёнах. А калі вярнуўся ў Мінск і заявіўся ў рэдакцыю, дык галоўны наш, чалавек выключнага розуму і дабрэйшай, справядлівейшай душы, паклікаў мяне і нечакана з нейкай жарсткаватасцю сказаў:

— Зайдзі да загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК.

І зноў я быў агаломшаны. У ЦК? Чаго? Я ж нават не член партыі! Як я туды наогул прайду? Я там ні разу не быў...

Рэдактар чамусьці яшчэ больш заззлаваў:

— Што натварыў, чаму не кажаш? У камандзіроўцы, тут? Напіўся ці што горшае?

Я шчыра пацiснуў плячыма:

— Нічога не натварыў. І не напіўся.

— Без дай прычыны туды не клічуць.

— Раз клічуць, дык пайду, — адказаў я. — Як туды прайсці?

— Там на цябе будзе заказаны пропуск. Зойдзеш, назавеш сябе, скажаш, да каго — міліцыянер прапусціць і пакажа, куды ісці...

Што ж, калі клічуць, дык пайду. Не з'ядуць жа ўрэшце мяне там. Я ж, калі на тое, беспартыйны. Партыйных там караюць, а мне — што зробяць? Спытаў яшчэ:

— А калі?

Галоўны буркнуў:

— Не пытайся, а йдзі! Там не любяць чакаць!

Пайшоў. Ішоў, усё яшчэ не здагадваючыся, каму і дзеля чаго я ўсё ж спатрэбіўся. Перабраў-перапомніў, што са мною здаралася апошнім часам, дзе быў, што рабіў — здаецца, нічога такога, каб клікаць у ЦК. Зрэшты, падумалася, паклікаць могуць і не для "прамыўкі мазгоў". Калега аднойчы хваліўся, што запрашалі яго туды і абавязалі напісаць варыянт даклада для аднаго з сакратароў. Але ж яго — запрашалі, а мяне нібыта выклікаюць. Запросіны і выклік — розніца вялікая...

У будынку ЦК уразіла ветлівасць міліцыянера пры дзвярах. Быццам і не міліцыянер — адно што ў форме. Нават пад брылёк узяў, калі я зайшоў і павітаўся. Потым ласкава спытаў, да каго я іду і ці заказаны на мяне пропуск. Зазірнуўшы ў паперы на століку і адшукаўшы там маё прозвішча, ветліва павёў рукою ўбок: калі ласка, па лесвіцы налева, альбо ліфтам... І паверх назваў — здаецца, чацвёрты.

Падняўся я, вядома ж, па лесвіцы. Адшукаў на тым паверсе, у доўгім, з некалькімі каленамі, калідоры патрэбныя дзверы. У прыёмнай сакратарка — таксама сама ветлівасць: ласкавая ўсмешка, мяккі голас, гэткія ж мяккія, проста кашэчыя, рухі і жэсты. Грацыёзна паднялася з-за стала, асцярожна, быццам штосьці шкляное, адчыніла дзверы ў кабінет, зайшла туды, дзверы за сабою зачыніўшы шчыльна. Выйшла адтуль ці не праз хвіліну, запрасіла мяне:

— Заходзьце, калі ласка!

Загадчык аддзела сядзеў за сталом. Не памятаю, адказаў ён на маё прывітанне ці не. Здаецца, проста паказаў мне на крэсла, пачакаў, пакуль я сяду, некалькі разоў зіркнуў, быццам неўпрыкмет, на мяне, заглянуў у нейкія паперы на стале, а потым знячэўку спытаў:

— Дык і чым вам не падабаецца савецкая ўлада?

Гэта было настолькі нечакана, што я нават і здзівіцца не паспеў. Толькі сэрца здрадліва затахкала. Што на такое пытанне адкажаш? А нічога! Такое пытанне не для адказу. Яно — каб збянтэжыць, абяззброіць чалавека. Яно на дурняў разлічана. А калі гэтак, дык і я дурнем буду.

Загадчык, быццам зрабіўшы нейкія свае высновы з таго, як я ўспрыняў гэты першы наскок, зноў перапытаў:

— Дык і чым вам не падабаецца савецкая ўлада?

Я, урэшце, дэманстратыўна пракаўтнуў сліну і выціснуў з сябе нешта, накшталт:

— Не разумею, пра што вы...

Загадчык адкінуўся да спінкі крэсла, развёў рукамі:

— Ах, не разумееце? Спытаю іначай тады: што вы гаварылі тыдзень назад, будучы ў камандзіроўцы ў горадзе Л., у настаўніцкім пакоі адной з гарадскіх школ?

Ага, адразу палягчэла мне, не савецкая ўлада, а — Хрушчоў! Хутка ж данеслі! У райкам партыі прасігналілі, пэўна, адразу ж, не дачакаўшыся канца таго першага ўрока, на які я пайшоў з настаўніцкага пакоя. Ну, а з райкома партыі — сюды, у ЦК... Вось я й папаўся!

Але, дзіўна, страху чамусьці не было. Адно — нейкая няёмкасць. Быццам заспелі цябе за нечым непрыгожым. Прытым заспелі знянацку, так што — не адкруціцца і не апраўдацца, тлумачэнні тваё нікому непатрэбны, бо пытаюцца ў цябе пра штосьці толькі дзеля прыліку, абы пытацца, усё й без роспыту ясна. Значыць, табе застаецца адно моўчкі апусціць галаву долу, — што я паспяхова і зрабіў.

Размовы ў нас не атрымалася, хоць загадчык аддзела і стараўся з усіх сіл. І сараматіў мяне, і дакараў-ушчуваў, і выкрываў у няўдзячнасці, і дапытваўся, адкуль у мяне такія кашчунныя думкі, хто гэта на мяне так злачынна ўплывае. На яго настойлівыя роспыты я больш адмоўчваўся ці адбываўся аднаскладовымі слоўкамі. А што заставалася рабіць? Па-сапраўднаму тлумачыць штосьці або ўсур'ёз апраўдвацца? Хлусіць і выкручвацца? Ды гары яно ўсё гарам, каб я яшчэ й хлусіў, і апраўдваўся. Што будзе, тое будзе. Пагоняць з работы? Няхай! На завод пайду, калі нідзе больш не возьмуць...

Загадчык у рэшце рэшт сказаў:

— Ну што ж, не хочаце — не трэба. Час цяпер не той. Мы ніякіх оргвывадаў не робім. За погляды, за думкі зараз пераследу няма. Таму — хай будзе ўсё на вашым сумленні. Хоць усё ж цяжка зразумець, чаму вы гэтак адздзячваеце Радзіме за ўсё, што яна для вас зрабіла. Выгадавала, вывучыла, забяспечыла ўсім, дала пуцёўку ў жыццё... А што да працы, дык хай гэта рашае калектыў. Мы паведамім у рэдакцыю пра вашы паводзіны, і хай вашы калегі і таварышы рашаюць, як быць: ці пакінуць вас у рэдакцыі, ці зрабіць нейкія іншыя высновы. Можаце ісці.

Я развітаўся. Загадчык, здаецца, не адказаў на маё ціхае "да пабачэння", як і на гучнейшае "добры дзень"...

Праз нейкі час мяне "разбіралі" на рэдакцыйным сходзе. На той час ужо ўсе чыста, нават і тая самыя "простыя савецкія людзі", не ўспрымалі Хрушчова ўсур'ёз. Інцыдэнт у настаўніцкім пакоі — глупства, вядома, але ж трэба было вытрымліваць "правілы гульні".

І вось сабраліся ў кабінеце галоўнага ўсе нашы супрацоўнікі. На тварах — робленая сур'ёзнасць і зацікаўленасць. У кабінеце — нейкае няёмкае маўчанне. Урэшце, патушыўшы ў попельніцы цыгарэту, галоўны, не падымаючы галавы, сказаў:

— Увяду вас у курс справы...

— Ды ведаем ужо, — прагучала з кутка.

— А калі ведаеце, дык выказвайцеся...

У адказ — зноў цішыня. Усе сядзяць, пераглядваюцца і маўчаць.

Не стрываў, выняў з рота сваё заўсёднае "сусла"-піпку намеснік галоўнага і не то сур'ёзна сказаў, не то пажартаваў:

— Лепш бы ты, хлопец, які-небудзь пахабны анекдот расказаў. Пра армянскае радыё... Ці пра Вовачку...

Пасля гэтага ўва ўсіх — як гара з плячэй. Адусюль паляцелі вясёлыя рэплікі — дакорлівыя нібы, а больш, падалося мне, спачувальныя:

— І хто цябе за язык цягнуў!

— Знайшоў, дзе такое гаварыць!

— Хіба ж можна быць такім наіўным! Жыццё ж можна сабе сапсаваць!

— Зялепушнік ты яшчэ, братка!

— Яны ж, тыя настаўнікі, пэўна й самі гэтак думаюць, але ж мо якраз перад табой, пры табе, чужым чалавеку, ды яшчэ з газеты, тая кабета знарок пафаснічала!

На апошнюю рэпліку наш мудры галоўны трошачкі пахмурна заўважыў:

— Давайце не будзем, гаворка пра іншае. Якія будуць прапановы?

Зноў на хвіліну запанавала цішыня, пакуль хтосьці не папытаў:

— А туды што, трэба нейкі адказ даваць?

— Быццам ты не ведаеш! — буркнуў галоўны. — Дзіву даешся! Наіўны тут, аказваецца, не адзін!

— Дык запішам: абмеркавалі, асудзілі, папярэдзілі, аб'явілі вымову, а ён даў цвёрдае слова выправіцца...

Галоўны зноў угнуў галаву:

— На гэтым і скончым. — І дадаў, зірнуўшы з-пад ілба на сакратара: — Аформіш адпаведную паперу. Ну, ты ведаеш, як гэта робіцца...

На тым і разышліся. І ці не кожны мяне па плячы паляпаў — быццам і неўпрыкмет, але й не хаваючыся: маўляў, так табе й трэба, скажы дзякуй галоўнаму, што ён у нас разумны чалавек, а не дурань службовы, а надалей — матай на вус і абы-чаго абы-дзе не ляпай, дзейнічай па правілах, як пры выпіўцы: дзе, калі, з кім і колькі...

Мінуў тыдзень, а мо два. Прыходжу я неяк на працу. Іду па калідоры, а насустрач мне — наш рэдакцыйны ўсявед, гумарыст і дасціпнік, загадчык аддзела "вольных навук". Кідаецца да мяне, хапае за руку і давай яе трэсці ды прыгаворваць:

— Віншую, калега! Ты аказаўся ў нас празорцам! Ты першым пачаў барацьбу, бескампрамісную, я сказаў бы, барацьбу з самадурам і валюнтарыстам! Віншую ад душы!

Ад "доктара вольных навук" можна было чакаць усяго, таму я, загадзя трошкі па-блазенску ўсміхаючыся, чакаю, што ён далей скажа, з чым мяне гэтак шчыра і ўзнёсла віншуе.

— Ты што, не чуў яшчэ? — здзіўляецца ўсявед. — Знялі ж Хрушчова! Далі выспяткам пад азадак — і за дзверы! Як цюцьку! Яшчэ раз віншую! Ты першым пачаў з ім змагацца ў нашым калектыве!

— Дзякую, — кажу. — Прыемна чуць!

Цэлы дзень хадзіў я ў героях. Калегі і калежанкі знарок зазіралі ў кабінет да нас, каб асабіста засведчыць "павагу і ўдзячнасць змагару з аўтарытарным і валюнтарысцкім рэжымам". Пасміхваліся ж, вядома, але, калі шчыра, дык мне праз тое было трошачкі і прыемна, радасна. Зрэшты, можа, найперш ад усведамлення таго, што гэтыя дружныя жартоўныя віншаванні яшчэ раз пацвярджалі: наш рэдакцыйны калектыў — гэта калектыў аднадумцаў і патрыётаў.

...Было тое трыццаць чатыры гады (ужо нават з невялікім гакам) назад. Як кажуць у казках — даўно тое было. А вось жа не-не дый згадваецца. І апошнім часам — усё часцей і часцей. Згадваецца, пэўна ж, невыпадкова. На той час, як я казаў вышэй, ужо ніхто Хрушчова, як пасля і Брэжнева, дый наогул уладу ўсур'ёз не ўспрымаў, адно — сорамна, крыўдна было "за дзяржаву"... Дык вось: сёння мне (усім нам) зноў сорамна за тых, хто цяпер на чале ўжо нашай (сапраўды нашай!) незалежнай дзяржава-бацькаўшчыны. Зноў са мною (з намі) неадступны пякучы одум: чаму ж Бог, дараваўшы нам адзін з найпрыгожых куточкаў планеты Зямля, асудзіў нас, пакараў нас доляю мець гэткае благое, проста нікчэмнае начальства?..

***Шаноўныя лімаўцы!***

***Вітаю вас і прапаную нешта накшталт пародыі-жарту. Гэта рэч уявілася мне пасля прачытання "Рытуальнай злосці ідэальнага крытыка" (глядзіце "ЛіМ" за 23 кастрычніка 1998 г.). Не сумняваюся, што ўсе, хто трапіў у прыдуманую мной гутарку, разумеюць гумар і не пакрыўдзяцца.***

***Спадзяюся, на старонках паважанага штотыднёвіка знойдзецца месца для майго опуса. Ганарар ахвярую Таварыству беларускай мовы.***

*Кастрычнік—лістапад 1998 г.*
*(Вядзьмак НЕЛЫСАГОРСКІ.)*

# Па чыёй галаве сумуе лаўр?

**У час паміж руска-японскай і другой сусветнай войнамі на тэрыторыі былых царскай і савецкай імперый жылі і тварылі знакамітыя Уладзімір Маякоўскі і Сяргей Ясенін. Адзін праявіў сябе манументальна-запалітызаваным трыбунам з шырспажывецкай плакатнасцю ў "Окнах ТАСС"; прыпамінаецца, дарэчы, глазкоўскае:**

***Мне говорят, что "Окна ТАСС"***
***Моих стихов полезнее.***
***Полезен также унитаз,***
***Но это не поэзия.***

**Другі паэт ашаламляў паклонніц і паклоннікаў ягонага таленту лірыкай з хуліганска-эратычнымі выбрыкамі. Абодва творцы прэтэндавалі на лаўровы вянок, які ўпрыгожваў чарнява-кучаравую галаву Пушкіна. Але вянок так і застаўся ў апошняга.**

**На беларускай зямлі былі тры асноўныя прэтэндэнты на вянок нацыянальнага Парнаса — Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. Мо з-за гэтай раўназначнай траякасці лаўровае ўпрыгожванне — сімвал літаратарскай велічы, не рэалізавалася, не канкрэтызавалася на галаве пэўнай асобы і немаведама дзе валяецца, вяне, пакрываецца пылам.**

**Жывуць і цяпер на нашай зямлі экстравагантныя таленты, як той жа Сыс ці Глобус, некалі сябры-аднадумцы, тутэйшаўцы, якія з цягам часу спадобіліся на дзве льдзіны, што не месцяцца ў цесных берагах літаратурнай плыні. А тут яшчэ плютаюцца пад нагамі Галубовічы, Шніпы, Шрубы, дый дзевак-паэтак напладзілася! Словам, творцаў шмат, ды не канстатуецца, што ў віртуальным росквіце паэтычнага песнапеву можна было б падабраць памер галавы пад свабодны пакуль вянок.**

**"Па чыёй галаве сумуе лаўр?" — над такім вобразным і неардынарным пытаннем, паток думак вакол якога хвалюецца не першае дзесяцігоддзе, ламалі галовы некалькі гадзін у гутарцы за кубачкам гарбаты ў Шніпаў-Рублеўскіх Леанід Галубовіч, Іван Чарота, Пятро Васючэнка, Ірына Шаўлякова, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская — добра ўжо знаёмыя чытачам — і невядомы паэт-інкогніта, які прыбіўся за стол без усялякага запрашэння і сумлення. "Я — Вядзьмак НЕЛЫСАГОРСКІ! — сціпла і ў той жа час нахрапіста-прэтэнцыёзна адказваў ён на запытанне Леаніда Галубовіча "Навошта Вы тут і хто ты ўвогуле?" і пасля ціха-мёртвай паўзы дадаў: "А калі па вялікім рахунку, то чай, Лявон, не ты адзін хочаш напіць на халяву". — "Інтэлект у наяўнасці!" — адзначыў Пятро Васючэнка, а Віктар Шніп акрэсліў: "Няхай сабе сядзіць, і з ім і без яго кіпеню хопіць, а цукру і заваркі ўсё роўна мала".**

**Людміла Рублеўская.** Я павінна канстатаваць, што ў нас, хаця літаратура і застаецца без рытуальнай злосці ідэальных крытыкаў, яна існуе, засвойвае засвоеныя формы, выдаючы іх за супернавацыі, яе часценька запіхваюць пад "постмадэрнісцкі дах", а дах з такой дзіркай, што лепш было б пад яго і не запіхваць.

Аднак пачнём размову, для чаго, каб не накручваць віткі белай ніткі ў філасофскі клубок, альбо, магчыма правільней, не намотваць, працытуем вядомага нашага Алеся Асташонка: "Пісьменнікі запамінаюцца радкамі".

**Віктар Шніп.** Дарэчы, і мой радок яму спадабаўся: "Ядуць рабацягі зжаўцелае сала".

**Вядзьмак Нелысагорскі.** З боскага дазволу і я ўблытаюся ў вашу актуальнейшую гутарку. Навошта вам гэты Асташонак? Ён жа сам прызнаўся там, адкуль вашы цытаты, што з беларускіх аўтараў яму запомніліся толькі тры радкі. Акрамя прыведзенага Віктаравага радка, ён успомніў радок Скарынкіна "Нешта я апошнім часам, бы вядро пустое, грукачу" і ўсё! А трэці абяцаны радок чамусьці не ўключыў у тэкст. Мабыць, атрафія звілін. Мяркую, Асташонак часта бывае галодны і раніцой у яго смага — адсюль рэагаванне на сала і парожняе вядро.

**Леанід Галубовіч.** Шаноўны, давай без вульгарызатарства, а то смярдзюча запахла бэндаўшчынай! Гэты галодны Асташонак аднойчы піў содавую з віскі, і ў літаратуры ён не аднаго сабаку з'еў. І ў гатэлі "Масква" ён аднойчы ўсю ноч слухаў, з морам вінаў, як Мінкін чытаў вершы і грузін спяваў: "Белогрузия!" Які голад?! Якая смага?! Ды гэты Асташонак, будзе табе вядома, — афарыст, чалавек, які мысліць праз радок афарызмамі. Ён пра мяне, які ў той час, мякка кажучы, ужываў і з-за гэтага страціў ХВІЛІНУ часу ў праграме "Час", давёўшы здымачную групу да шоку, во як грандыёзна сказаў: "Пайшоў адразу далечвацца, каб зноў захварэць".

**Пятро Васючэнка.** Памятаю, памятаю гэтыя нататкі. Хоць я летам не надта чытаю — лета ўсё-такі! — але тады, 22 жніўня 1997 года чамусьці пазнаёміўся з асташонкаўскім "дзённікам літаратара". Можа, таму, што надта ж позірк у Асташонка са здымка патрабавальны, быццам бы пранізвалі наскрозь вочы: "А ты мяне прачытаў?!" Помніцца, ён цябе, Лявон, там двойчы дурнем абазваў.

**Л. Галубовіч.** Хрэнова, прабач мяне як былога электрыка, ты чытаеш. Не ўлаўліваеш адценні мовы, а яшчэ ездзіш на нейкія семінары тысяча ста філолагаў з сарака дзвюх краін. Там жа "дурань" у двукоссі, а дзе дурань без двукосся — гэта ўжо не асташонкаўская думка, а думка астанкінскага плебаса, а на плебас мне, як гуманітарнага накірунку чалавеку, смачна напляваць было і тады і цяпер.

**Ірына Шаўлякова.** Хлопцы, супакойцеся! А то вы хутка пачняце не толькі адхіляцца ад тэмы гутаркі, а будзеце грукаць па галовах, як "бум-бам-літаўцы" па тазіку. Мной на радзе Саюза пісьменнікаў у вялікім, энцыклапедычным дакладзе было шмат сказана пра паэзію, але гэта не значыць, што за гарбатаю толькі застаецца зацвердзіць кандыдатуру пад вянок, а ўвесь астатні час можна пасёрбваць з кубачкаў каву і гаварыць абы гаварыць.

**Л. Рублеўская.** Спадарыня Ірына памылілася, пасёрбваць гарбату — кава цяпер надта ж дарагая... І не з кубачкаў, а з кубачка. Аднак, напамінаю, сёння мы вядзём размову па тэме "Па кім плача..." Прабачце, "Па чыёй галаве сумуе лаўр?", а не па тэме "Дурань ці не дурань Шніп?"

**В. Шніп.** А я тут пры чым?

**Л. Рублеўская.** Дык гэта ж абстракцыя...

**В. Шніп.** Але ход тваіх думак і інтанацыя — як палітыка НАТА на Балканах. Прэзідэнта на цябе няма!

**Іван Чарота.** Віктар, не трэба рытуальнай злосці. А наконт дурань ці не, дык я недзе вычытаў: "Калі разумнага абзавеш дурнем — ён задумваецца... Калі ж дурнем назавеш дурнога — той адразу рэагуе..."

**Л. Галубовіч.** Дык гэта ж з маіх зацемак. Ну, з гэтых самых, вось з гэтай левай кішэні. Што ў ёй, дарэчы, сёння? Цьфу ты... насоўка! І не папрасаваная! Відаць, жонка зноў пачала займацца паэзіяй — не бабская гэта справа, не бабская!

**В. Нелысагорскі.** А Ахматава, а Цвятаева, а Янішчыц... А Тулупава. Дарэчы, ці даспадобы табе яе творчасць?

**Л. Галубовіч.** Недаспадобы яе прозвішча. Было б Кажухова, быў бы іншы цымус.

**І. Шаўлякова.** Прабачце, Леанід, але і ад вашага прозвішча папахвае расейшчынай.

**Л. Галубовіч.** Якой яшчэ расейшчынай?

**І. Шаўлякова.** Ну... голубизной.

**Л. Галубовіч.** Гм-м-м... ніколі б не падумаў. Галубіць, прыгалубіць, галубіная любоў... Трэба памазгаваць.

**В. Нелысагорскі.** А што тут мазгаваць? Тут вялікі паранімічны спектр ад аднаполай "голубизны" да галубцоў, як у рускай, так і ў роднай мовах. Прозвішча няўдалае, бяры які-небудзь псеўданім.

**Л. Галубовіч.** Мне няма ад каго хавацца. Ты растлумачыў бы лепш, што гэта яшчэ за з'яўленне народу беларускаму Ведзьмака Нелысагорскага? Хочаш прымазацца да сапраўднага Ведзьмака Лысагорскага? Ці не тонкая кішка? Ты што-небдзь дзе-небудзь надрукаваў?

**В. Нелысагорскі.** Несумненна. І без псеўданіма, і пад ім. Як Нелысагорскі публікаваў мініяцюры пра Беларускае тэлебачанне.

**Л. Галубовіч.** Пішы, пішы, захацеў пасядзець, як Славамір Адамовіч? Усё роўна ні яго, ні Анатоля Сыса табе не пераплюнуць. Калі я пра цябе, як пра Купрэева, не скажу важкае слова, дык назавіся хоць аўтарам "Тараса на Парнасе", а ўся твая творчасць будзе, кажучы словамі Пятра Васючэнкі, інтэлігенцкімі бздурамі, так бы мовіць, з кулі анічога не выліецца, застанецца г...о г...ом!

**І. Шаўлякова.** Хлопцы, тут жанчыны...

**Л. Рублеўская.** І ад тэмы адхіляемся. Мы ўсё-такі тут, каб канстатаваць, ці ёсць у нас паэт, якому можна смела начапіць лаўровы вянок.

**Л. Галубовіч.** Начапіць можна! Але я вось не ведаю, ці паэт я, ці не... І ўвогуле каб кожны дзень мяне запрашалі на гарбату і каб было да яе хоць бы зжаўцелае сала, я кінуў бы пісаць і вершы, і зацемкі. Аднак жыццё хутка прымусіць нешта і з правай кішэні выцягваць.

**І. Чарота.** Лявон так разважае, як быццам вянок чапляюць менавіта яму. А можа, пашукаць прэтэндэнтак? Вянок больш пасаваў бы да жаночай галавы.

**Л. Галубовіч.** Ды якіх яшчэ прэтэндэнтак? Аколаву ці што з яе эратычным клічам "Піце піва, мужыкі!"?

**П. Васючэнка.** Толькі без злосці. А то ў нас алкагольнае ператвараецца ў эратычнае. Хоць і не надта інтэнсіўна чытаю вясной, але ў красавіку бягучага года прачытаў у "ЛіМе" геніяльныя радкі сапраўднага эратызму ў Раісы Баравіковай:

***А-у... А-у! Палац гатычны.***
***Лёг зайчык сонечны да ног.***
***Агеньчык бліснуў эратычны***
***у вашым позірку, дальбог!***

Усяго чатыры радкі, а якая сімфанічнасць, якая эпапейнасць!

**Л. Галубовіч.** Як ты сказаў, апупейнасць?

**В. Шніп.** Не трэба, Лёня, іранізаваць. Добрае чатырохрадкоўе. Ні Юрчанка, ні Зэкаў, ні Малец, ні Скобла не сталі б на яго пісаць пародыі, хаця, несумненна, хацелася б большай рэальнасці, як вось у такіх радках:

***Ты стаіш хіповая, як сэкс-рэклама,***
***Хочацца і страшна, хочацца гульнуць,***
***Хочацца нясцерпна, як пасля ста грамаў***
***Хочацца і пляшку цэлую кульнуць.***

**Л. Рублеўская.** Не хапала за нашай гарбатай яшчэ й сексу з п'янствам! А чаму ты прачытаў не "ты ж стаіш", а "ты стаіш"?

**В. Шніп.** Мой тэкст, што хачу, тое з ім і раблю. З ж ці без ж, галоўнае — стаіць! Хочаш, цябе працытую?

**Л. Рублеўская.** Не трэба мяне цытаваць!

**І. Чарота.** Сціпласць упрыгожвае спадарыню Людмілу, але ж з кантэксту айчыннай і, можа, сусветнай паэзіі не выкінеш яе радкі:

***Да дому майго не засыпле сцяжыну,***
***У кубку навек не астыне гарбата.***

**Л. Рублеўская.** Закід ваш зразумела! Віця, ты што не бачыш — у гасцей няма гарбаты!

**В. Шніп.** Можа, ужо пара закругляцца?

**Л. Рублеўская.** Не прывыкай гаварыць "ужо пара", гавары "пара ўжо", бо некалі прыцягнеш гэта спалучэнне ў вершы і атрымаецца фанетычны смурод. А размову яшчэ трэба працягваць, бо вынікаў пакуль аніякіх. Так што кіпяці ваду.

**І. Чарота.** А што гэта мы ва ўсіх нашых гутарках вакол адных і тых асоб завіхаемся? Болей трэба гаварыць пра Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Максіма Лужаніна, Рыгора Барадуліна...

**Л. Галубовіч.** Ды пра іх ужо столькі сказана...

**І. Чарота.** Ну тады пра Скоблу ці Зэкава. Ці пра гэтага, як яго, Януся Хлопца.

**Л. Галубовіч.** Не Хлопца, а Мальца. Толькі што пра яго казаць? Пародыі сабе пэцкае ды аўтарства, аднойчы ў "Звяздзе", "Сказа пра Лысую гару" Нілу Гілевічу прыпісваў. А пра сапраўднага аўтара я амаль адзін і ведаю. Пакрычаў бы гэты Малец, як Сыс на пісьменніцкіх сходках, то, можа, заўважылі б і яго.

**П. Васючэнка.** Навошта вам нейкі Малец? Пісарык! Во, Лявон, і прозвішча — геніяльнае! З такім прозвішчам выступаць можна ў любой аўдыторыі і не меней чым за 10 даляраў!

**Л. Галубовіч.** Не прозвішча. Прозвішча — Пісарчык. Хаця і тое і другое ад дзеяслова "пісáць". Добра, калі з націскам на апошнім складзе, а калі на першым?

**І. Шаўлякова.** Чаго вы ўчапіліся ў прозвішчы? Мне не падабаецца прозвішча Жук, але ж Кастусь Жук прывабны мужчына, да таго ж Жукі нядрэнна капашацца ў паэзіі і ў прозе. А Шруб? Ды тут нешта нямецка-тэўтонскае! Магчыма, некаму і Мятліцкі не даспадобы, калі думаць пра мятлу. Галоўнае, як сфакусіраваць увагу на словах. Я раней гной абыходзіла за вярсту і моршчылася потым сутак шэсць, а прачытала ў Леаніда Галубовіча "Паэзія як бы выветрылася з жыцця так, як выветрываецца свежы пах гною ў гародзе..." і цяпер ад гэтага паху-смуроду балдзею; паэзіі вясной ці восенню не падавай, а гною нюхнуць дай!

**Л. Рублеўская.** Ну вось, прыехалі! Вылілі кулю...

**В. Нелысагорскі.** Мне здаецца, дарэмна мы тут звілінамі ад скроні да скроні пустэчу ўзвіхурваем. Калі і пасуе лаўр да чыёй галавы, дык гэта да галавы чалавека, які напісаў "Сказ" пра век, пра час, пра эпоху. А ўсё астатняе — балбатня сарочая.

**Л. Рублеўская.** Збянтэжыў нас шаноўны госць песімістычнасцю... І сапраўды, загаварыліся мы. Якую б назву прыдумаць для наступнай гутаркі?

**В. Нелысагорскі.** Ёсць такая назва: "Дзе ты быў, паэце, у віртуальны момант падаражання цукру?"

**В. Шніп.** Падаражання і знікнення. І не толькі цукру. Хутка і сала не стане.

**В. Нелысагорскі.** А можа, паспрачацца ў наступнай гутарцы наконт аўтарства "Сказа"? Я, напрыклад, згодзен з Мальцам, што напісаў паэму Ніл Гілевіч. Так, Лявон?

**Л. Галубовіч.** Якое там так! Холадна, хаця і цеплавата...

**І. Шаўлякова.** Нядаўна Рыгора Барадуліна паказвалі па тэлевізары. Дык вядучы тэлеперадачы назваў Рыгора Іванавіча аўтарам "Сказа", і той, ведаеце, так павёў сябе, што як быццам бы і не адмовіўся ад аўтарства.

**В. Нелысагорскі.** А хто адмовіўся б ад такой класікі? Не пахне там Барадуліным! Ніл і ўсё!

**Л. Галубовіч.** Нічога не ведаючы пра Лысагорскага, памаўчаў бы ты, Нелысагорскі! Дарэчы, навошта выбраў такі псеўданім?

**В. Нелысагорскі.** Во, прычапіўся! Выбраў таму, што маю нядрэнны запас сатырычнай патэнцыі.

**В. Шніп.** Глядзі, каб не кастрыравалі! Дык, можа, рэч пра Луку ў "Свабодзе" твая?

**В. Нелысагорскі.** Аднойчы Ніл Гілевіч у "ЛіМе" з болем даказваў, што ў гэтай рэчы Лысагорскім і не пахне. Дадам: "Нелысагорскім таксама!" Во, ідэя: давайце назавём наступную гутарку за гарбатай так: "Чаму на радзіме Ведзьмака Лысагорскага гумар і сатыра апынуліся на задворках?" Гэта ж трэба, "ЛіМ", газета Саюза пісьменнікаў Беларусі, развучылася смяяцца, страціла традыцыйную некалі старонку смеху, пра якую маладзейшае пакаленне, можа, і не ведае. А была ж! Няхай бы хто ў паважаным выданні ўстрапянуўся ды стварыў вясёлы цэх. Столькі ж смешнага бывае ў пісьменніцкім жыцці. Некалі амаль усе творцы, нават самыя сур'ёзныя, выдавалі ў "Бібліятэцы "Вожыка" кніжачку, а то дзве і тры. Дык што, не знойдзецца ў іх загашніках нічога сёння для лімаўскай старонкі? Я б назваў гэту старонку: "КВЛ" (Кавярня Ведзьмака Лысагорскага).

**Л. Галубовіч.** Лепш КВН — Кавярня Ведзьмака Нелысагорскага.

**В. Нелысагорскі.** Пакуль не заслужыў, хіба толькі авансам. Працягваю думку. Няўжо жыццё так прыціснула бедных пісак, што яны толькі слёзы ліюць ды чытача над іх гаротнай доляй прымушаюць галасіць? А чытачы на гэтыя слёзы ў іх "сцішках" накакалі і шукаюць гумар і сатыру ў "Ха-ха" і "Пікніку". Смех, якога баяцца, згодна Гогалю, самыя адпетыя небаязліўцы-прахадзімцы, знікае, робіцца нейкім бязлікім. Аднатыпныя анекдоты самага нізкага гатунку запаланілі прэсу. Быў у "Чырвонцы" "Гарчычнік" са шматлікімі рубрыкамі, няхай сабе і не надта смелымі ў плане грамадскім, дык і той са зменай рэдактара стаў страчваць "твар" і перыядычнасць. Хутка можна будзе альбо пахавальны марш па ім заказваць, альбо ўдакладненні рабіць: "Гарчычнік-дыстрофік" ці "Гарчычнік-імпатэнт". Дыхае на перадсмяротную свечку і некалі знакаміты "Вожык". Няма ў ім маладога запалу, энергіі, перадпенсіённы там дух, тупеюць "калючкі".

**В. Шніп.** Ну ўсё! Гарбаты напіўся, хачу есці! А наконт смешнай старонкі ў "ЛіМе" трэба паразмаўляць з Някляевым.

**Л. Рублеўская.** Паразмаўляй, тым больш што і сам іншы раз смешна напісваеш.

**В. Шніп.** Не напісваю, а пішу! Карацей, усім да пабачэння! І калі зноў прыпляцецца без запрашэння які-небудзь Вядзьмак-Качарга ці Вядзьмак-Чапяла і будзе многа і доўга гаварыць, няхай нясе з сабой цукар і заварку. Думаю, усе чулі? Да новых салодкіх сустрэч!

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

### *Адольф Варановіч*

*Як, з чым сустрэць мне Новы год?*
*Навошта мучыцца без толку:*
*Я намалюю нацюрморт,*
*І пад "закуску" вып'ю стопку!*

### *Генрых Даліровіч*

*Ён новае наўрад ці скажа штось,*
*А вып'е — за любоў і "Маладосць"!*
*Відаць, яму так любіцца і п'ецца,*
*Што ён дагэтуль*
*маладым завецца.*

### *Уладзімір Някляеў*

*Шырэй, браткі, раскрыйце рот,*
*Нагода ёсць каб прычасціцца:*
*Ударыць, чуў, пад Новы год*
*Фантан шампанскага*
*з "Крыніцы"!*

### *Сяргей Законнікаў*

*Ён возьме келіх з "вогненнай вадой"*
*І скажа тост найпалымяны самы:*
*"За "Полымя",*
*за дружбу паміж намі —*
*Рэдакцыяй і ўсімі чытачамі!"*

### *Уладзімір Ягоўдзік*

*Відаць, ён з партыі "зялёных",*
*Таму, напэўна, і заўжды*
*Шануе ліпы, вербы, клёны,*
*Шкадуе ельнік маалды.*

*Калі ж пад Новы год чарговы*
*У лесе трэск ідзе ваўсю,*
*Ён упрыгожвае нанова*
*"Бярозку" мілую сваю!*

### *Леанід Галубовіч*

*Пад Новы год пачуў я дзесьці,*
*Што Галубовіч — Дзед Мароз:*
*З кішэні семкі дорыць дзецям,*
*Дарослым — "зацемкай" пад нос!*

### *Алесь Карлюкевіч*

*Ці дасць яму што Новы год,*
*Алесю покуль невядома.*
*Стары ж прынёс, наадварот,*
*Зашмат шчаслівую маладому:*
*Прыняты ён у СБП,*
*З "Чырвонкай" файны*
*шлюб адбыўся...*
*Таму ў хамут Алесь і б'е:*
*"Я ў гэтым годзе не нажыўся!"*

### *Валянцін Лукша*

*Пад Новы год яму так добра спіцца:*
*Напэўна,*
*цёплае "Юнацтва" сніцца...*

### *Валянцін Майсяюк*

старшыня Аршанскага гарвыканкама

*Натхнёна дойлід працаваў,*
*Уверх па службе рос актыўна*
*І старшынёй гарвыканкама стаў,*
*Бо ён жа мысліць...*
*ПРАСПЕКТыўна!*

Сцяпан СІНІЦА

# 11 пытанняў для кемлівых

1. Калі на сучаснага фермера працуюць жонка, трое дзяцей, двое ўнукаў, дзядзька і пляменнік, то да якога класа ён бліжэй — капіталістаў ці рабаўладальнікаў?

2. Ці можна разжальбіць кантралёра, едучы без білета на пахаванне роднай цёткі?

3. Калі бомж з кучы гуманітарнай дапамогі выпараў жаночыя панталоны і ўважліва іх разглядвае, то ці збіраецца ён жаніцца?

4. Колькі мяшкоў бульбы лезе ў "Форд"?

а/ 1 — калі трэба сеяць соткі;
б/ 3 — калі ад бацькоў вязеш у горад.

5. Калі за лозунг "Жыве Беларусь" чалавека могуць засудзіць, то чаго на самай справе жадаюць улады?

6. Калі з міліцэйскага "варанка" на хаду выкідваюць пусты партманет, то ці трэба здаваць яго ў Бюро знаходак?

7. Калі бабуля ўчора палола буракі, а сёння памерла, то хто ў гэтым вінаваты?

а/ брыгадзір;
б/ магнітная бура;
в/ госпад Бог.

8. Высокі чыноўнік бярэ хабар шампанскім. Кім яго лічыць?

а/ проста сумленным чалавекам;
б/ святым.

9. Калі бацюшка прагнаў чалавека са споведзі, то хто гэты чалавек?

а/ кілер;
б/ былы начальнік турмы;
в/ прыхільнік экуменізму.

10. Калі мужчына чакае, што знаёмая жанчына з ім першай павітаецца, то хто перад намі?

а/ блакітны;
б/ дзяржаўны дзеяч;
в/ тэатральны рэжысёр.

11. Калі кабеты 5 гадзін стаяць у чарзе за яйкамі, то што гэта значыць?

а/ што яйкі залатыя;
б/ што курыца ў Беларусі адна, але вялікая.

Аляксандр ПОПЕЛЬ

# Лепш недабраць

*— Ах, маць-недамаць, —*
*Недзе палку пачаў*
*Ён шукаць, —*
*Ах ты маць-недамаць,*
*Я ж табе!..*
Рыгор ЯЎСЕЕЎ

*Даўно ў паэзіі працую,*
*Амаль што да вяршынь дайшоў.*
*Недапісьменнікаў лупцую,*
*Як пачаткоўцаў —*
*майстар слоў.*
*Не аднаму недапаэту*
*Не даў я ходу на Парнас,*
*Бо сам, скажу вам*
*па сакрэту,*
*Літаратурны супер-ас.*

*У роднае сяло, як куля,*
*Да бабкі кінуся хутчэй*
*І закрычу: — Недабабуля,*
*Расолу мне налі ямчэй!*

*Аддыхаўшыся, недадзеду*
*Скажу: — Чырвонец аднясі*
*Бліжэйшаму недасуседу —*
*Бярозавіку папрасі!*

*Калі ж сяброў хто запытае,*
*Чаму сказаў я "недамаць",*
*Я адкажу: — Хай кожны знае,*
*Лепш недабраць, чым перабраць!*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Час сціскаецца? Нешта неверагоднае. Тое, што ўпусціў учора, ужо не зрабіць сягоння? — Можа, штось і атрымаецца, але, з другога боку, сусвет увесь разбягаецца — вось у чым фокус... Шчасце гэта ці гора — не знаць абстрактных тэорый?

●

— Не выслухаў і паслаў на тры літары? Проста ці з прыназоўнікам?

— Прыназоўнік быў, але ж тая арганізацыя — во хуліган, ААН!

●

Сканаў, а не прыйшлі развітацца тыя, на каго старанна працаваў. Сітуацыя, можна сказаць, банальная, бо працаваў паведамляльнікам. Дык не напішаш жа на камені "сексот" — не зразумее народ. А як за "работу" аддзячыць "сексота"?

●

Завіхаецца бомж між лістоты сапселай — для святога стараецца: збірае на "белую". Колькі ж трэба ўсяго, каб набраць на бутэлечку!

●

З блакітнага экрана. "Уносяцца наступныя змяненні ў праграму: серыял будзе ісці семнаццаць імгненняў, астатняе — на рэкламу".

— У нас, як бачыце, усё навідавоку. Не зазірайце але, просім вас, з іншага боку.

●

Сацыялізм адмірае як грамадская фармацыя, і пачынаюць ажыццяўляцца камуністычныя летуценні: нешта ўжо раздаюць бясплатна — у электрычках рэкламныя бюлетэні.

●

Нешта з чалавечым тварам? Абавязкова штосьць нечалавечае.

●

Напісаў аповесць, панёс у часопіс. Надрукуем, кажуць, але знайдзі спонсараў. Знайшоў спонсараў. Прафінансуем, кажуць, але прабі нам пастанову. Звярнуўся да дэпутатаў. Прымем, кажуць, але дапамажы ў выбарчай кампаніі. Акунуўся з галавою ў выбарчую кампанію, але надышоў дзень, і дэпутатаў не пераабралі. Пастанову не прынялі, спонсары грошай не далі, часопіс аповесць вярнуў. Пляту цяпер лапці на сувеніры, даю ў лапу міліцыянеру, каб не прагнаў з месца, штовечар адлічваю рэкецiру палову заробку. Не ведаеце часопісаў, якія прымаюць аповесці без спонсараў?

●

Каротка пра тэлевізійную агародніну? Паўтарэнне пройдзенага.

●

Нарадзіўся 7 лістапада, і ніколі не мог па-людску адзначыць дзень нараджэння. Цяпер гадавіна рэвалюцыі нічога ўжо не значыць, але і яму ўрачы адно забараняюць, другое не дазваляюць. Сумна. Ад агульнага з рэвалюцыйнай датай застаўся хіба што дэвіз: "За што змагаліся!"

●

Ёсць за што яго спытаць! Дык такія звычайна знаюць, што адказаць.

●

Расказ суседа. Угледзеў аб'яву: "Дзесяць парад, як зарабіць капейчыну". Плата невялікая. Паслаў грошы. Атрымаў канверт з нейкімі фантастычнымі праектамі. "Не можаце ажыццявіць, распаўсюджвайце гэта пісьмо, акупіце затраты". Перапісаў тэкст і панёс у рэкламную газету. "Вы сёння дзесяты з такой аб'явай", — сказала касірка. Божа, колькі ў нас дурняў!

●

Узрос кошт жыцця? А наколькі, мой харошы? Ты ж сам казаў: нашы жыцці не вартыя і гроша. Няўжо чалавечы планктон цяпер каштуе мільён?

●

У найлягчэйшай катэгорыі, "вазе пяра"? Ці ж пуд пер'я лягчэйшы за пуд серабра? Чаму пры выжыманні штангі не ўлічваецца сівізна? У іншага ж за плячыма ношка, а ён "у вазе дзьмухаўца".

●

О, Беларусь, палігон генацыду, чуеш прыглушаны крык? Гэта тонее твая Атлантыда, мовы тваёй мацярык.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фота-карэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4009
Нумар падпісаны ў друк 30.12.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 7620/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


## *Вернісаж*







*Малюнкі Алега КАРПОВІЧА*